СЯРГЕЙ ГРЫЦАВЕЦ

ФІНСКАЯ ВАЙНА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 11 (16) – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

ЯК ЛІТВІНЫ ЗАВАЁЎВАЛІ СІБІР



СУЦІН: У ЧЫМ ЯГО ГЕНІЙ

КОМІКС!

СУПЕРБЕЛАРУСЬ-4. З'ЯЎЛЕННЕ КАЛІНОЎСКАГА

## Як СТАЛІН стварыў РУСКУЮ ПРАВАСЛАЎНУЮ ЦАРКВУ

16+

**Наша Гісторыя**
11/2019
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота Alexey Borodin, shutterstock.com.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 11.11.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 2601.
Наклад 5115 ас.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «НАВІТЭХ», друкарня «ГРАДЫЕНТ»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.

## Ад рэдакцыі

Яшчэ з часоў славутага старажытнарымскага палітыка, філосафа і аратара Марка Тулія Цыцэрона вядома, што гісторыя — гэта настаўніца жыцця (*historia magistra vitae*). Фраза гэтая кідкая, а таму і ходкая. Многія яе ведаюць і любяць цытаваць як у перакладзе, так і ў арыгінале.

Але цытаваць — адно, трымацца ж на практыцы — іншае. Мудрае і слушнае само па сабе выказванне антычнага мудраца прадугледжвае, што людзі мусяць са сваёй і чужой гістарычнай мінуўшчыны выносіць адпаведныя ўрокі, улічваць вопыт папярэдніх пакаленняў і ніколі не паўтараць іх памылак.

Каб так і рабілася, то чалавечае грамадства, відаць, даўно б ужо было цалкам дасканалым сацыяльным арганізмам. Але на самай справе ўсё зусім не так. Калі азірнуцца на ўсю сусветную гісторыю — то ў ёй многае нярэдка паўтараецца зноў і зноў. Магчыма, у новых умовах інакш па форме, але падобна па сутнасці. Бо траўматычны досвед бацькоў і дзядоў дзецьмі і ўнукамі пераждываецца ўжо зусім не так востра, для іх гэта звычайна ўжо тэорыя і абстракцыя. А тады можа здавацца, што і гістарычны негатыў быў на самай справе не такім ужо жудасным, і маштабы яго перабольшаныя...

І тут ужо недалёка ад пераканання, што колішнія рызыкоўныя і бязлітасныя сацыяльныя эксперыменты не ўдалося рэалізаваць не таму, што яны былі ад пачатку ўтопіяй — а таму, што да іх ажыццяўлення падышлі не з таго боку. Што крывавыя тыраны, якія ператварылі жыццё сваіх суграмадзян у пекла на зямлі, на самай справе вялікія, але належным чынам не ацэненыя дзяржаўныя дзеячы, несправядліва абылганыя палітычнымі праціўнікамі.

Што там далёка хадзіць. На сёлетняе святкаванне чарговай гадавіны «Вялікага Кастрычніка» журналіст сайта *Hrodna.life* Руслан Кулевіч узяў інтэрв'ю ў гродзенскай студэнткі, прыхільніцы камуністычнага руху. І запытаўся ў яе сярод іншага пра стаўленне да Сталіна ды ягонай спадчыны, атрымаўшы наступны адказ: «Калі ўлада прыйшла ў рукі Сталіна, гэта была мера. Жорсткая, але неабходная, каб усталяваць парадак. Цяжкія часы патрабуюць цяжкіх рашэнняў... Сталінскі рэжым я не асуджаю. Гэта была мера, якая патрабавалася на той момант».

Гістарычная памяць у такіх людзей кароткая, а таму яны могуць наіўна меркаваць, што жахі таталітарнага рэжыму — для тых, хто актыўна супрацьстаіць яму, а лаяльным і нават дапаможным нічога не пагражае. Але гісторыя сведчыць пра іншае. Калі законнасць у краіне цалкам падмяняецца палітычнай мэтазгоднасцю, а махавік рэпрэсій раскручваецца на поўны ход — то шанц патрапіць пад яго маюць абсалютна ўсе. І ўзлёты ды падзенні пры такіх абставінах — толькі воля сляпога выпадку. Пра тое пішуць у гэтым нумары «Нашай гісторыі» Ігар Лялькоў, Андрэй Дынько, Ганна Севярынец (**старонкі 4–14, 60–65**).


4


18


34










46




42


66


26






ЁН НЕ ЧУЕ, МУЗЫКА ГРАЕ.




80


94

# Як ~~Рузвельт~~ Сталін стварыў Рускую праваслаўную царкву

**Праваслаўе мае векавую гісторыю. Але ў такім арганізацыйным выглядзе, як Руская праваслаўная царква, гісторыя гэтая пачалася адносна нядаўна. Піша Ігар Лялькоў.**




**«Патрыярх Аляксій I на прыёме ў Сталіна».** Аляксій I (Сіманскі) стаў кіравацъ РПЦ з мая 1944 года пасля смерці патрыярха Сергія, а ў лютым 1945-га абраны на патрыярха. Заставаўся ім да самай сваёй смерці ў 1970 годзе, менавіта на ягонае патрыяршаства прыпалі і рэшта сталінскага кіравання, і вельмі праблемныя для Царквы хрушчоўскія часы. У Рускай царкве любяць тлумачыць змену пазіцыі Сталіна «Божым провідам». Аўтар гэтай карціны — Аляксандр Смолін — таксама намаляваў агіяграфічны вобраз генералісімуса і архірэяў.

### «Богададзены» і «богадараваны»

21 снежня 1949 года па ўсёй велізарнай савецкай краіне, ад Калінінграда да Уладзівастока, адбываліся ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 70-годдзю старшыні Савета Міністраў СССР, генералісімуса Савецкага Саюза Іосіфа Сталіна. Адно з іх праходзіла ў Ялохава-Богаяўленскім саборы ў Маскве, дзе адбыўся святочны малебен за здароўе юбіляра.

Перад пачаткам малебна да прысутных звярнуўся з прамоваю Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій (Сіманскі): «Сёння наша краіна святкуе дзень нараджэння і сямідзесяцігоддзе свайго Правадыра, Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна... Ён — прызнаны ўсім светам правадыр не толькі народаў Савецкай дзяржавы, але і ўсіх працоўных; ён — першы ў шэрагу паборнікаў і абаронцаў міру сярод народаў, міру ва ўсім свеце... Мы, царкоўныя людзі, павінны дзякаваць яму асабліва за яго спагадлівае стаўленне да нашых царкоўных патрэб... Святая Царква наша мае ў ім вернага абаронцу... Няхай дасць яму Госпад шмат гадоў у здароўі ды дабрабыце стаяць ля стырна праўлення роднай краінай».

Пасля гэтага, як пісаў «Журнал Московской патриархии», «малебен быў адслужаны саборна: патрыярхам, трыма архірэямі ды настаяцелямі ўсіх маскоўскіх храмаў».

Увогуле, у той час на старонках свайго афіцыйнага часопіса

вышэйшыя праваслаўныя іерархі не шкадавалі хвалебных эпітэтаў для галоўнага савецкага атэіста, асабіста адказнага за фізічнае вынішчэнне тысяч прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства ў СССР. Яны называлі яго «Богададзеным Правадыром» (Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Сергій (Страгародскі)), «богадараваным Вярхоўным Правадыром нашым», «нашым любімым, Богам дадзеным Вярхоўным Правадыром» (мітрапаліт Ленінградскі і Наўгародскі, а пазней — патрыярх Аляксій (Сіманскі)), «найлюбым правадыром нашага народа, геніяльным Вярхоўным Галоўнакамандуючым нашага воінства, Богам пастаўленым на свой подзвіг служэння нашай Радзіме» (мітрапаліт Круціцкі і Каломенскі Мікалай (Ярушэвіч)). Як піша расійскі гісторык Міхаіл Бабкін, «у царскай Расіі прадстаўнікі вышэйшага духавенства ўстрымліваліся іменаваць імператараў тымі эпітэтамі, якімі ў 1943–1953 гадах яны называлі І. В. Сталіна». І гэта пры тым, што ў Расійскай імперыі манарх афіцыйна з'яўляўся «Вярхоўным кіраўніком» Праваслаўнай царквы!

Але трэба прызнаць, што тагачасныя кіраўнікі расійскага праваслаўя сапраўды мелі падставы быць удзячнымі крамлёўскаму дыктатару.

### Руская праваслаўная царква — толькі з 1943 года

Царкоўная арганізацыя пад назвай «Руская праваслаўная царква» з'явілася на свет увосень 1943-га. Гістарычна ёй папярэднічалі розныя іншыя структуры, у межах якіх праходзіла царкоўнае жыццё праваслаўных хрысціян на тэрыторыі сённяшняй Расіі.

Да 1589 года праваслаўныя абшчыны Маскоўскага княства і пазнейшага Рускага царства знаходзіліся ў юрысдыкцыі Усяленскага Канстанцінопальскага патрыярхата.

## Прэзідэнт ЗША Рузвельт наўпрост абумовіў ленд-ліз свабодай рэлігіі

У перыяд з 1589-га па 1721-ы яны былі падпарадкаваныя Маскоўскай царкве на чале з Архіепіскапам Маскоўскім і ўсяе Расіі ды ўсіх паўночных краін Патрыярхам.

Пасля абвяшчэння ў 1721 годзе Расійскай імперыі гэтая Царква як арганізацыя была скасаваная, а непасрэднае кіраўніцтва царкоўным жыццём сваіх праваслаўных падданых узяла на сябе дзяржава, для чаго быў створаны адмысловы ўрадавы орган — Свяцейшы правячы сінод. Пры гэтым вярхоўным кіраўніком усіх праваслаўных Расійскай імперыі не толькі фактычна, але і афіцыйна з'яўляўся сам імператар.

Распад імперыі і наступны прыход да ўлады бальшавікоў з іх ваяўнічым бязбожніцтвам натуральным чынам пацягнуў за сабою распад і гэтай царкоўнай арганізацыі. На яе аскепках з 1917-га пачалі паўставаць новыя формы: Праваслаўная расійская царква (пазней — Памесная расійская праваслаўная царква на чале з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Расіі), Расійская праваслаўная царква (пазней — Праваслаўная царква ў СССР), «Жывая Царква», Свабодная працоўная царква ды іншыя. ▸

### З 25-ці ацалеў адзін

Пра маштаб і бязлітаснасць сталінскіх рэпрэсій супраць праваслаўнай царкоўнай іерархіі, нават цалкам лаяльнай і падкантрольнай, сведчыць наступны факт. Ужо пасля афіцыйнага афармлення Рускай праваслаўнай царквы патрыярх Сергій 27 кастрычніка 1943 года звярнуўся да ўрадавага куратара Царквы Георгія Карпава з хадайніцтвам аб амністыі 25-ці архірэеў, якія былі арыштаваныя і мусілі знаходзіцца ў зняволенні, каб **«прыцягнуць іх да царкоўнай працы»**. Але аказалася, што з гэтых дваццаці пяці жывым да таго часу застаўся толькі адзін — епіскап Мікалай (Магілеўскі). Астатнія былі ці ўжо расстраляныя, ці загінулі ў лагерах.


WIKIMEDIA COMMONS

**Патрыярх Сергій іменаваў Сталіна «Богададзеным Правадыром»**, хаця яго дарога да патрыяршаства прайшла і праз вязніцу.

## Царкву ўратавала вайна

Рэпрэсіўная палітыка савецкай улады ў дачыненні да любых рэлігійных арганізацый прывяла да таго, што да 1939-га царкоўная структура ва ўсім Савецкім Саюзе была практычна зруйнаваная.

Але з пачаткам Другой сусветнай вайны сітуацыя істотна змянілася: савецкія захопы тэрыторый ва Усходняй Еўропе прывялі да таго, што ў межах СССР апынуліся мільёны арганізаваных праваслаўных вернікаў Заходніх Беларусі і Украіны, краін Балтыі, Бесарабіі і Паўночнай Букавіны. А былі яшчэ і іншыя хрысціянскія канфесіі. Натуральна, савецкая рэпрэсіўная машына актыўна запрацавала і там, аднак для поўнага знішчэння царкоўнага жыцця на новадалучаных землях ёй элементарна не хапіла часу. Да лета 1941-га колькасць хрысціянскіх храмаў (уключна з каталіцкімі ды ўніяцкімі) ва ўсім СССР складала 3 732, з іх 3 350 знаходзіліся на тэрыторыі заходніх рэгіёнаў, далучаных у 1939–1940 гадах. З агульнай колькасці 5 665 святароў каля 90% служылі там жа.

Вайна з Германіяй, якая распачалася ў чэрвені 1941 года, яшчэ больш ускладніла «канчатковае вырашэнне» рэлігійнага пытання. Ва ўмовах вымушанага ваенна-палітычнага саюзу з Вялікабрытаніяй і ЗША Сталін аказаўся перад неабходнасцю спыніць антырэлігійную ды антыцаркоўную кампаніі ў СССР, якія мелі крайне негатыўнае ўздзеянне на грамадскую думку саюзных дзяржаў. Ужо ў кастрычніку 1941-га прэзідэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвельт наўпрост абумовіў аказанне дапамогі СССР паслабленнем рэпрэсій супраць рэлігіі. Другім істотным фактарам у паслабленні антырэлігійных захадаў было царкоўнае адраджэнне на тэрыторыях, якія знаходзіліся пад кантролем Германіі: пасля пераходу ў стратэгічнае наступленне ў канцы 1942-га Чырвоная армія і карныя органы СССР з меркаванняў палітычнай мэтазгоднасці не маглі адразу аднаўляць на тых землях, якія яны пастунова займалі, папярэднюю жорстка рэпрэсіўную практыку.

### Калі немагчыма знішчыць — трэба ўзначаліць!

Выглядае на тое, што прынцыповае рашэнне аб стварэнні новай праваслаўнай царкоўнай арганізацыі, цалкам падпарадкаванай дзяржаве, савецкі правадыр прыняў у чэрвені 1943 года, калі даручыў Наркамату дзяржаўнай бяспекі сабраць і падаць яму матэрыял аб стане праваслаўных царкоўных абшчын, жывых на той момант праваслаўных іерархах, іх поглядах, падрабязнасцях іхніх біяграфій і жыцця падчас вайны. Сталін асабіста вельмі старанна вывучыў атрыманыя матэрыялы і прыняў яшчэ адно важнае рашэнне: у наваствoранай «дзяржаўнай царкве» зрабіць стаўку на «сергіянцаў» — прыхільнікаў «патрыяршай» царквы і яе лідара — мітрапаліта Сергія (Страгародскага), а не на «абнаўленцаў» — прыхільнікаў першаіерарха Праваслаўных цэркваў у СССР Аляксандра (Увядзенскага).



**Патрыярх Аляксій I** на фоне партрэта Сталіна.

Можна меркаваць, што ў «сергіянцах» былога навучэнца Тыфліскай духоўнай семінарыі прыцягвала не столькі колькасна больш шматлікая паства, колькі большы цэнтралізм і традыцыяналізм. У час вайны Сталін зразумеў сілу і важнасць для сябе рускага патрыятызму, які да вайны рэжым рэпрэсаваў. Да таго ж, сам Сергій ужо да гэтага часу аказаў саветам не меншыя паслугі, чым «ручныя» абнаўленцы. Чаго вартая толькі яго сумнавядомая дэкларацыя 1927 года «Аб стаўленні Праваслаўнай расійскай царквы да наяўнай цывільнай улады», у якой ён запатрабаваў ад праваслаўных святароў «даць пісьмовае абавязальніцтва ў поўнай лаяльнасці да Савецкага ўрада ва ўсёй сваёй грамадскай дзейнасці. Тыя, хто не дасць такога абавязальніцтва, будуць выключаныя са складу кліру, падведамаснага Маскоўскай

**Да лета 1941-га** колькасць хрысціянскіх храмаў (уключна з каталіцкімі ды ўніяцкімі) ва ўсім СССР складала 3 732, з іх 3 350 знаходзіліся на тэрыторыі заходніх рэгіёнаў, далучаных у 1939–1940 гадах. З агульнай колькасці 5 665 святароў каля 90% служылі там жа.

патрыярхіі». Нязгода з гэтай дэкларацыяй каштавала жыцця многім «святарам-пакутнікам», і ў канцы лета 1943-га Сталін, несумненна, памятаў пра гэта пры вызначэнні першаіерарха будучага «савецкага праваслаўя».

### Сергіянцы і месцаблюсціцель

«Сергіянства» атрымала назву ад імя мітрапаліта Сергія (Страгародскага) (1867—1944).

Калі ў красавіку 1925 года памёр патрыярх Ціхан, умоваў для выбараў ягонага наступніка не было, а таму кіраванне Царквой часова пераходзіла ў рукі т. зв. «месцаблюсціцеля». Ім стаў мітрапаліт Круціцкі Пётр (Палянскі). Ён адмовіўся пайсці на супрацоўніцтва ▸




Канферэнцыя рэлігійных аб'яднанняў **«у абарону міру», 1952 год.**

# Абнаўленства не ўратавала

Абнаўленства — рух у расійскім праваслаўі, які ўзнік у пачатку 1920-х гадоў. Атрымаў назву ад таго, што дэклараваў за мэту «абнаўленне» Праваслаўнай царквы: дэмакратызацыю кіравання ёй і мадэрнізацыю набажэнстваў. Абнаўленцы падтрымалі савецкую ўладу і публічна выказаліся за сацыяльныя пераўтварэнні, якія яна праводзіла. У той жа час яны выступілі рэзка супраць палітыкі патрыярха Ціхана, які ў той час стаяў на чале афіцыйнай Праваслаўнай царквы.

Патрыяршаства абнаўленцы лічылі «манархічным і контррэвалюцыйным спосабам кіравання Царквой», выступалі за ліквідацыю манаства і права святароў браць шлюб паўторна. Былі і іншыя рэфармісцкія дэкларацыі, але на практыцы яны ў жыццё амаль не праводзіліся, ды і ў тэорыі хутка ад іх адмовіліся.

Абнаўленства не было ўнутрана адзіным, яно дзялілася на розныя адгалінаванні, што нярэдка былі ў канфлікце паміж сабой: «Жывая Царква», Саюз царкоўнага адраджэння, Саюз абшчын стараапостальскай царквы і іншыя. Усе яны знаходзіліся пад кантролем савецкіх спецслужбаў і выкарыстоўваліся для развалу Царквы і падрыву рэлігійнай веры.

У першай палове 1920-х гадоў абнаўленцы былі адзінай праваслаўнай царкоўнай арганізацыяй, якая афіцыйна прызнавалася дзяржаўнымі ўладамі РСФСР. У 1922–1923 гадах больш за палову расійскага епіскапату і прыходаў знаходзіліся ў падпарадкаванні абнаўленчых структур. Праз іх савецкія ўлады імкнуліся ўнесці раскол у царкоўныя асяродкі і пазбавіць глебы пад нагамі тых іерархаў, якія спрабавалі супрацьстаяць іх палітыцы.

Але пасля вызвалення савецкімі ўладамі летам 1924-га арыштаванага за два гады да таго патрыярха Ціхана, які прызнаў савецкую ўладу і «канчаткова ды рашуча» адмежаваўся «як ад замежнай, так і ўнутранай манархічна-белагвардзейскай контррэвалюцыі», абнаўленчыя структуры сталі страчваць ранейшыя ўплывы. У канцы 1933 года ім належала толькі 11% усіх храмаў, якія да таго часу заставаліся ў СССР.

Поўная лаяльнасць да ўладаў і падкантрольнасць ім не ўратавала абнаўленцаў ад масавых рэпрэсій падчас Вялікага тэрору 1930-х. Пасля іх, страціўшы большасць епіскапаў і простага духавенства, яны ўжо не акрыялі. Пасля таго ж, як дзяржава канчаткова зрабіла стаўку на іх апанентаў-«сергіянцаў», абнаўленчы праект фактычна закрыўся. Канчатковую кропку ў ім паставіла смерць у 1951 годзе мітрапаліта Філарэта (Яцэнкі) — апошняга абнаўленчага іерарха, які да таго часу заставаўся. Усе астатнія на той момант прынялі пакаянне і далучыліся да афіцыйнай Рускай праваслаўнай царквы.




Справа налева: Вячаслаў Молатаў, Іосіф Сталін і Георгій Карпаў — **адказны ў НКВД за знішчэнне Царквы, які ў 1943 годзе стаў яе фактычным кіраўніком.**

з бальшавіцкімі спецслужбамі (ГПУ) на іх умовах, якія ўтрымлівалі выданне паслання, што заклікала б духавенства і вернікаў да лаяльнасці адносна савецкай улады, адхіленне непажаданых уладам архірэяў, асуджэнне замежных епіскапаў і кантакт пры сваёй дзейнасці з урадам у выглядзе прадстаўніка ГПУ.

Не здолеўшы зламаць мітрапаліта Пятра, у снежні 1925 года ГПУ яго арыштавала, а кіраваць Царквой на правах «намесніка местаблюсціцеля» стаў мітрапаліт Ніжагародскі Сергій. З канца 1936 года ён стаў і афіцыйна «месцаблюсціцелем», калі прыйшла вестка пра нібыта смерць мітрапаліта Пятра ў зняволенні, хоць на самай справе той быў расстраляны толькі ў наступным годзе.

У лістападзе 1926 года Сергій таксама быў арыштаваны і, у адрозненне ад свайго папярэдніка, ціску ГПУ не вытрымаў. Пасля выхаду вясной 1927-га на волю ён у ліпені таго ж года выступіў з дэкларацыяй, у якой адзначалася, што ў бягучай сітуацыі «важна паказаць, што мы, царкоўныя дзеячы, не з ворагамі нашай Савецкай дзяржавы і не са сляпымі прыладамі іх інтрыг, а з нашым народам і ўрадам». Было ў дэкларацыі шмат і іншых вернападданніцкіх пасажаў.

**ГПУ распаўсюдзіла вестку пра смерць мітрапаліта Пятра ў зняволенні, хоць на самай справе той быў расстраляны праз год**

Пасля гэтага Сергій і ягоныя прыхільнікі кіравалі дзейнасць Праваслаўнай царквы ў цалкам лаяльным у дачыненні да ўладаў рэчышчы, хоць многія іерархі дэкларацыі не прынялі і ад падпарадкавання Сергію адмовіліся. Гэта дазваляла Сергію атрымліваць ад уладаў дробныя і неістотныя саступкі, але ніяк не ратавала ад рэпрэсій у дачыненні да духавенства: пасля Вялікага тэрору 1937–1938 гадоў на волі засталіся, акрамя самога Сергія, толькі тры архірэі — завербаваныя тым самым НКВД, якое іншых іерархаў знішчыла. Тым не менш менавіта «сергіянцам» пасля пачатку Другой сусветнай вайны ўлады дазволілі ўзяць пад апеку праваслаўных вернікаў тэрыторый, далучаных у 1939–1940 гадах — абнаўленцаў туды не пусцілі. У Маскве ўсведамлялі, што мясцовыя вернікі «новых» царкоўнікаў не ўспрымуць, і гэта толькі ўмацуе антысавецкія настроі.

Пасля нападу Германіі на СССР у чэрвені 1941-га мітрапаліт Сергій неаднаразова выступаў з патрыятычнымі пасланнямі, зваротамі і малебнамі, арганізаваў праз Царкву збор сродкаў на патрэбы арміі.

### Русі, а не Расіі

30 жніўня 1943-га начальнік 5-га аддзела 2-га ўпраўлення НКГБ СССР (менавіта гэты аддзел займаўся барацьбой з рэлігіяй) палкоўнік дзяржбяспекі Георгій Карпаў тэрмінова даставіў мітрапаліта Сергія ды яго супрацоўнікаў з Ульянаўска, дзе кіраўніцтва «патрыяршай царквы» знаходзілася ў эвакуацыі, у Маскву. Удзень 4 верасня на сваім лецішчы ў Кунцаве пад Масквой Сталін правёў кароткую нараду з начальнікам упраўлення кадраў, сакратаром ЦК ВКП(б) Георгіем Маленковым і наркамам унутраных спраў СССР Лаўрэнціем Берыя. Тады ж яму прадставілі палкоўніка Карпава як кандыдата на пасаду кіраўніка органа «па справах Праваслаўнай царквы». З кабінета Сталіна Карпаў патэлефанаваў Сергію і задаў усяго адно пытанне: ці гатовы ён разам з іншымі «сергіянскімі» мітрапалітамі Аляксіем (Сіманскім) і Мікалаем (Ярушэвічам) прыбыць

**Прычынай змены тытула** з «Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Расіі» на «Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі» быў факт, што «Расіяй» у СССР называлася толькі частка краіны, а слова «Русь» несла асацыяцыю з Кіеўскай Руссю.

неадкладна да старшыні СНК СССР «для абмеркавання пытанняў аб становішчы Праваслаўнай царквы»?

Натуральна, што ад такога ветлівага запрашэння іерархі адмовіцца не маглі. Ужо праз дзве гадзіны яны былі ў кабінеце Сталіна ў Крамлі, дзе ў прысутнасці Георгія Карпава і першага намесніка старшыні Саўнаркама, наркама замежных спраў СССР Вячаслава Молатава «вярхоўны правадыр» асабіста ім абвясціў, што «Царква можа разлічваць на ўсебаковую падтрымку ўрада ва ўсіх пытаннях, звязаных з яе арганізацыйным умацаваннем і развіццём унутры СССР». Асноўным такім пытаннем стала стварэнне новай структуры кіравання праваслаўным жыццём у краіне.

З агульнай згоды гэтая структура атрымала назву Руская (не Расійская!) праваслаўная царква, а яе будучы ачольнік Сергій атрымаў згоду Сталіна называцца «Свяцейшым Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі». Згодна з меркаваннем царкоўнага гісторыка Уладзіслава Цыпіна, «прычынай змены тытула з “Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Расіі” на “Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі” быў факт, што “Расіяй” у СССР называлася толькі частка краіны; а слова “Русь” несла асацыяцыю з Кіеўскай Руссю, у якой продкі праваслаўных рускіх, украінцаў і беларусаў былі адзіным народам; слова “Русь” таму абазначала тэрыторыю большую, чым “Расія”».

## «А ці нельга праявіць бальшавіцкія тэмпы?»

Калі гэтае пытанне было вырашана, Сталін пацікавіўся, як хутка можа быць скліканы Архірэйскі сабор для абвяшчэння новай Царквы і выбараў яе першаіерарха. Далей цытуем дакладную запіску прысутнага на сустрэчы палкоўніка Карпава: «Мітрапаліт Сергій адказаў, што Архірэйскі сабор можна будзе сабраць праз месяц, і тады т. Сталін усміхнуўся і сказаў: “А ці нельга праявіць бальшавіцкія тэмпы?”. Звярнуўшыся да мяне, запытаўся пра маю думку, я выказаўся, што калі мы дапаможам мітрапаліту Сергію адпаведным транспартам для хутчэйшай дастаўкі епіскапата ў Маскву (самалётамі), то сабор мог бы быць сабраны і праз 3—4 дні. Пасля кароткага абмену думкамі дамовіліся, што Архірэйскі сабор збярэцца ў Маскве 8 верасня».

Тут жа, на месцы, вырашылася і пытанне аб памяшканні для наваствoранай патрыярхіі. У адказ на пажаданне Сергія аддаць у ягонае распараджэнне былы ігуменскі корпус у Новадзявочым манастыры Сталін заўважыў, што гэтыя памяшканні цяпер не ў належным стане і патрабуюць капітальнага рамонту. А замест іх «прапанаваў» узяць трохпавярховы асабняк у Чыстым завулку, што раней ►


WIKIMEDIA COMMONS

**Мітрапаліт Філіп, які крытыкаваў бясчынствы цара Івана Жахлівага і апрычніны,** быў высланы, а пасля забіты ў манастыры. Праз 100 гадоў па ініцыятыве патрыярха Нікана яго прызнаюць святым. **На фота:** абраз XVII стагоддзя. Для Сталіна Іван Жахлівы, як і Пётр I, быў узорам моцнага ўладара. Мітрапаліт Філіп стаў сімвалам нязломнасці «духоўнай улады».




Генеральны сакратар ЦК КПСС, верны ленінец Леанід Брэжнеў, будучы патрыярх (з 1990 па 2008) Аляксій (тады кіраўнік спраў Маскоўскай патрыярхіі), тагачасны дзейны патрыярх Пімен і рабін Якаў Фішман **падымаюць бакалы на прыёме з нагоды 60-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі.** 1977 год.

▶ быў заняты былым нямецкім паслом Фрыдрыхам-Вернерам фон дэр Шуленбургам. Асабняк перадаваўся з усёй маёмасцю і мэбляй. У ім, можна быць пэўным, стаяла нямала «жучкоў».

На развітанне з будучымі кіраўнікамі толькі што створанай Царквы старшыня СНК задаў ім вонкава простае, але насамрэч злавеснае пытанне: «Урад мяркуе стварыць адмысловы дзяржаўны апарат, які будзе называцца Савет па справах Рускай праваслаўнай царквы, і старшынёй савета мяркуецца прызначыць таварыша Карпава. Як вы гледзіце на гэта?». Паводле сведчання самога Карпава, «усе ўтрох заявілі, што яны вельмі добразычліва прымаюць прызначэнне на гэтую пасаду таварыша Карпава». Іронія сітуацыі была ў тым, што аддзел, якім Карпаў кіраваў у НКГБ, адказваў акурат за змаганне з «контррэвалюцыйным духавенствам». Прызначэнне менавіта яго на пасаду наглядчыка за Царквой дадаткова сведчыла, што пра нейкую хоць бы адносную самастойнасць Сергію з паплечнікамі не варта і марыць.

Сустрэча ў Крамлі скончылася ўначы з 4 на 5 верасня 1943-га, а ўжо праз тры дні ў асабняку ў Чыстым завулку распачаўся Архірэйскі сабор, на які з’ехаліся 19 праваслаўных іерархаў. Па прапанове мітрапаліта Аляксія на патрыяршы прастол быў аднагалосна абраны мітрапаліт Сергій. У той жа дзень новаабраны патрыярх асабіста паведаміў пра гэта самому Іосіфу Вісарыёнавічу адмысловым лістом.

### «Тры валхвы»: Сталін, Карпаў, Молатаў

На наступны дзень пасля гэтай гістарычнай для праваслаўя падзеі, 9 верасня, наркам дзяржаўнай бяспекі Усевалад Мяркулаў падаў Сталіну і Молатаву праект пастановы СНК СССР аб стварэнні Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы. 14 верасня 1943-га пастанова аб стварэнні новага органа, падпарадкаванага непасрэдна Саўнаркаму, была зацверджаная.

Новапрызначаны старшыня савета Георгій Карпаў захаваў за сабой і пасаду начальніка «царкоўнага аддзела» ў структуры НКГБ (да 1947 года). Старшынёй Савета па справах РПЦ і фактычным кіраўніком гэтай Царквы Карпаў заставаўся да 1960 года, пры гэтым да 1955-га застаючыся дзейным супрацоўнікам НКГБ-МГБ-КГБ у званні генерал-маёра дзяржбяспекі.

У 1960-м Карпаў сышоў, але на змену яму прыйшоў іншы высокапастаўлены чэкіст — генерал-лейтэнант КГБ Уладзімір Кураедаў. У адміністрацыйным плане Савет цалкам кіраваў Рускай праваслаўнай царквой да 1965 года, калі гэтае кіраванне перайшло да навастворанага Савета па справах рэлігій. У рэгіёнах дзейнічалі ўпаўнаважаныя Савета, якія мелі права забараніць богаслужэнне любому святару.

Такім чынам, не будзе перабольшаннем сказаць, што нараджэнне сучаснай Рускай праваслаўнай царквы (якая з 2000-га мае і другую афіцыйную назву — Маскоўскі патрыярхат) адбылося ў ноч з 4 на 5 верасня 1943 года ў маскоўскім Крамлі. У гэтую ноч над яе калыскай у кабінеце старшыні Саўнаркама СССР стаялі «тры валхвы»: яе фактычны стваральнік Іосіф Сталін, яе фактычны першы кіраўнік Георгій Карпаў, а таксама наркам замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў. Прысутнасць апошняга была зусім не выпадковай. Напярэдадні Тэгеранскай канферэнцыі саюзнікаў ды з улікам планаў Сталіна па стварэнні «праваслаўнага Ватыкана» з цэнтрам у Маскве яна мела свой асаблівы сэнс. Але гэта ўжо тэма для іншага артыкула... ◆




**Антырэлігійны плакат аўтарства мастакоў Дзмітрыя Маора і Пятра Карачанцава** (бацькі вядомага артыста Мікалая Карачанцава). 1939 год.



# «Канчатковае вырашэнне» праваслаўнага пытання ў даваеннай БССР

**У 1938 годзе на ўсю БССР заставаліся 3 — тры — адкрытыя царквы: у Бабруйску, Оршы і Мазыры. У іх служылі завербаваныя НКВД агенты-святары, у задачу якіх уваходзіла выяўляць вернікаў-актывістаў.**

Выяўленых — арыштоўвалі, «судзілі» па артыкулах аб «антысавецкай дзейнасці». Арыштаваных або забівалі, або адпраўлялі на 10–25 гадоў у канцлагеры. У турмах асабліва ўпартых арыштаваных святароў і епіскапаў аддавалі на здзек у блатныя камеры — уркам, якія сівых бацюшак мачалі галавой у парашу.

НКВД БССР лічыла, што трох цэркваў мала для збору інфармацыі, і наркам Аляксей Наседкін накіраваў у ЦК ВКП(б) прапанову адкрыць яшчэ 10–12 цэркваў, у якіх служылі б агенты або такія святары, якія б сваімі паводзінамі дыскрэдытавалі царкву: «*Для быстрого нанесения оперативного удара по антисоветскому церковному активу и для антирелигиозного разложения отсталых религиозных масс считаем необходимым допустить возобновление служб в ряде церквей (10–12), которые функционируют и вопрос о которых не поднимался*», — цытуецца дакумент у кнізе Андрэя Заеркі «Поруганное православие. История белорусской церкви. 1917–1939».

Кадры з ліку агентуры? На ўліку органаў унутраных спраў па стане на 1938 год стаялі 15 святароў, 13 з якіх былі зняўшы з сябе сан. 15, прытым толькі 2 пры сане — на цэлую рэспубліку! ▸



Як памяць пра эпоху барацьбы з рэлігіяй па ўсёй Усходняй Беларусі стаяць разбураныя цэрквы — часам сапраўдныя архітэктурныя шэдэўры, як вось гэтая **ў Белай Царкве (Чашніцкі раён Віцебскай вобласці), на высокім мысе над возерам.**

**НКВД падтрымліваў у Царкве слабых супраць моцных, амбітных супраць ціхмяных. Не даваў узмацніцца ніводнай групе, трымаючы раўнавагу сілаў, каб вакол нікога не магло адбыцца аб'яднанне**

Няўмольная машына савецкіх спецслужбаў з часам перамеле і саміх выканаўцаў. Але спачатку яна была накіраваная на «варожыя слаі». Ані кампраміснасць мітрапаліта Мелхіседэка, ані гарачнасць епіскапа Іаана (Пашына), ані маладушнасць (такім яго лічыла ГПУ) Філарэта (Раменскага) — нічога з гэтага не ратавала ані Царквы, ані жыцця. Ніхто з іх не выжыве, а Царкву знішчаць.

Гэта пасля, у 1943 годзе, ацалелых святароў-інфарматараў НКВД вернуць да служэння.

## Доўгая праца па развале

Андрэй Заерка ў сваёй кнізе паказаў, як ГПУ раздзімала канфлікты ў царкоўным асяроддзі, спрыяла ім, як старанна працавала над тым, каб у кожнай епархіі зарадзілася некалькі плыняў, кожная з якіх спадзявалася, што гэта яна выжыве, што гэта яна захаваецца, а прыналежнасць да іншых смяротна небяспечная для душы ці для цела.

Спачатку падтрымлівалі слабых супраць моцных, амбітных супраць ціхмяных. Не давалі ўзмацніцца ніводнай групе, трымаючы раўнавагу сілаў, каб вакол нікога не магло адбыцца аб'яднанне.

ГПУ прымусіла мітрапаліта Сергія (Страгародскага) пад пагрозай забойства ўсіх святароў Царквы абвяргаць заявы замежных цэркваў пра пераслед вернікаў у СССР.

Пасля суда над мітрапалітам Мелхіседэкам ГПУ

**Чытайце таксама:**
Андрей Заерко «Поруганное православие. История белорусской церкви. 1917–1939»




WIKIMEDIA COMMONS, BY SIARHEI SHVAIKO

**Мелхіседэк (Міхаіл Паеўскі)** — праваслаўны іерарх родам з Падляшша, сын святара, археолага і краязнаўцы Льва Паеўскага. Да рэвалюцыі служыў ва Украіне і на Каўказе, у 1916 годзе стаў епіскапам Кранштацкім, пасля Ладажскім, вікарыем Петраградскай епархіі. У 1919-м пераведзены ў Беларусь, стаў спачатку епіскапам Слуцкім, а з 1921-га — Мінскім і Тураўскім. 23 ліпеня 1922 года ў Мінску адбыўся епархіяльны з'езд, які вырашыў стварыць аўтаномную беларускую мітраполію і абраў Мелхіседэка мітрапалітам з тытулам Мінскі і Беларускі. 18 жніўня 1922 года была абвешчана Беларуская аўтаномная царква. З боку савецкай улады яе абвяшчэнне трактавалася як контррэвалюцыйнае дзеянне, у сувязі з чым была распачатая крымінальная справа. Мітрапаліт Мелхіседэк патрапіў пад рэпрэсіі, цягам 1924–1927 гадоў неаднаразова судзіўся, патрапляў у зняволенне, высылаўся. У 1928-м вызвалены, але ў Беларусь не вярнуўся, прызначаны на Енісейскую і Краснаярскую кафедру. У маі 1931 года прыехаў у Маскву на царкоўны Сінод, раптоўна памёр падчас адпраўлення службы пры нявысветленых абставінах.

**Іаан (Іван Пашын)** — праваслаўны іерарх родам з Петрыкава, выхадзец са святарскай дынастыі. Перад вайной служыў на Мазыршчыне і Міншчыне, у 1923 годзе рукапаложаны мітрапалітам Мелхіседэкам у сан епіскапа Мазырска-Тураўскага вікарыяцтва. Жыў у Петрыкаве, актыўна ездзіў па епархіі, зладзіў у сябе дома царкоўна-прыходскую школу. У 1926 годзе арыштаваны, высланы на 3 гады ў Комі АССР. У 1929-м пераведзены на вольнае пасяленне ў Курскую вобласць, там прызначаны епіскапам Рыльскім. У 1932 годзе зноў арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў зняволення ў лагерах, у 1938-м расстраляны.

**Філарэт (Феадосій Раменскі)** — праваслаўны іерарх родам з Рагачоўскага павета (цяпер Жлобінскі раён). Служыў у Мінску, у 1923 годзе рукапаложаны мітрапалітам Мелхіседэкам у сан епіскапа Бабруйскага. У жніўні 1927-га быў старшынёй з'езда прадстаўнікоў духавенства і вернікаў Беларускай праваслаўнай епархіі, на якім было абвешчана аб стварэнні аўтакефаліі Беларускай царквы. У 1935-м прынёс пакаянне і вярнуўся ў «ціханаўскую» Царкву (ці хутчэй ужо ў «сергіянскую»). У 1937-м арыштаваны і расстраляны.

распаўсюджвала чуткі, быццам ён разам з усімі прысутнымі спяваў «Інтэрнацыянал».

## Ці шмат было юдаў?

Па стане на 1928 год — пасля ўсіх першых хваляў рэпрэсій, калі ўжо была арыштавана большая частка епіскапаў, калі многія адышлі ад Царквы або пакінулі краіну, бачачы, куды ўсё коціцца, — у Беларусі заставалася каля 1 080 праваслаўных святароў.

Тады, па звестках ГПУ, у БССР дзейнічала каля 340 святароў, што адносілі сябе да Аўтакефальнай праваслаўнай царквы, каля 430 святароў, верных «ціханаўскай царкве», і каля 310 «абнаўленцаў».

А ў 1938-м, як вышэй адзначалася, на свабодзе з іх заставалася ўсяго 15. Выходзіць, толькі 1,5% з іх апусціліся да такой ступені, што іх пакінуць на свабодзе да 1938 года.

Астатнія да гэтага моманту будуць або забітыя, або адпраўленыя ў канцлагеры. За што? За публічнае чытанне Евангелля, за правядзенне хросту дзяцей... За што хочаш.

Уладыкі спрабавалі розныя тактыкі. Мітрапаліт Мелхіседэк, да прыкладу, усе 1920-я шукаў кампрамісаў, спадзеючыся захаваць Царкву ў новай сістэме.

## Можа, трэба было супрацоўнічаць?

Ці спраўджваюцца знакамітыя словы Салжаніцына пра памылку тых, хто не супрацоўляўся? Што каб супрацоўляліся энкавэдыстам са зброяй, то і тыя баяліся б?

Не, акурат кампраміс даваў шанц выжыць ці прынамсі пражыць даўжэй. А гэта давала ▶




Дэлегацыя Рускай праваслаўнай царквы **на пахаванні Сталіна.**

хоць прывідны, але шанц дажыць да смерці тырана або змены міжнароднай сітуацыі, што магло спыніць крывавую мясарубку.

Тых, што супраціўляліся адкрыта, забівалі адразу.

Больш таленавітых, найбольш здатных арыштоўвалі першымі. Менш таленавітых, непапулярных пакідалі на свабодзе.

## Царква ў гета

Спачатку, у першай палове 20-х, арыштоўвалі тых, хто ўдзельнічаў у нейкіх акцыях супраць савецкай улады. У другой палове 20-х арыштоўвалі тых, хто выступаў супраць савецкай улады на словах. Але гэта не перашкаджала судзіць і тых, каго проста лічылі занадта папулярнымі — суд над крайне стрыманым мітрапалітам Мелхіседэкам адбыўся ў 1925-м.

Ад 1929-га сталі арыштоўваць тых, супраць каго і доказаў не было, але ў прыходах якіх адбываліся бунты супраць савецкай улады.

Пасля, у 1930-х, сталі арыштоўваць і высылаць усіх агулам — проста каб выканаць спушчаны зверху план.

Нарэшце, надышоў 1937 год, калі было прынята рашэнне пра канчатковае вырашэнне царкоўнага пытання. Сталі пагалоўна расстрэльваць усіх: не толькі тых, хто быў святаром, але і тых, хто *быў* святаром *калісьці*.

15 гадоў Царква дзейнічала ў гета, па ўсіх законах гета. Страшны спектакль: апускаецца рука, выхоплівае чалавека. Астатнія застаюцца. Што хто робіць? Гэтая сартраўская, быкаўская безвыходнасць — вось што страшнае ў гісторыі Усходняй Еўропы.

Жахае і тое, што ўсё гэта заставалася практычна незаўважным звонку. Захад даведаўся пра маштабы савецкіх злачынстваў супраць чалавецтва толькі ад эмігрантаў, якія аказаліся на Захадзе. А паверыў па-сапраўднаму, што ўсё гэта так без ніякіх перабольшанняў, толькі пасля публікацыі высокамастацкага, хоць і заснаванага на ўрыўкавых часам памылковых звестках салжаніцынскага «Архіпелага ГУЛАГ».

Пад корань былі вынішчаныя патомныя беларускія святарскія роды Кульчыцкіх, Кіркевічаў, Ясінскіх, Рубановічаў, Плышэўскіх, Мацкевічаў, Навіцкіх, Свірскіх, Пастарнацкіх... Дарэчы, многія з іх актыўна падтрымалі ў 20-я ідэю беларускай аўтакефаліі, якая ў цяжкія гады з'яднала прыкладна трэцюю частку ўсходнебеларускіх праваслаўных прыходаў.

## 56%

Нягледзячы на жорсткі тэрор, на перапісе ў крывавым 1937 годзе 56% савецкага насельніцтва назвалі сябе вернікамі. Савецкі рэжым быў дыктатурай меншасці.

## Апошні жэст Філарэта

...Увесну 1937 года епіскап Філарэт (Раменскі), якога ГПУ, а пасля НКВД пакінула на свабодзе апошнім, бо лічыла слабавольным і баязлівым, зрабіў сімвалічны жэст: ён дазволіў вернікам-каталікам маліцца ў апошняй адкрытай праваслаўнай царкве Святой Марыі Магдаліны ў Мінску на Старажоўцы. Усе каталіцкія цэрквы на той момант былі закрытыя, а апошняя праваслаўная працягвала дзейнічаць. Філарэт загадаў святарам хрысціць дзяцей-каталікоў, даючы ім каталіцкія імёны, па каталіцкім календары. Усе сталі адзіныя.

Праз тры месяцы будзе арыштаваны і Філарэт, разам з апошняй групай самых маўклівых мінскіх святароў. І расстраляны.

Дзе ляжаць? Прыгавораныя да «ВМН» — «высшей меры наказания» — у Курапатах. ◆

**Андрэй Дынько**



Старасвецкія кнышы на Дзяды. (Або як ніштo ў гэтым свеце не магло мяне прымусіць зрабіць дражджавое цеста, апроч часопіса «Наша гісторыя».)

**Юлія Шастак, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Рэцэпт кнышоў — традыцыйных памінальных піражкоў, якія робяць на Дзяды, — шукайце пры артыкуле Алеся Белага ў нумары 10/2019.

## «Неаднабокі погляд на нашу гісторыю»

Сёння ўпершыню ўбачыў часопіс «Наша гісторыя». Купіў.

Цяпер 23.30. Чытаю. Вельмі добра, дзякую. За добрую, літаратурную мову і (нечакана) неаднабокі погляд на нашу гісторыю. Яшчэ раз дзякую.

**Аляксандр Кашуба**

## «Спадабаўся нумар пра Берасце»

Паважаная рэдакцыя «Нашай гісторыі»!

Мне дужа спадабаўся нумар 6/2019, артыкул пра Берасце. Хацеў бы вас папрасіць, каб у наступных нумарах вы таксама рабілі артыкулы пра такія рэканструкцыі старых славутасцяў іншых местаў і мястэчак, такіх як Менск, Полацк, Мсціслаў, Гародня, Глыбокае, Мазыр, Рэчыца, Магілёў, Віцебск, Ваўкавыск. А калі не рэканструкцыі, то хаця б артыкулы пра старыя і страчаныя славутасці былых гарадоў і мястэчак, як Койданава, Лукомль, Друцк, Мядзел, Дзісна, а таксама старыя месты Вялікага Княства, як Астрог, Луцк і Роўна.

А таксама раскажыце ў наступных нумарах калі ласка, пра тэатр у ВКЛ: якія былі тэатры, оперы, балеты, на якіх мовах. З радасцю буду чакаць новыя часопісы!

**Міхась Прозараў**

**Ад рэдакцыі.** Вельмі радыя, што той нумар, як і іншыя, Вам спадабаўся. На жаль, такія рэканструкцыі, якія зрабіў архітэктар Аляксандр Невар па Берасці, па іншых гарадах зрабіць не так проста. Гэта вымагае шмат часу, сілаў, адмысловых навыкаў, па сутнасці, гэтым трэба адмыслова сур'ёзна займацца. Спадар Невар не рабіў берасцейскія рэканструкцыі з нуля спецыяльна пад гэты нумар і на замову, гэта вынік ягонай ранейшай шматгадовай працы. Ці робіць хтосьці нешта такое па іншых гарадах, Вамі пералічаных, — мы не ведаем. Калі робіць і звернецца да нас адносна публікацыі — мы будзем толькі радыя.

Аўтар таго артыкула Аляксандр Невар разам з калегам Віктарам




У вёсцы, на прыродзе і пры пагодзе толькі ўчора перад сном дачытаў «Нашу гісторыю» 8/2019, адзін з найлепшых нумароў, дзе і «прасахалінены» Чэхаў, і ядзерная зброя, і дзеці-дыверсанты, і шмат чаго яшчэ смачнага, як прыязджаю дамоў — і мяне чакае аж сам Вітаўт!

**Wertaliot, instagram**

Клімусам, стварыўшы ўнікальную праграму з віртуальнымі рэканструкцыямі будынкаў старога Берасця, цяпер самі прапануюць далучацца да гэтага праекта неабыкавым жыхарам іншых гарадоў ды вёсак. І абяцаюць ім дапамагчы здзейсніць аналагічныя праекты. Мы перадрукоўваем гэтую прапанову тут і спадзяёмся, што гэта будзе мець нейкі практычны плён.

Астатнія Вашы прапановы прымаем да ведама, будзем старацца па магчымасці такія матэрыялы збіраць і друкаваць. Звярніце ўвагу, што пра згаданы Вамі горад Луцк ужо пісалі ў № 4/2018 нашага часопіса.

## Праўда пра Гікалу, Шаранговіча, Панамарэнку

У Мінску ёсць вуліца, названая ў гонар кіраўніка БССР Мікалая Гікалы (1932–1937). Пры Гікале была сфабрыкавана справа аб міфічным «Беларускім нацыянальным цэнтры». Пазней яго ўдзельнікі былі рэабілітаваныя. На жаль, большасць з іх пасмяротна. У 1937-м, ужо працуючы ва Украіне, Гікала актыўна ўдзельнічаў у масавых рэпрэсіях. Арыенціровачна прысудзіў дзве тысячы да расстрэлу, чатыры тысячы да высылкі.

У арганізацыі рэпрэсій адзначыліся і іншыя кіраўнікі БССР: Васіль Шаранговіч (1937) і Панцеляймон Панамарэнка (1938–1947). У фондах Расійскага дзяржаўнага архіва сацыяльна-палітычнай гісторыі захоўваецца шыфроўка Шаранговіча, накіраваная ў Маскву. Ён прапаноўваў «расстраляць 3 тысячы чалавек як найбольш варожых і вядучых актыўную контррэвалюцыйную працу і выслаць з межаў Беларусі 9 800 чалавек менш актыўных, але варожых элементаў».

Гістарычная справядлівасць патрабуе, каб гэтыя вуліцы былі перайменаваныя.

**Чытач**

* * *

**Адказ І. М. Л.**

Дзякуй Вам за дасланыя матэрыялы і ўвогуле за тое, што чытаеце часопіс і цікавіцеся ім. Мы гэта вельмі цэнім. Але, на жаль, дасланыя артыкулы зусім не ўпісваюцца ў наш фармат, нам патрэбна іншае. Артыкул пра раённую газету і яе галоўных рэдактараў носіць, па сутнасці, хутчэй энцыклапедычна-даведачны характар, а мы акурат такой стылістыкі намагаемся пазбягаць. Да таго ж, вельмі сумнеўна, што такая інфармацыя будзе цікавая шырокай аўдыторыі па ўсёй краіне — усё ж такі яна вузкарэгіянальная.

Што да Алеся Адамовіча — то мы хацелі б надрукаваць матэрыял пра яго. У Вашым выкладзе, аднак, партрэт яго атрымаўся надта ўжо схематычны. Біяграфіі мы імкнёмся даваць больш глыбокія і менш панегірычныя — каб зазірнуць чалавеку ў душу, паказаць яго з розных бакоў: і вартасці ягоныя, і слабасці. І нейкія сапраўды новыя важныя аспекты біяграфій вядомых людзей нас безумоўна цікавяць. Але ў Вашым тэксце, на жаль, нічога такога няма, таму апублікаваць яго не можам.

Гэта, аднак, не значыць, што старонкі нашага часопіса закрытыя для краязнаўцаў. Мы шмат друкуем краязнаўчых матэрыялаў, але яны мусяць быць жывыя і цікавыя шырокаму колу чытачоў. Не абавязкова (ды нават і непажадана) краязнаўцам пісаць пра нейкія глабальныя сюжэты — нават лепш пра нешта больш простае і прыземленае. Пра тое, пра што акрамя Вас ніхто толкам не ведае і, адпаведна, ніхто не напіша. Пра нейкіх мясцовых людзей (ці цэлыя сем'і) з цікавымі і нестандартнымі біяграфіямі ды пакручастымі лёсамі, пра простыя рэчы — сямейныя рэліквіі з цікавай гісторыяй, пра незвычайныя і малавядомыя аб'екты, што знаходзяцца ў вашай мясцовасці: камяні, крыжы, могілкі, будынкі, курганы, прыродныя аб'екты і да т. п. Нейкія цікавыя выпадкі з людскіх расповедаў зноў-такі могуць стаць асновай для публікацыі, ці нават асабістыя ўспаміны пра нейкія незвычайныя здарэнні. Вось што нас у прынцыпе цікавіць і што мы гатовыя друкаваць калі не ў якасці асобных артыкулаў, то прынамсі ў пошце рэдакцыі. Арыентуйцеся на тыя краязнаўчыя матэрыялы, што ў часопісе ўжо надрукаваныя, каб на практыцы ўяўляць, што нам рэальна патрэбна.

У кожным разе — дзякуй Вам яшчэ раз за цікавасць да часопіса і жаданне супрацоўнічаць з ім!

# Як літвіны заваёўвалі царам Сібір

**Для адных — Галгофа: катарга і ГУЛАГ. Для іншых — месца заробкаў. Але былі ў адносінах беларусаў і Сібіры і даўнейшыя старонкі. Пачынаючы з часоў Ермака, калі расійскім царам патрэбныя былі вайсковыя ўменні шляхты Вялікага Княства, піша Андрэй Вашкевіч. Не ўсім шанцавала: некаторых забілі і засушылі на памяць чукчы.**

Мы някепска ведаем пра фармаванне англа-саксонскай імперыі на амерыканскім кантыненце. Тут і індзейцы Фэнімора Купера, і залатая ліхаманка Джэка Лондана.

А што з Сібір'ю, якая займае амаль 80% тэрыторыі нашай усходняй суседкі? Тут нашы веды вельмі павярхоўныя. Нехта чуў пра Ермака, нехта пра Ерафея Хабарава і Сямёна Дзяжнёва. Між тым сённяшняя Расія не была б сабой, калі б не мела Сібіры. А ў завояванні і асваенні гэтага краю вельмі значную ролю адыгралі і беларусы.

### 10 тысяч канкістадораў

10–15 тысяч чалавек — вось прыкладная колькасць усіх прыхадняў, якія прыбылі ў Сібір за паўтара стагоддзя заваёвы. Скажам, войска Ермака Цімафеевіча, які перамог хана Кучума і знішчыў Сібірскае ханства, было атрадам з некалькіх соцень байцоў.

Пры тым, што падчас інтэнсіўнага засваення гэтых абшараў ва ўсёй Сібіры аднамомантна жыло каля 200 тысяч чалавек! Гэта былі

**Транссібірская магістраль.** Расійскія ўлады стагоддзямі спрабавалі пераўтварыць Сібір у заселены рэгіён, а не ў пустку, працятую чыгункай, пабудаванай у канцы XIX стагоддзя. Аднак і сёння нельга сказаць, што гэтыя планы цалкам увасобіліся ў жыццё.


SHUTTERSTOCK.COM, BY ADWO

прадстаўнікі безлічы народаў: качэўнікі, якія мелі нейкую дзяржаўнасць (якуты, татары), качэўнікі з першабытным ладам жыцця (чукчы), а яшчэ эвенкі, бураты, кіргізы ды іншыя.

### Вабіў собаль

Навошта маскоўскія цары, а дакладней пасяленцы-авантурысты, ішлі ў Сібір? Маскоўскае царства канца XVI стагоддзя і без таго было вялізнай дзяржавай, якая ўжо зрабіла лёсавызначальныя захопы. Пераломам стала падпарадкаванне Ноўгарадскай рэспублікі. Менавіта наўгародцы ды архангелагародцы яшчэ ў Сярэднявеччы хадзілі за Урал, былі першапраходцамі ў Сібіры.

Другім фактарам было скарэнне Казанскага ханства. Пасля гэтага цар Іван Жахлівы атрымаў і тэрыторыі, і новых падданых, і шлях на ўсход, бо за Казанню пачыналася Сібірскае ханства. Што гэта было за ўтварэнне? Дзяржава качэўнікаў, у якой не было межаў, бо яны губляліся ў глыбінях Сібіры, не было гарадоў — а быў толькі хан са сваім станам, які пераязджаў з месца на месца. Дзе спыніцца хан — там і сталіца.

А асноўная прычына завявання — собаль. Раней у Расіі не было ніякай канвертаванай валюты — таго, што можна адпраўляць на экспарт і атрымліваць узамен грошы ці тавар. Не было запасаў срэбра і каштоўных камянёў, а экспарт жыта, дрэва, пянькі, металаў і іншага пачаўся адно толькі ў часы Пятра І.

А собаль каштаваў дорага. Усе ўзброеныя кампаніі, якія сунуліся ў Сібір, ішлі туды па «ясак» — падатак сабаліным футрам з сібірскіх народаў. Прыходзілі казакі і абкладалі народы данінай. Той, хто плаціў, атрымліваў адмысловы ясачны жэтон альбо ясачны знак — сімвал гадавой аплаты. Знак часам рабіўся на спецыяльным корціку — так падаткаплатнік атрымліваў у рукі хоць нешта карыснае.

### «Прамышлялі» літоўскіх людзей

Як кажа даследчык гісторыі і знаўца сібірскай прыроды Міхаіл Крэчмар, з 10 тысяч чалавек, якія скаралі Сібір, мінімум чвэрць — літвіны, выхадцы з Вялікага Княства Літоўскага. Палова — татары і башкіры, якія ішлі ў авангардзе. І ўсяго толькі чвэрць — маскоўцы разам з авантурыстамі з Еўропы (французамі, немцамі, італьянцамі).

Што ж там рабілі літвіны? Часта гэта былі палонныя альбо іх нашчадкі. У пачатку XVII стагоддзя па тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы ваяводы спецыяльна вышуквалі, «прамышлялі» літоўскіх людзей, каб скіроўваць іх за Урал.

Даследчыкі адзначаюць, што калі ідзе пералік асабовага складу нейкага паходу, то экспедыцыя складаецца, напрыклад, з 200 татараў, 50 літвінаў, 40 казакоў і 10 баярскіх дзяцей — гэта своеасаблівы стандарт.

### І згвалчаныя ваяводам

Выхадцы з Вялікага Княства былі добра заўважныя ў Сібіры ад самага «сібірскага ўзяцця» (завяяванняў Ермака). Адукаваная шляхта з Рэчы Паспалітай несла ўглыб Азіі цікавасць да прыроды і культуры, імкнулася вывучаць яе.

Захаваліся так званыя «літоўскія спісы». Паводле іх можна прасачыць, што кожны год-два на працягу ўсяго XVII стагоддзя ў Сібір на загад Масквы выпраўляліся ад 30 да 70 літвінаў, мужчын (жанчынам там не было чаго рабіць). У пераважнай большасці гэта была шляхта, якую бралі ў палон, — яна ўмела абыходзіцца са зброяй.

Многія выхадцы з Вялікага Княства валодалі рэдкімі вайсковымі спецыяльнасцямі — «гранатнай справай», фартыфікацыяй, — былі пушкарамі. Некаторыя шляхцічы, якія займалі афіцэрскія пасады на радзіме, хутка станавіліся ў Сібіры ротмістрамі, паручнікамі, ▶

«рэйтарамі» ў створаных там частках «іншаземнага ладу». Даследчыкі дапускаюць, што «казакі літоўскага спісу» былі былымі рэестравымі казакамі Рэчы Паспалітай, іх вайсковыя веды цаніліся ў Сібіры вельмі высока. Шмат хто з іх заняў у будучыні важныя пасады і адыграў не апошнюю ролю ў асваенні Сібіры. А многія ўвогуле ўвайшлі ў гісторыю.

Прывядзём пару біяграфій. Адным з першых вядомых ліцвінаў быў Якаў Тухачэўскі. Ён паходзіў са смаленскай шляхты, служыў у войсках Ілжэдзмітрыя I, трапіў у палон. На гэтым ягоная кар'ера не скончылася, бо менавіта пану Якаву давялося стаць адным з заснавальнікаў няіснага сёння буйнога сібірскага горада Мангазеі.

Іншы персанаж — «табольскі літвін» Даніла Аршынскі (прозвішча, зразумела, паходзіць ад Оршы). Ён жыў у сярэдзіне XVII стагоддзя, а занесла яго ажно ў Нерчын. Нерчын са сваімі руднікамі пасля стаў вядомай катаргай, а на той момант гэта адна з маскоўскіх цвярдыняў Прыамур'я. Даніла доўгі час ваяваў з кітайцамі, дaслужыўся да ваяводы. Кар'ерны ланцужок тады мог выглядаць так: просты казак – дзясятнік – пяцідзясятнік – «дзяцюк баярскі» — а пасля ўжо і ваявода.

Нікіфар Чарнігаўскі паходзіў з Украіны і быў удзельнікам Смаленскай вайны 1630-х гадоў. Пасля палону яго з экспедыцыяй адправілі ў Сібір, там ён ажаніўся. І тут бяда: ваявода згвалціў ягоных жонку і дачку. Нікіфар разам з прыяцелямі забіў ваяводу і паехаў у Алабазіна — зруйнаваны кітайцамі прымежны населены пункт на Амуры. Ён тое Алабазіна адрадзіў, збудаваў крэпасць. Маскоўскія ваяводы прысудзілі Нікіфара да смерці, а ён там сядзеў і на працягу дзесяці гадоў адбіваўся ад кітайцаў. З кітайцамі тады ішла зацяжная вайна, якая скончылася адно толькі ў 1689-м Нерчынскім замірэннем, што на 200 гадоў наперад вызначыла мяжу Расіі і Кітая.

## Джунгары і геапалітыка

Заваяванне Сібіры выглядала па-рознаму, не толькі «агнём і мячом». Былі, напрыклад, народы тайгі, якія падзенне Кучума і Сібірскага ханства ўспрынялі пазітыўна. Бо Кучум быў галоўным мясцовым рабаўнікoм. А рускім быў патрэбен адно ясак, больш нічога іх не цікавіла. Праблемы з мясцовымі пачаліся ўжо пазней, калі заваёўнікі прынеслі алкаголь і раней невядомыя тубыльцам захворванні. Але ўсё гэта набрала абароты ўжо толькі ў XIX стагоддзі.

Разам з тым не ўсё складвалася проста. Калі рускія дайшлі амаль да Прымор'я, паўстала праблема: калі ісці на поўдзень, у бок мяжы з казахскім і мангольскім стэпамі і Кітаем, вельмі проста можна было нарвацца на ваяўнічых качэўнікаў, якім Расія не магла даць рады ажно



WIKIMEDIA COMMONS

**Пакарэнне Сібіры Ермаком Цімафеевічам.**
Карціна Васілія Сурыкава. 1895 год.

да XIX стагоддзя. Яшчэ ў XVII стагоддзі на памежжы Расіі, Кітая, Манголіі і Казахстана паўстала Джунгарскае ханства. Ваяваць з ім было нерэальна: прыходзіць туды пара соцень казакоў, а там — коннікі, якія колькасна іх пераўзыходзяць у шмат разоў. Пасылаць большыя кантынгенты Масква яшчэ не магла.

Гісторыя засваення Сібіры — гэта яшчэ і гісторыя хлеба, дакладней яго адсутнасці. Хлеб радзіў адно ў Мінусінскай катлавіне каля Байкала. Там цёпла, там — жытніца Сібіры. Везці хлеб з сабой нерэальна, таму катлавіна памерам з сучасную Гродзенскую вобласць стала стратэгічнай тэрыторыяй. Да пэўнага часу ў ёй жылі кіргізы, потым джунгары перасялілі іх на тэрыторыю сучаснага Кыргызстана, а пасля прыйшлі кітайцы і знішчылі саму бурлівую і супярэчлівую джунгарскую дзяржаву. Падчас усёй гэтай калатнечы Мінусінская катлавіна апынулася ў руках Маскоўскай дзяржавы, і гэта была стратэгічная перамога. Дарэчы, маскоўскае пасольства ў Джунгарыю ўзначальваў ураджэнец Магілёўшчыны Ян Куча, які праклаў для Расіі «палітычны шлях» у Цэнтральную Азію.

### Знішчаны чукчамі

На далёкай поўначы заваёўнікі сутыкнуліся з чукчамі. Тыя некалі жылі на поўдні, але больш моцныя народы адсунулі іх на поўнач, у экстрэмальныя ўмовы тундры. Чукчы, аднак, не толькі не вымерлі, а наадварот — сталі неймаверна жыццяздольнымі і агрэсіўнымі. Цяпер ужо яны з поўначы прыходзілі да больш паўднёвых народаў, каб рабаваць майно ды зводзіць жанчын.

Выйграць вайну з чукчамі рускім было праблематычна.



**Чукоцкія мужчыны** трымаць зброю ў руках вучыліся з ранняга маленства.

На самым ускрайку айкумены быў заснаваны Анадырскі астрог — умацаваны пункт для збору ясаку. Як астрогі тады засноўваліся ўсе сібірскія гарады: Тара, Мангазея, Іркуцк, Табольск... У 1747-м туды быў выпраўлены атрад на чале з маёрам Дзмітрыем Паўлуцкім — сынам літвіна, які меў скарыць чукчаў. Ніхто не ведае, як выглядала тая бітва, але атрад не вярнуўся. Паводле сведчанняў саміх чукчаў, Паўлуцкі біўся годна нават пасля ранення стралой у вока, таму пасля смерці ягонае цела парэзалі на кавалкі, якія... засушылі на памяць.

Добра разважыўшы, імператрыца Кацярына вырашыла: «Навошта нам той астрог? Выдаткі большыя...» І чукчаў проста пакінулі сам-насам з сабой, тундрай і палярнай ноччу — гэта была тэрыторыя Расіі, але ніякай рускай улады там не было ў прынцыпе. Сапраўдны ўскраек імперыі, акрайчык перад Берынгавым пралівам. Пасля

**Паўлуцкі біўся годна нават пасля ранення стралой у вока, таму пасля смерці чукчы парэзалі ягонае цела на кавалкі, якія засушылі на памяць**

з чукчамі наладжвалі сувязі праз гарэлку. Сёння іх засталося ўсяго каля 15 тысяч, але і цяпер у параўнанні з іншымі паўночнымі народамі іх перспектывы не безнадзейныя.

### Чэрскі, Кавалеўскі, Кукелі

У XIX стагоддзі ў Сібір пацякла бясконцая плынь ссыльных і катаржнікаў, бадай кожны з якіх варты асобнай кнігі. Сярод палонных паўстанцаў найбольш вядомым стаў Ян Чэрскі, ▶

удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў. Ён адкрыў горныя хрыбты на паўночна-ўсходнім ускрайку Расіі, а ягонае імя сёння носіць беларускае таварыства ў Іркуцку. Менш вядомы персанаж — Восіп Кавалеўскі з-пад Бераставіцы, які працаваў у Казанскім універсітэце і лічыцца адным з піянераў манголазнаўства. Зусім невядомыя — браты Баляслаў і Браніслаў Кукелі ці то з-пад Вільні, ці то з-пад Оршы, якія спрычыніліся да адкрыцця вусця Амура, да якога рускія дайшлі адно ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

А больш грунтоўная «беларусізацыя» Сібіры ў пачатку XX стагоддзя найперш звязаная з іменем Пятра Сталыпіна. У выніку ягоных рэформаў пачала з'яўляцца новая катэгорыя беларусаў-сібіракоў — «выехаўшыя». Паводле плана чыноўніка, рэгіён меў быць асвоены жыхарамі еўрапейскай часткі імперыі (беларусамі, украінцамі, рускімі), якія атрымаюць зямлю ў нетрах краіны. Так Сібір мелася пакрысе пераўтварыцца ў заселены рэгіён, а не ў пустку, працятую чыгункай, пабудаванай у канцы XIX стагоддзя

У сталінскія часы праблему засваення Сібіры вырашалі ГУЛАГам. Ізноў у кожным лагеры, на кожнай «чырвонай будоўлі» апынулася нямала беларусаў... Але як толькі дыктатура дала слабіну, амаль усе, хто выжыў, вярнуліся.

### Там і нашы косткі ляжаць

Як за часамі Саюза, так і зараз Сібір для Расіі — гэта ўсё: найперш рэсурсы, але яшчэ і статус. Гісторыя засваення Сібіры — гэта гісторыя безлічы праектаў, больш ці менш удалых. Не будзем забывацца пра Байкала-Амурскую магістраль, пасля — пра праекты грандыёзных электрастанцый: Саяна-Шушанская, Брацкая, якую пачынаў будаваць яшчэ вязень ГУЛАГа Адам Станкевіч. Ну і пякельныя ідэі кшталту Верхняленскай ГЭС — закрыць раку дамбай, зрабіўшы гіганцкае вадасховішча, што будзе даваць нерэальныя аб'ёмы электраэнергіі. І гэта без уліку ўжо зусім інфернальнага праекта павароту сібірскіх рэк у іншы бок, каб «напаіць» Сярэднюю Азію і поўдзень Саюза.



**Хтосьці з братоў Кукеляў.** Фота захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі. Друкуецца ўпершыню. Які менавіта з братоў на здымку, на жаль, вызначыць пакуль не ўдалося.

Што ж такое Сібір для нас, беларусаў? Найперш гэта зямля, куды і мы паклалі багата сваёй энергіі, людскога капіталу і генафонду. Гісторыі нашых продкаў у Сібіры за апошнія 500 гадоў — велізарны прыгодніцкі сюжэт у стылі Купера ці Рэдзьярда Кіплінга. Заснежаныя прасторы гэтага краю сталі дэкарацыямі для герaічных біяграфій нашых суайчыннікаў. ◆



ФОТА СВЯТЛАНЫ КІРСАНАВАЙ, MLYN.BY

У часы Сталыпінскай рэформы пачатку XX стагоддзя шмат беларусаў выехала ў Сібір па лепшую долю. Многія з іх пасяліліся там кампактна, што спрыяла захаванню моўна-культурных адметнасцяў. **Нават праз стагоддзе гэтыя адметнасці ў некаторых мясцінах яшчэ жывыя — як у Тургенеўцы, што ў Баяндаеўскім раёне Іркуцкай вобласці.**

# Нечаканая сустрэча

Прачнуўся Грыневіч, пачуўшы, што нехта яго трасе за плячо. Адплюшчыўшы вочы, ён убачыў гаспадароў, мужа і жонку, ужо саўсім адзетых, каб ісці ў царкву...

...Перад тым, аднак, як выйсці, гаспадыня зазірнула ў летнюю святліцу, дзе ляжала хворая матка. «Мама,— сказала яна голасна, — мы пайшлі ўжо, а тут з табой Мікалай застанецца».

Мікалаем звалі Грыневіча, аб чым гаспадыня даведалася яшчэ звечару з гутаркі за гарбатай. У адказ ёй пачуўся слабы старушачы голас: «Добра, дачушка, ідзіце, а я і адна пабуду!»

Кіўнуўшы яшчэ раз прыветліва да яго галавою, выйшла і гаспадыня. Грыневіч астаўся адзін на ўсю хату з хворай старушкай.

Тое, што ён пачуў перад выходам гаспадыні, яго і здзівіла, і страшэнна зацікавіла, і... можа, абрадавала, — у гэтым ён не паспеў яшчэ разабрацца. Бабка гаварыла па-беларуску! Словы, якімі яна зрабіла свой адказ нявестцы, звінелі, як тыя, каторымі ён думаў. Адкуль тут яго родная мова? Каб выясніць хваляваўшыя яго розум пытанні, ён бы ахвотна пайшоў у тую святліцу, дзе ляжала матка гаспадара, і пачаў бы з ёй гутарку. Але баяўся, будучы чужым чалавекам у хаце, гэта зрабіць, каб не напалохаць старушку...

...Доўгі, цяжкі кашаль з летняй святліцы, у якой ляжала старушка, распалохаў думкі Грыневіча. Падумаўшы, што ёй цяпер можа запатрабавацца якая-небудзь помач і што гэта, можа, найлепшы выпадак, пры якім найзручней з ёй разгаварыцца, ён саскочыў са свайго месца на куратніку і, знайшоўшы ўпоцемку дзверы, зайшоў у памяшканне старушкі. Тая ж самая лямпачка, якая свяціла пры вячэры, стаяла цяпер тутака на стале і з прыкручаным кнотам давала яшчэ меней свету. Таксама, як і ў гаспадарскай святліцы, тут каля сцяны, у якой былі дзверы, стаяў ложак, а на ім Грыневіч убачыў накрытую цёплай і лёгкаю «ушканьяй», коўдрай, ляжачую, з чорнай хустачкай, завязанай на галаве, старушку.

— Можа, вам чаю трэба, бабулька? — запытаў ён, яшчэ не адышоўшы ад парогу.

— Вады... дзеткі... падай, вунь... на стале... — пачуў ён перабіваны кашлем адказ.

Пакуль старушка піла паданую ёй рассалоджаную воду, Грыневіч разглядаў яе высахшы ад старасці і нядугу зморшчаны твар. І дзіўная рэч, — у рысах ніколі не бачанага дагэтуль твару ён убачыў нешта знаёмае, даўно-даўно ўжо бачанае і мілае.

Прымаючы з сухой, пачарнеўшай ад веку і працы рукі недапіты кубак з салодкай вадой, Грыневіч раптам успомніў другое аблічча, так падобнае да гэтага і ў такіх самых варунках...

...—Дзякуй, дзеткі! — пачуў Грыневіч, ставячы недапіты кубак на стол. — Такі гэты кашаль неадступны, хадзіць не дае, ані ляжаць.

Цяпер Грыневіч ужо не баяўся патрывожыць старушку. Ён смела падышоў да ложка і запытаўся са спачуццём у голасе:

— А ці ж даўно нядужаеце, бабулька?

— Якая мая хвароба, дзеткі!.. Вось ужо веку дажыла, мусіць. Тады лягу, тады лягу... А ўсё толькі адзін кашаль і даймае, старасць, мусіць...

— Хіба ж вам так шмат гадоў, бабулька?

— Ой, шмат, шмат! Усіх і не ўпомню... Ну, вось сам палічы, калі радзілася я за два гады перад першым паўстаннем...

— Скуль жа, бабуля, ведаеце аб паўстанні? — ухапіўся Грыневіч за гэтыя словы, якія маглі быць ніццю, што прывяла б яго да выяснення цікавага пытання.

— Паўстанне... дык яно ж каля нас было... Яшчэ мой нябожчык бацька




**У Сібір расійскіх цароў вабілі собаль і гарнастай. У тыя часы яны былі жывой валютай**

гэных паўстанцаў у лесе хаваў, — лесніком служыў у князя...

— Якім жа спосабам вы, бабулька, сюды папалі — не з бацькам за паўстанне?

— Не, не, што ты, дзеткі! Якім там з бацькам за паўстанне, бацька ж мой у паўстанні саўсім не быў, — запярэчыла жыва старушка, як бы баялася, што яе нябожчыка бацьку і сапраўды могуць саслаць яшчэ раз у Сібір разам з ёю. — Гэта я з мужам сюды прыйшла, з мужам, з мужам,— тлумачыла яна Грыневічу, стараючыся адхіліць небяспечнасць, вісеўшую над дарагім, жывым у яе галаве ценем.

— А муж як сюды папаў? — запытаўся далей Грыневіч. — І ці даўно?

— Муж? — адазвалася адразу паспакайнеўшая і пасмутнеўшая старушка. — А муж таксама даўно... От Васіль, гэты сын, што тут жыве, яшчэ тагды не радзіўся, ён радзіўся, як мы тут восем гадоў пражылі, а яму ўжо, можа, пад сорак гадоў будзе... Мужа, дзеткі, заслалі сюды за мяне. Бачыш, я тагды хаця двох дзетак ужо мела, але маладая кабета была. А ў нашага пана-нябожчыка аканомам быў пан Ігнацы, зухаваты такі паніч, — Бог яго ведае, скуль родам. Дык вось гэты пан Ігнацы, дай Бог яго душачцы спакой, і прычапіўся да мяне са сваімі залётамі. Куды б я толькі ні паткнулася з хаты, ці ў царкву, ці ў поле, тут і ён са сваімі залётамі. А я свайго Васільку любіла і на ніякага паніча не прамяняла б. От і даў мне Бог дурасці: узяла ды паскардзілася адзін раз Васілю свайму на паніча. Ён і ўскіпеў і раз паніча пры людзях аблаяў, а потым узяў да ў карчме пахваліўся, што адвучыць гэтую панскую пугу на чужых жанок замахвацца... А потым знайшлі паніча каля лесу на дарозе... забітага... Як ехаў ноччу ў сваёй каламашачцы, так нехта стрэліў з лесу і забіў... Ну і прычапіліся да майго Васіля, — ён жа часам і са стрэльбай хадзіў... Так і засудзілі на пасяленне. От і я з ім пайшла, — скончыла старушка сваё апавяданне.

— Бабулька, а дзе вы тагды жылі, як гэта здарылася? — запытаўся з жывасцю Грыневіч.

— У Грыччыне, можа, чуў калі, дзеткі?

— А... — і Грыневіч запнуўся на паўслове. — Не, не чуў, бабулька, і не ведаю, — паправіўся ён праз момант, — не чуў, не чуў...

...Не ведаючы, што рабіць, стаўшы перад ложкам на калені, ён пачаў цалаваць гэтую маленькую, сухую, пачарнеўшую руку, якая ціханька дакранулася да яго пры словах велікоднага прывітання. Тутака, у страшнай сібірскай самоце, ён знайшоў родную душу. На гэтым ложку перад ім ляжала сястра яго роднай і так кахаўшай яго да самай смерці бабулькі, ад каторай ён не раз чуў апавяданне аб гэтай прапаўшай Бог ведае гдзе ў далёкім Сібіру «другой бабцы».

*Алесь Гарун. «Свята»*

# Забаронена не значыць і

## Як жыве Іран — неліберальная, але плюра

**Ісламская рэспубліка робіцца ўсё больш адкрытай, але адстае ў развіцці, піша доктар паліталогіі Сяргей Богдан.**

Іранскае грамадства заўважна змянілася за апошнія гады. У Тэгеране сёння сустрэнеш дзяўчат і жанчын без хустак — яшчэ дзесяць гадоў таму такога не было. Гэта з'ява не масавая, але і не экстраардынарная. Больш масавай стала іншая новая мода — насіць хусткі на самай макаўцы, выпусціўшы касу. Тое ж і з іншай вопраткай: расхрыстаная і ледзьве зашпіленая накідка, пад якой кашуля з адкрытай шыяй, — відовішча не паўсюднае, але і не рэдкае.

Цікава, што і кансерватыўныя слаі, і дзяржаўныя органы, што некалі ганялі за неналежны выгляд ды іншыя распуснасці, сёння спрабуюць лішне не злаваць больш «распушчаных» суграмадзян і суграмадзянак сваімі ўшчуваннямі. На службу то ўсе з'яўляюцца апранутымі як прадпісана, але не больш за тое.

Або іншы прыклад — фармальна забароненае спадарожнікавае тэлебачанне, па якім глядзяць зусім не набожныя каналы. Яшчэ ў пачатку 2010-х талеркі ставілі, старанна маскіруючы ад паліцыі. Сёння яны проста не асабліва

**«Праамерыканскія мусульмане-«саўдыты» захапілі Мекку, але правільныя мусульмане яе вызваляць».** Графіці ў Тэгеране ля будынка былога ізраільскага, а цяпер палесцінскага пасольства.

# нельга

## алістычная дзяржава

выстаўляюцца напаказ, але на іх улады заплюшчваюць вочы.

Падобнае і з інтэрнэтам. Ён стаў маруднейшым, фармальна пазакрываныя і ютубы з фэйсбукамі, але лёгкадасяжныя тэхнічныя сродкі дазваляюць грамадзянам рабіць што ўздумаецца. Усе пра тое ведаюць. Зайшоўшы запісацца ў бібліятэку, я пабачыў пры канцы фармуляра запрашэнне далучыцца да тэлеграм-канала, каб быць у курсе будучых імпрэз. На маё пытанне, ці ж тэлеграм не забаронены, бібліятэкарка шматзначна пасміхнулася.

Вядома, у правінцыі, нават буйных гарадах кшталту Ісфагана, усё стражэй.

### Іран

вялізная краіна з тэрыторыяй, у 8 разоў большай за Беларусь, і насельніцтвам 81 млн чалавек, размешчаная паміж Турцыяй і Пакістанам, Каспійскім морам і Індыйскім акіянам. Дзяржаўны лад Ірана — ісламская рэспубліка, у якой важную ролю грае духавенства. Так стала пасля Ісламскай рэвалюцыі 1979 года, якая зрынула ўладу шаха Пехлеві.

### Межы секулярызму

Гледзячы на шматлікія кавярні ў заходнім стылі або на налепкі *I love gaj* на тэгеранскай плошчы Ісламскай рэвалюцыі (*Gajmarket* — гэта сетка крамаў, але гумар у тым, што гучыць двухсэнсоўна), можна падумаць, што Іран ужо не той, які быў у часы Хамейні. Але ўсё складана. Бо многія іранцы застаюцца вельмі рэлігійныя. Улады суседняга Ірака падлічылі, што ў сёлетняй галоўнай шыіцкай пілігрымцы, Арбаіне, удзельнічалі больш за чатыры мільёны замежнікаў, бальшыня — з Ірана. Яны ідуць у пякельна спякотны Ірак, які толькі што перажыў крывавыя беспарадкі. І праходзяць дні за тры 90 км пешкі!

Праўда, паломнікі могуць мець самыя розныя погляды на свет і грамадства. Адны падтрымліваюць сённяшнюю іранскую «дзяржаву Імама часу» — своеасаблівага шыіцкага збаўцы, які, паводле падання, схаваўся ад пераследу ў IX стагоддзі, але нябачна апякуецца нашым светам і вернецца пад Судны дзень. Але нямала і тых, каго прыхільнікі Ісламскай рэвалюцыі лічаць «апалітычнымі масамі» ці, таго горай, «дрэсіраванымі амерыканскімі мусульманамі» ды «закамянелымі рэакцыянерамі» — то-бок абыякавых ці варожых да ісламскай рэспублікі, створанай прыхільнікамі аяталы Хамейні пасля 1979 года.

Рост іранскага ўплыву ў рэгіёне і выхад Трампа з ядзернай угоды Захаду з Іранам спрычыніўся да ўзнікнення ▸

## Ці дазволенае ў Іране хрысціянства?

Прапаведаваць хрысціянства нельга. Забаронены і пераход з ісламу ў хрысціянства. Калі ты гэта афішуеш, цябе пасадзяць у турму ці абвесцяць вар'ятам, каб не караць смерцю, як патрабуе шарыят. У той жа час хто ў хрысціянскай сям'і нарадзіўся, той ім можа заставацца, існуюць цэрквы.
Увогуле, улады на многае заплюшчваюць вочы, калі няма «асаблівай патрэбы». Нават на сужэнскую здраду, за якую па строгай інтэрпрэтацыі шарыяту належыць смерць. Адвакаты і суддзі знаходзяць выхад — абвяшчаюць, што няма такіх сведкаў здрады, якія «адпавядалі б патрабаванням шарыяту».

▸ цікавага нацыяналістычнага кансэнсусу ў іранскім грамадстве. У прыватнасці, Касэм Сулеймані, камандзір т. зв. «Іерусалімскага корпуса» Вартавых рэвалюцыі, які праславіўся ў Сірыі, Іраку і Емене, стаў папулярнай фігурай. Яго постаць звязваюць з абаронай краіны больш, чым з рэлігійнымі каштоўнасцямі. СМІ, вядома, паказваюць Сулеймані і на калектыўнай малітве, але побач з тым раскручваюць яго як героя-патрыёта ды проста мясцовага супермэна.

### Мадэрнізацыя пад санкцыямі

Іран ужо амаль чатыры дзесяцігоддзі жыве ва ўмовах эканамічнай блакады і немагчымасці легальнага ўвозу больш-менш прасунутага абсталявання ці тэхналогій. Перш гэта была блакада з боку ЗША, пазней шырэйшага Захаду, а ў апошнія гадоў з пятнаццаць у ёй па сваёй ці не па сваёй волі бяруць удзел амаль усе краіны свету. Таксама і Беларусь.

Тым не менш старажытная Персія за апошнія гады яшчэ больш асучаснілася. У вялікіх гарадах пабудаваны метрапалітэн, па ўсёй краіне пракладзена і электрыфікавана так шмат новых чыгуначных ліній, што адмыслоўцы нават кажуць пра «чыгуначную рэвалюцыю», якая ажыццяўляецца збольшага кітайскімі кампаніямі. Абноўлены грамадскі транспарт, з'явілася даступная сотавая сувязь, а сістэма электронных плацяжоў стала паўсюднай і нават у напаўпісьменных гандляроў на разнос, што швэндаюцца па вагонах, ёсць тэрміналы для аплаты карткай.



SHUTTERSTOCK.COM, BY EFIRED

**Дзявочая мода ў кансерватыўным Яздзе.**

**На маё пытанне, ці ж тэлеграм не забаронены, бібліятэкарка шматзначна пасміхнулася**

І ўсё ж вялікага дабра няма, асабліва калі параўнаць з суседнімі арабскімі нафтавымі дзяржавамі. У Іране сёння людзі зарабляюць ад 200 да 400 даляраў. Нярэдка грошы ім не выплачваюць месяцамі, бо і самі працадаўцы пакутуюць ад крызісу неплацяжоў. За часы прэзідэнцтва Хасана Рухані (з 2013 года) курс нацыянальнай валюты ўпаў

## Лёс Мусаві і Ахмадзінежада

Зняволенымі застаюцца некаторыя ўдзельнікі спробы «Зялёнай рэвалюцыі» ў 2009 годзе. Тагачасныя кандыдаты ад апазіцыі Мір-Хасэйн Мусаві і Мехдзі Кярубі застаюцца пад хатнім арыштам. Але і многія паплечнікі Махмуда Ахмадзінежада, праціўніка Мусаві, таксама цяпер сядзяць. Напрыклад, яго віцэ-прэзідэнт асуджаны на больш чым шэсць гадоў турмы за «шкоду нацыянальнай бяспецы».

З такіх машын з рэкламнымі гукаўзмацняльнікамі ў Іране прадаюць усё: і бульбу, і каву. На фота: **кавярня ў рэтрамашыне ў Ісфахане.**

SHUTTERSTOCK.COM, BY LESHIY985

з прыкладна 3 180 туманаў (так ад нядаўна завецца іранская валюта) за даляр у 2013 годзе да прыблізна 11 400 цяпер. Інфляцыя прывяла да таго, што нават афганскія эмігранты, якіх у Іране жыло мільёны тры з 1980-х гадоў і якіх доўга і беспаспяхова іранскі ўрад выганяў на радзіму, пачалі масава ад'язджаць у Афганістан. Там ліецца кроў, але зарабіць прасцей.

Да таго ж па Іране б'юць наступствы змянення клімату. У апошнія гады выпадае менш дажджоў і снегу. Сімвалам стала высыханне вялізнага Урмійскага возера — прыстанішча птушак фламінга. Да гэтага, праўда, спрычыніліся і людзі. Папярэдні

## Ці ёсць у Іране школы на мовах нацыянальных меншасцяў?

У 2000-х пачалі выкладаць курдскую мову ў пары правінцыйных ВНУ і невялічкай колькасці школ, але ў апошнія гады большасць зноў пазачынялі. Яшчэ гадоў дзесяць таму ў Тэгеране можна было знайсці курдскую кніжку, гэтым разам аўтару артыкула не ўдалося купіць нават слоўніка. Тое ж і з іншымі меншасцямі.




**Варону абдурвае амерыканская ліса.** Але час лісы сыходзіць, на што ўказвае пясочны гадзіннік, у якім замест пяску зоркі ЗША. Графіці ў Тэгеране.

**Від на Тэгеран з гары.**
Горы там пустынныя.

**Афганскія эмігранты, якіх з 1980-х гадоў іранскі ўрад доўга і беспаспяхова выганяў на радзіму, пачалі масава ад'язджаць у Афганістан самі. Там ліецца кроў, але зарабіць прасцей**

## Што ўяўляюць сабой цэнтры іранскай эміграцыі?

Найбольш вядомая структура «Маджагедзін-э хальк» нарадзілася як марксісцка-ісламісцкая арганізацыя і актыўна выкарыстоўвае метады тэрору. Прыхільнікаў у яе ў Іране мала, любая супраца з ёй строга караецца.

У розных іранскіх апазіцыйных арганізацый — ад мааістаў да манархістаў — ёсць свае спадарожнікавыя тэлеканалы, але іх мала хто глядзіць. Бо нецікава, аднастайныя размовы і скайп-інтэрв'ю, адарвана ад іранскай рэчаіснасці. Некаторыя апазіцыйныя сайты ў Іране вельмі радыкальныя, аж да заклікаў майстраваць самаробныя бомбы і падрываць супрацоўнікаў дзяржбяспекі.

У Іране квітнее таксама Тэлеграм, у якім шмат інтэлектуальна цікавых каналаў.

## Колькі каштуюць у Іране прадукты?

Дзякуючы субсідыям і кантролю цэн большасць звычайных прадуктаў у Іране каштуе зусім танна. Маленькі пляскаты лаваш — каштуе у субсідзіраваных крамах у пераліку на беларускія грошы 15 капеек, у свабодным продажы — 24. Смачнейшы і большы па аб'ёме «хлеб з каменьчыкамі» (іх трэба ўласнаручна выкалупаць з бліна пры пакупцы ў пякарні) — каштуе 60 капеек у субсідзіраваных крамах і 90 капеек у свабодным гандлі адпаведна.

Але якасць «субсідзіраваных» прадуктаў у апошнія гады моцна ўпала, бо вытворцы пачалі ўсё разбаўляць. Таннае малако цяпер піць немагчыма, хоць яшчэ гадоў 10 таму яно было смачнае.

Кіло курацiны, самага таннага і папулярнага ў Іране мяса, цяпер каштуе каля 2,4 рубля.

Вось што ў Іране зусім капеечнае, дык гэта розная садавіна.

Варта адзначыць, што сярэдні заробак у Іране цяпер — каля 600 рублёў на нашы грошы.



кіраўнік краіны Махмуд Ахмадзінежад загадаў выдаць дазволы на свідраванне вады ўсім ахвотным. Гэта было шчасцем для бяднейшых сялян і дазволіла павялічыць вытворчасць таннай садавіны ды гародніны ва ўсёй краіне і вакол Урміі. Але возера пачало знікаць, і толькі вялікімі намаганнямі ўрад крыху адкаціў назад маштабы выпампоўвання падземных водаў у рэгіёне.

Едучы цягніком «Тэгеран – Мешхед», я разгарнуў пакладзеную на столік купэ свежую газету і пабачыў вялізны артыкул «Прасяданне глебы пагражае катастрофай на чыгунцы “Тэгеран – Мешхед”». Вялізнае прасяданне адбылося, бо на адным з участкаў сяляне таксама выпампавалі падземныя воды.

Затое перавытворчасць вадалюбнай садавіны, кшталту кавуноў, абумоўлівае самыя нізкія цэны на яе.

### Загнаны ў кут Іран

Сённяшні прэзідэнт Хасан Рухані прыйшоў да ўлады,


На фоне — іранскі шафран.

SHUTTERSTOCK.COM, BY BOLIGOLOV ANDREW

## Якія іранскія фільмы варта паглядзець?

### «Развод Надэра і Сімін» (2011)

Трыумфатар Берлінскага кінафестывалю.



**Больш пра гэты фільм чытайце тут.**

Выключная гульня акцёраў і простая, але захапляльная гісторыя.
Надэр і Сімін пражылі ў шлюбе 14 гадоў, у іх ёсць 11-гадовая дачка Тэрмэ. Сімін хоча з’ехаць з краіны, аднак Надэр адмаўляецца, бо яго бацька пакутуе на хваробу Альцгеймера і патрабуе пастаяннага догляду. Рознагалоссі ў сям’і прыводзяць да таго, што Сімін падае на развод. Яна спадзяецца з’ехаць з краіны разам з дачкой, якая вельмі прывязаная да бацькі. А пакуль ідзе справа, Сімін перабіраецца да сваёй маці. Надэр застаецца жыць разам з Тэрмэ і бацькам і вымушаны наняць для догляду старога іншую жанчыну…




### «Смак вішні» (1997)

Трыумфатар Канскага кінафестывалю.
Мінімалістычны і магічны фільм-загадка, які некаторыя адносяць да найлепшых стужак усіх часоў і народаў.
Мужчына сярэдніх гадоў хоча здзейсніць самагубства і ўжо выкапаў сабе магілу ў гарах, але яму патрэбен хтосьці, хто закапае яго зямлёй.
Ён выпраўляецца ў Тэгеран, каб наняць памочніка. Ён спрабуе ўгаварыць маладога салдата-курда, той ад яго ўцякае, потым — афганца-ўцекача, які чытае яму пропаведзь пра грэх самагубства. Нарэшце ён сустракае старога таксідэрміста…






**Па гэтым к'юар-кодзе вы можаце выйсці на фільм «Ліс»** з англійскімі субцітрамі ў іранскім аналагу ютуба, які называецца *Aparat*.

### «Ліс» (2014)

Якасная ідэалагічная стужка — пра забойствы ў 2009–2010 гадах іранскіх фізікаў, што працавалі ў іранскай ядзернай праграме. Прэм’ер Ізраіля Біньямін Нетаньяху ў абыход і ЗША, і нават уласнага «Масада» пасылае ў Іран свайго брата, каб перашкодзіць нармалізацыі адносін Ірана з Захадам.
Таленавітая гульня акцёраў і ўзор таго, якім можа быць таленавітае палітычнае кіно.



Жаночыя ногі на персідскім дыване. Іран.

## Як у Іране арганізаваная служба ў арміі

**Служаць усе, але па-рознаму.**

18 месяцаў — калі служба праходзіць у рэгіёнах, дзе страляюць, напрыклад на паўднёвым усходзе, дзе ўвесь час вайна з наркамафіяй і суніцкімі ісламістамі. 21 месяц — у ціхім месцы, але «ў ботах». 24 месяцы — калі гэта служба ў нейкай дзяржарганізацыі, а фактычна праца пад выглядам службы. Знаёмы авіяінжынер так і служыць — проста працуе там, дзе і раней, у Аэракасмічнай арганізацыі, толькі часам ходзіць на зборы.

▶ абяцаючы зняць з краіны санкцыі і тым самым палепшыць эканамічнае становішча. Спачатку гэта ўдалося, і ў 2015-м была падпісаная з Захадам дамова па ядзернай праграме. Яна гарантавала, што Іран не створыць ядзернай зброі ў найбліжэйшыя пятнаццаць гадоў.

Але амерыканскі прэзідэнт Дональд Трамп летась разарваў дамоўленасці і дамогся спынення экспарту іранскай нафты. Гэтыя дзеянні Вашынгтона падарвалі ў Іране пазіцыі тых, хто выступаў за пошук паразумення з Захадам. Горш за ўсё тое, што Іран не можа доўга трываць такую сітуацыю. Нафта — асноўны артыкул ягонага экспарту, і калі яе не прадаваць, грошы элементарна скончацца. Такая сітуацыя, на думку апанентаў іранскага рэжыму, прымусіць Тэгеран капітуляваць.

Так, можа, і было б, але тут на першы план выйшаў Корпус вартавых ісламскай рэвалюцыі (КВІР) — вайскова-палітычная структура, звязаная з мноствам палітычных рухаў, узброеных

## Ці ёсць у Іране сэкс?

Ёсць, і іслам ніколі так яго не абмяжоўваў, як хрысціянства. Палігамія цяпер амаль не практыкуецца — найперш таму, што гэта дорага.
Для ўзаконьвання прастытуцыі заўсёды існаваў інстытут «часовага шлюбу». Яго ж выкарыстоўваюць для адносін з каханкамі. Але гэта пашырана толькі сярод заможных пластоў грамадства.
А вось гомасэксуальныя адносіны між мужчынамі строга караюцца.
Зноў жа, улады ў апошнія гадоў з дваццаць усё менш лезуць у такое.

## Ці забароненыя ў Іране парнаграфічныя сайты?

Так, у Іране шмат што забаронена, але каму тое трэба, той карыстаецца.

SHUTTERSTOCK.COM, BY YAYHA

груп і эканамічных інтарэсаў у Іране і рэгіёне. Рост уплыву КВІРа ў іранскай дзяржаве звязаны не толькі з тым, што вартавыя перамаглі ў Сірыі, але і з гучнымі сёлетнімі падзеямі. Напрыклад, аперацыі КВІР дазволілі вызваліць іранскі танкер, захоплены брытанцамі ля Гібралтара. Улетку КВІР падарваў два замежныя танкеры і збіў амерыканскі беспілотнік. Баланс усіх гэтых аперацый для Тэгерана быў станоўчы — з ім сталі больш лічыцца.

Таму і не дзіва, што Корпус вартавых здолеў пераканаць іранскае кіраўніцтва, найперш правадыра ісламскай рэвалюцыі аяталу Алі Хаменэі, даць яму магчымасць сілай прабіць іранскай нафце шлях вяртання на сусветны рынак праз удар па нафтавых аб’ектах Саудаўскай Аравіі ў верасні. Маўляў, не пускаеце нашу нафту, дык мы нікому не дазволім яе экспартаваць.

Нядаўна высветлілася, што Іран не далучыцца да Палермскай канвенцыі супраць транснацыянальнай арганізаванай злачыннасці і Канвенцыі па супрацьдзеянні фінансавай падтрымцы тэрарызму. Парламент быў прагаласаваўшы за ратыфікацыю абодвух дакументаў, але працэс прыняцця спыніла Рада наглядальнікаў — такі сабе канстытуцыйны суд краіны.

Гэтыя канвенцыі маглі прывесці да спынення фінансавання Іранам яго замежных хаўруснікаў — як узброеных груп, так і цэлых дзяржаў (як Сірыя) ці шырокіх палітычных рухаў. Тое, што парламент спачатку прагаласаваў за далучэнне да гэтых канвенцый, сведчыць, што сур’ёзныя палітычныя сілы ўнутры іранскай дзяржавы разглядалі магчымасць кампрамісу. Для таго ім патрабавалася штосьці ўзамен ад Захаду, але яны таго не атрымалі.

Мяркуючы па ўсім, Тэгеран не будзе спяшацца ісці на кампрамісы. ◆

## Што ўяўляюць сабой парламенцкія, а што непарламенцкія сілы ў Іране?

У парламенце цяпер раўнавага розных сілаў, цяперашні прэзідэнт і яго ўрад з цяжкасцю праводзяць патрэбныя законы. Па-за парламентам значную вагу маюць Корпус вартавых і звязаныя з ім палітычныя рухі і эканамічныя структуры. Прэзідэнт Рухані наракаў, што ён кіруе толькі «ўрадам без зброі», а ў краіне ёсць яшчэ адзін «урад са зброяй» — намёк на корпус. Кіраваць такой краінай складана, бо правая рука часам не ведае, што робіць левая.
Можна чакаць, што больш ліберальныя і празаходнія сілы на чале з Рухані і міністрам замежных спраў Махамадам Джавадам Зарыфам прайграюць наступныя выбары, бо іх стаўка на дамоўленасці з ЗША прайграла, а санкцыі падарвалі эканоміку.
Наступным прэзідэнтам Ірана можа стаць цяперашні кіраўнік судовай сістэмы Раісі. Ён жа мае найбольшыя шанцы змяніць 80-гадовага Хаменэі на галоўнай у краіне пасадзе Рахбара, правадыра рэвалюцыі, якая важнейшая за прэзідэнта.

## Ці ёсць у Іране свабодныя выбары?

У іранскай палітычнай сістэме мала ліберальнай дэмакратыі, але гэта ніяк не тыповая дыктатура. Гэта плюралізм у рамках «ісламскай рэспублікі». На свабодных выбарах з непрадказальнымі вынікамі выбіраюць парламент і прэзідэнта. Але калі ты выступаеш супраць упісаных у канстытуцыю ісламскіх нормаў, у тым ліку нашэння жанчынамі хіджаба ці супраць ролі духавенства ў кіраўніцтве краіны, — цябе проста не дапусцяць да выбараў.

## Чаму Амерыка і Ізраіль не наносяць па Іране авіяўдары?

Таму што Іран можа нават прымітыўным ракетна-артылерыйскім узбраеннем — умоўна кажучы, «Градамі» — заблакаваць суднаходства ў Армузскай пратоцы, праз якую ідзе значная частка сусветнага гандлю нафтай, а саюзныя Ірану хусіты (шыіцкая ваенізаваная групоўка э Емене) могуць аналагічна атакаваць нафтавыя танкеры ў Чырвоным моры. Іран завялікі, каб яго можна было акупаваць.

Зімовая вайна

# Як фіны адстаялі сваю незалежнасць



**30 лістапада спаўняецца 80 гадоў, як Савецкі Саюз аб'явіў вайну Фінляндыі. Хоць фармальна саветы перамаглі ў той вайне, якую савецкі паэт Аляксандр Твардоўскі называў «незнаменитой», маральная перамога засталася за фінамі. І незалежнасць таксама. Піша Андрэй Акушка.**

Яшчэ ў 1935 годзе сталінскі паплечнік Андрэй Жданаў аб'ехаў савецка-фінскую мяжу, каб выявіць найбольш прыдатныя пункты для ўдару. Пасля заключэння пакта з Гітлерам Сталін палічыў, што зручны момант вярнуць страчаныя пасля Першай сусветнай вайны землі былой Расійскай імперыі, у тым ліку і Фінляндыю, надышоў.

### Пачалі з вайсковых баз

Калі 23 жніўня 1939 года ў Маскве міністры замежных спраў СССР і Германіі Вячаслаў Молатаў і Іахім фон Рыбентроп заключылі пакт аб ненападзе, у сакрэтных пратаколах згадвалася і Фінляндыя. Як і краіны Балтыі, Заходняя Беларусь і Украіна, а таксама Малдова, яна адыходзіла ў «сферу ўплыву СССР». Калі ж называць рэчы ўласнымі імёнамі — Гітлер пагаджаўся, што Сталін гэтыя тэрыторыі захопіць.

Рэалізацыю захопаў савецкае кіраўніцтва пачало неадкладна. Кожнай з чатырох дзяржаў — Літве, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі — было прапанавана заключыць з СССР дамову «аб




**«Манумент Зімовай вайне»** каля пасёлка Суамусалмі ў Фінляндыі. Тут у снежні 1939-га – студзені 1940-га цэлы месяц ішлі крывавыя баі, якія скончыліся перамогай фінаў. Гэта пахавала планы савецкага камандавання выйсці да Батнічнага заліва, перарэзаўшы Фінляндыю на дзве часткі. Манумент — гэта поле, пакрытае прыроднымі камянямі без якой-небудзь дадатковай апрацоўкі. Ён усталяваны ў памяць пра кожнага загінулага ў баявых дзеяннях — не толькі з фінскага боку, але і з савецкага. Увогуле тут плануецца ўсталяваць больш за 20 тысяч імянных пліт.

узаемадапамозе». Кожная з дамоў прадугледжвала размяшчэнне на тэрыторыі краіны савецкіх вайсковых баз.

Абапіраючыся на свае вайсковыя кантынгенты, летам 1940 года Сталін без праблем арганізаваў у кожнай з балтыйскіх дзяржаў змену ўрадаў на прасавецкія і аформіў далучэнне іх да СССР у якасці саюзных рэспублік.

Фінляндыя была адзінай краінай, чыё кіраўніцтва заключаць з Савецкім Саюзам пагадненне на савецкіх умовах адмовілася — яна не прыняла прапановы мяняцца тэрыторыямі і размяшчаць савецкія базы. Фіны прапанавалі ўласны варыянт пагаднення: яны былі гатовыя на саступкі, але без пагрозы суверэнітэту. Сталіна такое не задавальняла. Ён лічыў, што лёгка раздушыць 3-мільённую краіну.

## «Невядомыя» абстралялі

Падзеі разгортваліся імкліва. 13 лістапада былі спыненыя перамовы, а 26-га «невядомыя» абстралялі савецкую тэрыторыю (праз шмат дзесяцігоддзяў стала вядома, што гэта зрабіў сам СССР — поўная аналогія з інцыдэнтам у Гляйвіцы, інсцэніроўкай Гітлера). 30 лістапада Чырвоная армія перайшла дзяржаўную мяжу.

У Хельсінкі настолькі хуткага развіцця падзей не чакалі, таму спачатку ўсё ішло для фінаў дрэнна: затрымаць савецкія дывізіі ўдалося толькі на Карэльскім перашыйку. Дзесьці фіны нават пабеглі, бо не змаглі супрацьстаяць савецкім танкам.

Камандзіры Чырвонай арміі планавалі адсвяткаваць дзень нараджэння Сталіна (21 снежня) у Хельсінкі, дзе да таго часу мусіў прыняць уладу створаны 1 снежня ў захопленым фінскім сяле Тэрыёкі (цяпер Зеленагорск у Ленінградскай вобласці Расіі) урад «Фінскай Дэмакратычнай Рэспублікі» на чале з камуністам-фінам Ота Куусіненам.

## Кактэйлі Молатава

Але здарылася нечаканасць: сотні тысяч фінаў розных сацыяльных слаёў і палітычных поглядаў выступілі на абарону краіны. Прафесура і рабочыя разам капалі акопы, а салдат-сацыяліст з характэрнай фінскай дысцыплінаванасцю падпарадкоўваўся нацыяналісту-афіцэру.

На абарону краіны стаў і бізнэс. Напрыклад, найбуйнейшая фінская алкагольная кампанія *Alko* дапамагала вырабляць «кактэйлі Молатава» (яны сталі сусветна вядомымі менавіта ў тую вайну, усяго іх вырабілі паўмільёна).

З жанчын склалася добраахвотніцкая арганізацыя «Лота Свярд» (*Lotta Svärd*): яны даглядалі параненых, тушылі пажары, падвозілі ежу на фронт. Неверагодны патрыятызм дазволіў маленькай Фінляндыі з 3,7 млн жыхароў выстаяць супраць СССР, дзе жылі 180 мільёнаў.

## Тактыка Манергейма

Апраўдала сябе і тактыка, абраная галоўнакамандуючым фінскага войска, былым генералам яшчэ царскай арміі Карлам Густавам Манергеймам. Ён разумеў, што ў адкрытым баі перамагчы Чырвоную армію немагчыма, таму на Карэльскім перашыйку была загадзя пабудавана лінія ўмацаванняў, вядомая як «Лінія Манергейма». І хоць дотаў там было не так

шмат, як на французскай «Лініі Мажыно», амаль уся зямля перад імі была прастраляная, а за лініяй стаялі галоўныя сілы арміі.

Праўда, савецка-фінская мяжа — гэта не толькі Карэлія, але і яшчэ каля 1 300 кіламетраў, дзе было нерэальна збудаваць аналагічную абарону. Таму ў цэнтры і на поўначы Фінляндыі стаўка рабілася на партызанскую вайну, якую вялі добра падрыхтаваныя лыжнікі ў белых маскхалатах. Яны непрыкметна падбіраліся да савецкіх пазіцый, абстрэльвалі іх і знікалі, сеючы паніку ў шэрагах чырвонаармейцаў.




WIKIMEDIA COMMONS




WIKIMEDIA COMMONS

**Як саветы, так і фіны надавалі вялікую ўвагу інфармацыйнаму забеспячэнню вайны, друкуючы шматлікія прапагандысцкія матэрыялы**, прызначаныя для салдат праціўніка. Тут узоры прадукцыі як аднаго, так і другога боку.

## А аказалася, як заўсёды…

Каб весці дыверсійную вайну, патрэбныя нетыповыя камандзіры, і Манергейм іх знайшоў. Напрыклад, пад Толваярві абаронцы спачатку адступілі на 60 кіламетраў, аднак новы камандзір, Паава Талвела, хутка навёў парадак і распачаў бязлітасную партызанскую вайну. У той жа час савецкая армія выявілася негатовай да зацяжной зімовай вайны. Праявіліся праблемы з абмундзіраваннем савецкіх байцоў: адзенне з бавоўны, тонкія боты і будзёнаўкі дрэнна абаранялі ад маразоў. У такіх умовах чырвонаармейцы вымушаныя былі парушаць загады і распальваць ноччу вогнішчы, па якіх іх выяўлялі снайперы і дыверсанты. Навалiла снегу — асобныя савецкія дывізіі атрымалі лыжы, але не ўсе байцы толкам умелі ездзіць. Тыповым прыкладам стала 44-я дывізія, якая камплектавалася з жыхароў Украіны і ў нязвыклых умовах была хутка разгромленая.

Непадрыхтаванай да зімы была і савецкая тэхніка: у зброі замярзала танная змазка, рухавікі танкаў глухлі, гразлі ў снезе аўтамабілі… Нешматлікія дарогі, што вялі ў цэнтр Фінляндыі, былі вузкія, таму войскі расцягваліся ў калоны да некалькіх кіламетраў. На гэта абаронцы адказвалі тактыкай «моцi» (*motti*): яны

### Ота Куусінен

(1881–1964) быў адным з лідараў фінскіх сацыял-дэмакратаў яшчэ часоў Расійскай імперыі. У час Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі 1917 года ён перайшоў да бальшавікоў. Пасля абвяшчэння 6 снежня 1917 года незалежнасці Фінляндыі ён удзельнічаў у фінскай грамадзянскай вайне на баку чырвоных. Бальшавіцкі ўрад у Петраградзе тады прызнаў фінскую незалежнасць, але спадзяваўся, што ўладу ў краіне возьмуць мясцовыя бальшавікі. Але бальшавікі ў той вайне прайгралі.
Некалькі гадоў пасля таго Ота Куусінен правёў у падполлі, а ў 1921 годзе выехаў у Маскву, дзе стаў адным з лідараў Камінтэрну — арганізацыі, адказнай за распальванне пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім свеце.
У 1939 годзе ён, як этнічны фін, аказаўся запатрабаваны.
Пасля няўдачы з ідэяй «Фінляндскай Дэмакратычнай Рэспублікі» ў Маскву пры Сталіне Куусінен ужо не вярнуўся. У 1940–1956 гадах ён займаў пасаду старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Карэла-Фінскай ССР, створанай замест «ФДР».
У 1957-м Хрушчоў забраў яго ў Маскву, дзе ён да самай смерці быў сакратаром ЦК КПСС. Пахавалі яго ў найпрэстыжнейшым некропалі СССР — Крамлёўскай сцяне.



ФОТА ПЯТРА БЯЗЗУБЕНКІ, RKNA.RU

**Ота Куусінен** у 1949 годзе.

Бетонны бункер, які захаваўся на паўвостраве Ханка ў Фінляндыі. **Ён быў элементам «Лініі Манергейма».**



## Карл Густаў Манергейм

(1867–1951) паходзіў са шведскага арыстакратычнага роду. Хоць Манергеймы жылі ў Фінляндыі з XVII ст., роднай мовай Карла Густава была шведская, па-фінску да здабыцця Фінляндыяй незалежнасці ён не размаўляў.
У Расійскай імперыі зрабіў бліскучую кар'еру, даслужыўся да генерал-маёра. Трымаўся манархісцкіх поглядаў, пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917-м вярнуўся на радзіму. Там ён узначаліў фінскае войска, якое пад ягоным кіраўніцтвам здолела перамагчы чырвоных.
У 1918–1919 гадах быў рэгентам Каралеўства Фінляндыя, фактычна кіраўніком дзяржавы, але летам 1919-га прайграў прэзідэнцкія выбары і часова пакінуў палітыку.
У 1930-я гады стаў прэзідэнтам Дзяржаўнага камітэта абароны. Рэфармаваў войска, павялічыў яго баяздольнасць. З ягоным іменем асацыюецца моцная лінія абарончых умацаванняў на Карэльскім перашыйку.
У 1944-м яму ўдалося своечасова вывесці сваю краіну з вайны. Дзякуючы гэтаму Фінляндыя не трапіла пад савецкую акупацыю, хоць аж да краху СССР мусіла ўлічваць у сваёй замежнай палітыцы інтарэсы Масквы.




**Карл Густаў Манергейм** у 1942 годзе.

## «Лінія Манергейма»

мела працягласць больш за 130 км. Паміж Выбаргам і мяжой з СССР былі спланаваныя тры лініі абароны. Найбліжэйшая да мяжы называлася «галоўнай», пасля ішла «прамежкавая», а каля Выбарга — «задняя». Будаўніцтва лініі вялося пачынаючы з 1918 года ўвесь міжваенны час.
Галоўная абарончая паласа складалася з выцягнутай у лінію сістэмы вузлоў абароны, у кожны з якіх уваходзіла некалькі драўляна-земляных умацаванняў і доўгачасовых каменна-бетонных збудаванняў, а таксама супрацьтанкавыя і супрацьпяхотныя загароджы. Флангі лініі ўпіраліся ў Фінскі заліў і Ладажскае возера.
На лініі Манергейма было 150 кулямётных бункераў, 8 артылерыйскіх бункераў, 9 камандных бункераў і 41 сховішча.
У асноўным для абароны выкарыстоўваліся ўмовы мясцовасці.
Хоць асабістая роля Карла Густава Манергейма ў стварэнні гэтай абарончай лініі была сапраўды значная, ягоным іменем яна стала называцца толькі пасля пачатку Зімовай вайны з падачы журналістаў, па аналогіі з французскай «Лініяй Мажыно» і нямецкай «Лініяй Зігфрыда».

## Кароткая храналогія ваенных дзеянняў

**30.11.1939** Пачатак наступлення савецкіх войскаў на ўсіх участках фронту

**6–8.12.1939** Першы бой у раёне Тайпале на Карэльскім перашыйку

**12–14.12.1939** 12 снежня фінскі 4-ы армейскі корпус спыніў наступленне дзвюх савецкіх дывізій (18 і 168 сд) у Паўночным Прыладажжы і перайшоў у контрнаступленне, якое працягвалася да 14 снежня

**15-22.12.1939** Адбіццё фінамі спробаў прарыву «Лініі Манергейма» часткамі Чырвонай арміі:

**17–18.12.1939** Бой у раёне Пелкасеніемі скончыўся на карысць фінскіх войскаў

**20.12.1939** Наступленне савецкіх войскаў на напрамку Кеміярві спынена ў раёне Ёўтсіярві 27–29 снежня 1939-га

**23.12.1939** Буйное контрнаступленне фінскіх войскаў на Карэльскім перашыйку пацярпела няўдачу

**23–27.12.1939** На напрамку Тайпале адбітая спроба прарыву савецкіх войскаў

**26–29.12.1939** Другое контрнаступленне фінскага 4-га армейскага корпуса перарэзала камунікацыі адной савецкай дывізіі (18 сд). Частка аперацыі па акружэнні саветаў скончылася для фінаў безвынікова 3 студзеня 1940 года

**27–29.12.1939** Фінскія войскі авалодалі вёскай Суамусалмі

**29.12.1939** Сталін прыняў рашэнне аб пераходзе да абароны войскаў, якія дзейнічалі на Карэльскім перашыйку.

**1–7.1.1940** Фінскія войскі разбілі савецкую дывізію (44 сд) на дарозе Раатэ

**6–31.1.1940** У студзені наступленне фінскага 4-га армейскага корпуса з мэтай акружэння саветаў прывяло да стварэння вялікага «катла» ў раёне Кіціля, у якім знаходзілася адна савецкая дывізія (168 сд). Асноўныя сілы другой савецкай дывізіі (18 сд) былі акружаныя ў некалькіх «катлах»

**29.1–13.3.1940** Баі фінаў у напрамку Кухма супраць акружаных сілаў Чырвонай арміі (54 сд)



TALVISOTA.FI

**1–29.2.1940** Баі фінаў супраць акружаных у Паўночным Прыладажжы сілаў Чырвонай арміі. Знішчэнне, у прыватнасці, двух «катлоў» у раёне Лемеці (Усходняга і Заходняга «катлоў»)

**11.2.1940** Пачалося генеральнае наступленне савецкага Паўночна-Заходняга фронту на Карэльскім перашыйку

**15.2.1940** Загад галоўнакамандуючага фінскай арміі аб адыходзе з «Лініі Манергейма» на прамежкавы рубеж абароны ў заходняй частцы Карэльскага перашыйка

**27.2.1940** Фінскім войскам аддадзены загад аб адыходзе з прамежкавага на тылавы рубеж абароны

**2–13.3.1940** Баі ў раёне Кола

**2–13.3.1940** Баі з удзелам фінскага 4-га армейскага корпуса ў Паўночным Прыладажжы

**2.3.1940** Савецкі Паўночна-Заходні фронт пачаў аперацыю па прарыву тылавога рубяжу абароны. Баі вяліся па лініі Выбаргскі заліў – Выбарг – рака Вуокса

**4.3.1940** Савецкія войскі захапілі плацдарм на паўночным беразе Выбаргскага заліва

**12.3.1940** Абаронцы Выбарга адышлі на тылавы рубеж абароны ў раёне Батарэйнай гары

**13.3.1940** Мірная дамова ўступіла ў сілу ў 11.00 паводле фінскага часу (12.00 паводле маскоўскага)


WIKIMEDIA COMMONS

**Эвакуацыя насельніцтва з фінскіх тэрыторый,** якія па ўмовах мірнага пагаднення адыходзілі да СССР. Сакавік 1940 года.

▶ валілі дрэвы, гэтым дзялілі савецкія войскі на катлы, а потым знішчалі іх па чарзе. Менавіта так была атрыманая славутая перамога пры Суамусалмі ў пачатку студзеня 1940-га, калі дзве савецкія дывізіі страцілі забітымі, параненымі і палоннымі не менш за 13 тысяч байцоў. Фіны ў той бітве, што доўжылася месяц, захапілі 43 танкі, каля сотні гармат і 260 аўтамашын. Праўда, ліквідаваць усе катлы абаронцы не здолелі, бо фінскай арміі не хапала для гэтага ні жаўнераў, ні снарадаў, ні самалётаў.

### Мінскія фіны на фінскія міны

Пасля шматлікіх няўдач у канцы снежня савецкаму кіраўніцтву стала зразумела, што фіны не капітулююць. З Масквы даслалі загад спыніць бессэнсоўныя лабавыя атакі, у якіх страцілі дзясяткі тысяч людзей, і змяніць тактыку. Дагэтуль планавалася, што весці вайну будзе толькі Ленінградская вайсковая акруга, але цяпер саветы мусілі ствараць Паўночны і Паўночна-Заходні франты. Туды перакідвалі сотні тысяч вайскоўцаў, новыя танкі, гарматы і самалёты.

Адначасова да баявых дзеянняў рыхтавалася і «Фінская народная армія», якая падпарадкоўвалася «ўраду» ў Тэрыёкі. Аднак раптоўна высветлілася, што карэлаў і фінаў для яе не хапае, таму ў «армію» пачалі браць людзей, з выгляду падобных да насельніцтва Фінляндыі, у першую чаргу беларусаў! У выніку на свет з'явіўся каламбур: «На фінскія міны пойдуць мінскія фіны». ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Самалёт-знішчальнік мадэлі «Фокер» фінскіх Ваенна-паветраных сілаў.** 1939 год. Сама мадэль была нідэрландская, але ў 1938 годзе ў Фінляндыі была па ліцэнзіі створана ўласная самалётная вытворчасць.

### Хакарысці — фінская свастыка

На фінскіх самалётах і танках часоў Зімовай вайны можна пабачыць выяву свастыкі. Для прапагандыстаў гэта зручная падстава, каб звязаць тагачасных фінаў з нямецкім нацызмам у цэлым і Адольфам Гітлерам у прыватнасці. Аднак акурат у гэтым выпадку гэта зусім не адпавядае сапраўднасці. Свастыка ў фіна-ўгорскіх народаў — старажытны сімвал шчасця, і войска Фінляндыі стала яе выкарыстоўваць адразу пасля набыцця незалежнасці ў 1918 годзе, то-бок яшчэ да стварэння нямецкай нацыянал-сацыялістычнай партыі і тым больш прыходу яе да ўлады. Падчас фінскай грамадзянскай вайны 1918-га адзін арыстакрат ахвяраваў фінскаму ўраду самалёт, намаляваўшы на ім эмблему свайго роду — сінюю свастыку. З таго часу хакарысці і стала сімвалам ВПС Фінляндыі. Больш за тое, нават і сёння яна размяшчаецца на сцягах некаторых асобных падраздзяленняў Ваенна-паветраных сілаў, хоць апазнавальныя знакі на саміх самалётах іншыя. У адрозненне ад нацысцкай, нахіленай на 45º, свастыкі, фінская хакарысці — строга вертыкальная. Яе традыцыйныя колеры — блакітны ў белым коле.


WIKIMEDIA COMMONS

**Сучасны сцяг Карэльскага камандавання фінскай авіяцыі.**

## 16-я савецкая рэспубліка

Пасля краху ідэі Фінляндскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Крамлі з земляў, адабраных ад Фінляндыі ў ходзе Зімовай вайны, стварылі Карэла-Фінскую ССР, якая ўваходзіла ў СССР на правах саюзнай рэспублікі і мела фармальны статус, роўны з нашай БССР. Яе стварэнне было аформлена 31 сакавіка 1940 года, а праіснавала КФССР аж да 16 ліпеня 1956 года, хоць яе тэрыторыя пасля вайны была крыху зменшана. Доля фіна-ўгорскага насельніцтва (фінаў, карэлаў і вепсаў) нават у самыя лепшыя часы не перавышала тут 30%.
Фінляндыя слушна ўспрымала існаванне гэтай рэспублікі не як праяву забеспячэння нацыянальных правоў савецкіх фінаў і карэлаў, а як доказ будучых агрэсіўных намераў СССР. Гэта была як бы гатовая псеўдафінская дзяржава, пра «ўз'яднанне» з якой у любы момант магло паставіць пытанне савецкае кіраўніцтва. Таму скасаванне КФССР і вяртанне ёй ранейшага статуса Карэльскай АССР у складзе РСФСР у 1956 годзе былі сведчаннем жадання Мікіты Хрушчова нармалізаваць адносіны з Фінляндыяй.




**Фінскія жанчыны** абаранялі краіну разам з мужчынамі.

### Ветлівыя апладысменты Захаду

Рэзервы байцоў для Чырвонай арміі былі невычэрпныя, тым часам мабілізацыйны рэзерв фінаў вычэрпваўся. А міжнародная супольнасць не спяшалася з падтрымкай, яна толькі «сурова пакарала» СССР выключэннем з Лігі Нацый (папярэдніцы ААН). Прадстаўнік Фінляндыі ў гэтай арганізацыі з горыччу казаў: «Вялікі рускі мядзведзь пайшоў па следзе невялікага фінскага сабакі. Хоць сабака і можа ўцячы на нейкі час, мядзведзь усё роўна пераможа».

Італія адправіла на дапамогу фінам 25 знішчальнікаў, але іх затрымалі немцы, і на фронт паспелі толькі 10 самалётаў. Вялікабрытанія і Францыя абяцалі 50 тысяч жаўнераў, аднак ніводзін з іх да Фінляндыі не даехаў: фармальна з-за адмовы Нарвегіі і Швецыі прапусціць войскі, а рэальна з-за меркавання, што яны спатрэбяцца і на радзіме. ЗША далі 2,5 мільёна долараў, але патрабавалі, каб грошы ішлі выключна на дапамогу мірным жыхарам і харчаванне, а не на зброю. Газета «Вашынгтон пост» з гэтай нагоды пісала: «Фінляндыя не можа чакаць іншай дапамогі, акрамя ветлівых апладысментаў».

Адзінае, што ўрады Захаду не спынялі, гэта іншаземных добраахвотнікаў, частка з якіх паспела ўступіць у бой з савецкімі войскамі — шведская эскадрылля нават прыбыла са сваімі самалётамі.

### Страцілі шмат, але захавалі галоўнае

11 лютага 1940 года пачалося новае наступленне Чырвонай арміі ў Карэліі, і гэтым разам яно ішло з удзелам вялікіх сілаў авіяцыі і атакамі на зруйнаваныя пазіцыі толькі пасля артпадрыхтоўкі. Фіны супраціўляліся, але адразу ж страцілі вялікі дот «Попіус». Праз некалькі дзён «Лінія Манергейма» была прарваная ў некалькіх месцах. У канцы лютага Чырвоная армія дайшла да рэзервовай паласы абароны, а 6 сакавіка адрэзала ад сталіцы другі паводле насельніцтва горад краіны Віipуры (цяпер Выбарг у Ленінградскай вобласці Расіі).

Паміж фронтам і Хельсінкі ліній абароны не засталося.




**Група чырвонаармейцаў з захопленым сцягам Фінляндыі.** Сакавік 1940 года.

### Принимай нас, Суоми* — красавица



Савецкая прапагандысцкая песня, напісаная ў 1939 годзе.

Сосняком по откосам кудрявится
Пограничный скупой кругозор.
Принимай нас, Суоми — красавица,
В ожерелье прозрачных озёр!

Ломят танки широкие просеки,
Самолёты кружат в облаках,
Невысокое солнышко осени
Зажигает огни на штыках.

Много лжи в эти годы наверчено,
Чтоб запутать финляндский народ.
Раскрывайте ж теперь нам доверчиво
Половинки широких ворот!

Ни шутам, ни писакам юродивым
Больше ваших сердец не смутить.
Отнимали не раз вашу родину -
Мы приходим её возвратить.

Мы приходим помочь вам расправиться,
Расплатиться с лихвой за позор.
Принимай нас, Суоми — красавица ,
В ожерелье прозрачных озёр!

* Суомі — саманазва Фінляндыі.

Фіны вымушаныя былі ісці на перамовы, але і Масква не магла сабе дазволіць далейшай вайны — і з меркавання страт, і з-за магчымых прэстыжу. Фіны сарвалі бліцкрыг, а зацяжной вайны Сталін не мог сабе дазволіць. Савецкі Саюз баяўся прыбыцця ў Фінляндыю амерыканскіх і брытанскіх войскаў. «Дэмакратычную рэспубліку» выкінулі на сметнік. Згодна з Маскоўскай мірнай дамовай ад 12 сакавіка 1940 года, Фінляндыя перадавала СССР каля 10% тэрыторыі. 420 тысяч карэлаў і фінаў назаўсёды пакідалі свае дамы. Але цаной вялізных ахвяр фіны захавалі незалежнасць. І заможнасць. У 1940 годзе Фінляндыя жыла на адным узроўні з Эстоніяй. Праз 50 гадоў яны былі ўжо як неба і зямля. Нават праз 30 гадоў пасля здабыцця незалежнасці эстонцам не ўдалося дагнаць сваіх суседзяў, сярэдні фін дагэтуль зарабляе ўдвая больш, чым сярэдні эстонец.



WIKIMEDIA COMMONS

Фінскія салдаты на пазіцыях **падчас перапынку ў ваенных дзеяннях.**

### Фінскія ўрокі

Фіны даказалі, што малая дзяржава можа змагацца з вялікім суседам, але для гэтага патрэбныя намаганні ўсяго народа.

А Савецкі Саюз пасля Зімовай вайны пачаў перабудову арміі. Жаўнеры сталі атрымліваць цёплае абмундзіраванне, вучыліся выкарыстоўваць «кактэйлі Молатава» і хадзіць на лыжах. Магчыма, менавіта «фінскія ўрокі» паспрыялі перамозе саветаў над немцамі пад Масквой зімой 1941–1942 гадоў, калі Чырвоная армія часткова выкарыстоўвала фінскую тактыку. Гэтае малое супрацьстаянне было адным з «маленькіх» канфліктаў, якія змянілі ход «вялікай» гісторыі. ◆

### Njet, Molotoff!



«Нет, Молотов!» — фінская сатырычная песня, напісаная ў 1939 годзе.

Njet Molotoff, njet Molotoff,
valehtelit enemmän kuin itse Bobrikoff.

Uralin taa, Uralin taa,
siellä onpi Molotoffin torpan maa.
Sinne pääsee Stalinit ja muutkin huijarit,
politrukit, komissaarit ja petroskoijarit.

«Фінляндыя, Фінляндыя! Поскудзі крамлёўскай ізноў справа да цябе! Молатаў сказаў, што варта нам на танкі сесці, будзем заўтра ў Хельсінкі марожанае есці! Не, Молатаў, не, Молатаў, брэшаш ты мацней, чым губернатар Бобрыкаў! Не, Молатаў, не, Молатаў, фіны не задзіры, але не любяць брахуноў».

Губернатар Бобрыкаў для фінаў быў як губернатар Мураўёў для беларусаў — царскі чыноўнік, які спрабаваў русіфікаваць краіну і быў забіты фінскім падпольшчыкам.

# Сяргей Грыцавец:

## як двойчы Герою Савецкага Саюза адсекла галаву вінтом 16 верасня 1939 года




**Сяргей Грыцавец.** Партрэт Ядвігі Раздзялоўскай. 2-я палова 1940 гадоў. З гэтага партрэта ў 1953 годзе пачынала фарміравацца калекцыя карцін Баранавіцкага краязнаўчага музея.

**Біяграфію культавага савецкага лётчыка расказвае падпалкоўнік Мікалай Кавалёў.**

### Дзед марыў, каб Сяргея ўзялі ў царкоўны хор

Нарадзіўся Сяргей Грыцавец у Бараўцах недалёка ад Баранавічаў у патрыярхальнай сялянскай сям'і. Сяргееў бацька Іван па тагачасных мерках быў «грамацей»: скончыў тры класы павятовага вучылішча. Бацюшка, бачачы здольнасці Івана да навукі, прапаноўваў вучыць хлопца далей, але дзед Антось на тое адказаў: «Няма за што!» Бацюшка пярэчыў: «Дык валоў прадай!» Дзед не саступіў.

**Вясковая мянушка Грыцаўцоў — Віннікі, бо продкі працавалі на бровары Радзівілаў**

Іван быў здольны, настаўнічаў. Быў дарэктарам — рэпетытарам для вясковых дзяцей. Неяк закватараваў узімку ў Фамы Палыкі ў недалёкім Белалессі, дзе яму і прыглянулася гаспадарова дачка Ганна — маці нашага героя. Сам Фама Палыка 15 гадоў быў салдатам-рэкрутам, удзельнічаў у вызваленні Балгарыі ад турэцкага валадарання.

Знайшоўшы жонку, Іван вярнуўся да бацькі і гаспадаркі. Але часам падпрацоўваў на блізкай чыгунцы: змятаў снег з рэек.

Дзед жа быў натурай творчай. Ён любіў і ўмеў спяваць, як, дарэчы, і нявестка. Гэты талент перадаўся і Сяргею — ва ўсіх кнігах пра Грыцаўца любяць устаўляць у яго вусны авіяцыйныя песні. Мара ў дзеда Антона была, каб каго

з унукаў узялі ў царкоўны хор. З вялікай надзеяй ён глядзеў на Сяргея — бачыў яго музычнасць і цаніў, што Сяргей па-даросламу, сур'ёзна падыходзіць да справы. Часта Сяргей засынаў пад дзедаў голас, які распавядаў пра бунты, вайсковыя паходы, службу ў князя Радзівіла, пра паходжанне мянушкі Грыцаўцоў — Віннікі (яна пайшла ад таго, што продкі Грыцаўцоў працавалі на радзівілаўскім бровары).




Савецкія авіятары катаюцца на трафейным японскім аўтамабілі-ўсюдыходзе фірмы «Кураган» на аэрадроме ў Манголіі. 1939 год. **Першы злева (сядзіць над колам) — Сяргей Грыцавец.**

### Ужо не Грыцавец

Першая сусветная вайна ўрэзалася ў памяць шасцігадоваму Сяргею гучным і цягучым бабіным галашэннем: з хат на вайну забіралі мужыкоў. Праз год вайны праз Бараўцы пацягнуліся абозы бежанцаў. На ўсход загадалі выбірацца і Грыцаўцам. Толькі да Мінска дабіраліся больш за тыдзень.

У дарозе памёр дзед Антось. Дом, у якім нарадзіўся Сяргей, згарэў. Новую радзіму сям'я Грыцаўцоў знайшла на Паўднёвым Урале, у пасёлку Шуміха, дзе бацька, маючы які-ніякі досвед працы на чыгунцы, уладкаваўся аглядчыкам вагонаў.

Сяргеевага брата Івана бацька адвёў у пачатковую царкоўнапрыходскую школу. Настаўніца паклікала неяк новенькага да дошкі і прапанавала напісаць прозвішча. Іван вывеў: «Грыцавец».

— Ты написал неправильно, — сказала настаўніца. — По-русски твоя фамилия пишется «Грицевец».

Дома Іван усім аб'явіў:

— Наша прозвішча цяпер не Грыцавец, а Грíцевец.

### Карабель не вытрымаў

У 36 гадоў у Грыцаўца памерла маці. Пахавалі яе ў Шумісе побач з сынамі Уладзімірам і Георгіем-старэйшым. Сіротамі засталіся Іван, Сяргей, Васіль, Яўгенія і трохгадовы Георгій-малодшы, які нарадзіўся ўжо на чужыне. Пасля таго і сям'я разляцелася хто куды. ▶

### Лётчык №1 і першы ў гісторыі двойчы Герой СССР

Пасля заканчэння ў 1932 годзе Арэнбургскай школы вайсковых пілотаў Сяргея Грыцаўца накіравалі ў Кіеўскую авіябрыгаду. Там ён знайшоў сваё каханне, ажаніўся. З жонкай Галяй Арловай Грыцавец пазнаёміўся на канцэрце мастацкай самадзейнасці. Сяргей граў у аркестры, на мандаліне.

Праз два гады быў прызначаны ў 1-ю Чырванасцяжную авіяцыйную эскадрыллю знішчальнікаў, якая знаходзілася ў сакральным для ўсіх лётчыкаў месцы — Гатчыне пад Ленінградам. Служба ў ёй лічылася вялікім гонарам. Неўзабаве быў адкамандзіраваны на Далёкі Усход. 1 мая 1936 года ўжо вядомы далёкаўсходні лётчык-знішчальнік Сяргей Грыцавец крочыць у парадней калоне дэманстрантаў па Краснай плошчы Масквы, а хутка становіцца выкладчыкам Адэскай школы паветранага бою.

У Адэсе і асела сям'я Грыцаўца (жонка Галя з дачкой Ларысай), пакуль ён сам з чэрвеня па кастрычнік 1938 года ваяваў у Іспаніі на баку рэспубліканцаў. Быў камандзірам 2-й эскадрыллі, а потым групы знішчальнікаў І-16. За кароткі прамежак «*камарада Сэрхіа»*, як празвалі яго новыя іспанскія сябры, выканаў блізу 90 баявых вылетаў, у 42 паветраных баях збіў 30 самалётаў. У адным з баёў асабіста збіў 7 самалётаў. У выніку Грыцавец атрымаў пазачарговае званне маёра і званне Героя Савецкага Саюза.

А ўжо з мая па жнівень 1939 года лётчык-ас ваяваў на Халхін-Голе — супраць Японіі. За гэтыя некалькі месяцаў правёў каля 140 паветраных баёў, збіўшы 12 варожых самалётаў. Паспеў і выратаваць на аднамесным знішчальніку свайго камандзіра палка, і выслухаць прапанову Георгія Жукава самому стаць кампалка, і атрымаць віншаванне ад маршала мангольскай арміі Харлагійна Чайбалсана. Таму не дзіўна, што 29 жніўня 1939 года таленавіты лётчык-баец стаў першым двойчы Героем Савецкага Саюза.

Грыцавец быў самым выніковым савецкім лётчыкам-знішчальнікам з 42-ма паветранымі перамогамі.




**«Усесаюзны стараста» Міхаіл Калінін** уручае ў Крамлі Сяргею Грыцаўцу ордэн Леніна. 1939 год.

Сяргей потым пісаў брату ў Маскву: «Вось, Ваня! Быў некалі вялікі карабель, і колькі ён трапляў пад вялікія смерчы, для яго былі не страшнымі ўраганы, як раптам наляцела бура — і наш карабель не вытрымаў, пакруціла яго па частках — Сяргей ды Жэня на Урале, Вася паміж раз'ездамі Чыстая – Шумляк дзяжурным, Іван Іванавіч у цэнтры...»

## Сяргей іграў на мандаліне і пазнаёміўся з жонкай на канцэрце

Пасля сканчэння Арэнбургскага вучылішча лейтэнанту Грыцаўцу далі, як належыць, першы афіцэрскі адпачынак. З'ездзіў да брата Івана ў Маскву. Пабачыўшы Сяргея, Іван адразу падумаў: «Вайсковым лёсам ён пайшоў у дзеда Фаму Палыку, а станам дык рыхтык дзед Антось — такі ж хударлявы і шэравокі». Сяргей і Іван з жонкай схадзілі ў Вялікі тэатр — на оперу «Кармэн». Для іх такі паход быў першым у жыцці. Пасля Масквы Сяргей наведаў бацьку ў Шумісе, схадзіў на магілкі маці ды братоў. І да брата-чыгуначніка Васіля ў Златавуст наведаўся. А пасля пачаліся кар'ера і ўзыходжанне.

### Вячэра ў Крамлі

...Пачынаючы з 30 жніўня 1939 года Сяргей жыў у прыўзнятым настроі. Незвычайным было рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР усталяваць бронзавы бюст на радзіме двойчы Героя Савецкага Саюза.

— Дзе паставяць мой бюст? — бянтэжыўся славуты лётчык, калі яго пыталі пра гэта. — Неяк не задумваўся. Але ж гэта і пытаннечка! Я думаю, у Адэсе. Але ж нарадзіўся я не там. Там, дзе я нарадзіўся, ніхто не паставіць бюста...

11 верасня «пажарную каманду» лётчыкаў-герояў адклікалі ў Маскву.

Грыцавец здагадваўся чаму. Разумеючы, што на носе чарговая «камандзіроўка», Сяргей «выпрасіў» палёт у Адэсу, да сям'і. Камандарм даў роўна суткі. Там наведаў і школу паветранага бою. З радасцю яму, малодшаму па званні, але першаму ў краіне двойчы Герою, адрапартаваў начальнік школы. Калі ляцелі назад, Сяргей пранёсся над хатай свайго бацькі, які ў гэты час жыў у Крулеўцах на Сумшчыне (Украіна). Іван Антонавіч, стоячы разгублена ў атачэнні суседзяў, не ведаў, які з сыноў прылятаў: Сяргей ці Георгій? Малодшы, Георгій Грыцавец, ужо таксама скончыў 8-ю Адэскую школу пілотаў.

На Цэнтральным аэрадроме пад Масквой іх ужо нецярпліва чакалі. На нарадзе прысутнічала каля 100 лётчыкаў. Былі члены Палітбюро, Сталін. Размова вялася пра «абарону заходніх беларусаў і ўкраінцаў ад пакарэння фашызмам і ўз'яднанне». Грыцавец наблізіўся да карты. Вось лінія дзяржаўнай мяжы, а за ёй — зусім блізка — яго Бараўцы... Чвэрць стагоддзя ён не быў у тых мясцінах, дзе нарадзіўся, ішоў да іх далёкай, акружной дарогай, праз горы Іспаніі і пустынныя стэпы Манголіі. Сустрэча скончылася ўрачыстай вячэрай у Гранавітай палаце Крамля.

### Недарэчная смерць

15 верасня паляцелі з Масквы. Сяргея Грыцаўца прызначылі

Другая дачка Сяргея і Галіны, Ніна, нарадзілася ўжо пасля смерці бацькі. Яе мама, Галіна, памрэ ў час вайны ў эвакуацыі ў Кіргізстане.

камандзірам 58-й Аршанскай авіябрыгады 11-й арміі Беларускага фронту. Зрабілі тэхнічную пасадку ў Смаленску, схадзіў на пошту — адправіў тэлеграму жонцы са словамі: «Не хвалюйся. Чакай ліст. Цалую моцна. Твой Сяргей». Зранку 16 верасня Сяргей паляцеў у Балбасава пад Оршай. Адтуль пад Мінск, на аэрадром Мачулішчы. Зачыталі баявы загад «№001». 58-я знішчальная брыгада Грыцаўца павінна была падтрымліваць з паветра Мінскую групу 11-й арміі ў напрамку Іўя, Ліды, Гродна. Неба зацягвалася. Сяргей Грыцавец на сваім І-15 і два камандзіры палка паляцелі назад, на аэрадром Балбасава.

Арыентаваліся па «компасе Кагановіча» — так называлі чыгунку Мінск – Масква. У прыцемках Сяргей сеў з ходу першым, не робячы круг над аэрадромам, вызваліў паласу ды зарuліў на нейтральную. Лётчык пакінуў самалёт. Матор быў на мінімальных абаротах. Сяргей вызваліўся з прывязных рамянёў, падняўся, адной нагой пераступіў цераз борт кабіны. Стаў разглядаць натоўп з кветкамі. Калі падышоў баец-фінішор, Грыцавец спытаў:

— З якой нагоды збор?

— Прыйшлі двойчы Героя Савецкага Саюза сустракаць.

Сяргей пасміхнуўся — баец не пазнаў яго...

Маёр Пятро Хара, які ішоў на пасадку другім, не разгледзеўшы выкладзеную літару «Т», пачаў садзіцца з процілеглага боку аэрадрома. Убачыўшы такое, Грыцавец сеў у кабіну і вывеў абароты на максімал. Не хапіла долі секундаў — на вялікай хуткасці самалёт Хары ўрэзаўся ў машыну Грыцаўца. Хара атрымаў сур'ёзныя траўмы, а Грыцаўцу вінтом адсекла галаву. Ён пражыў толькі тры дзясяткі гадоў.

Па іроніі лёсу, маёр Хара вызваляў у канцы вайны родныя мясціны Сяргея Грыцаўца. А распісваючыся на сцяне Рэйхстага, распісаўся і ад імя свайго так недарэчна загінулага таварыша. ◆



ФОТА БАРЫСА НАВАГРАНА, NASHKRAJ.BY

**Унук Сяргея Грыцаўца Сяргей Архангельскі з сынам Ягорам** на радзіме свайго продка. Ліпень 2019 года. З 2012-га вёска Бараўцы — частка Баранавічаў.



ФОТА М. А. ІВАНОВА, AIRCRAFT-MUSEUM.UCOZ.RU

Помнік-бюст Сяргею Грыцаўцу ў Мінску ў парку імя Янкі Купалы (тады — 30-годдзя БССР), 1961 год. **Цяпер ён стаіць ў скверы на вуліцы Леніна.**

## Помнік перанеслі праз стылягаў

У 1940 годзе на месцы згарэлай дзедавай хаты, дзе нарадзіўся герой, стрыечны пляменнік лётчыка пабудаваў новы дом, на якім пазней павесяць мемарыяльную дошку…

У 1955 годзе бюст двойчы Героя, выраблены Заірам Азгурам, быў адкрыты ў Мінску. Першапачаткова ён стаяў у цяперашнім парку Янкі Купалы, насупраць штаба Беларускай вайсковай акругі — цяперашняга Міністэрства абароны. А перанеслі яго ў 1972 годзе ў сквер на вуліцы Леніна, дзе помнік стаіць і цяпер, бо ранейшае месца ў 60-я аблюбавалі стылягі, з якімі ўпарта змагаліся ўлады. У іх слэнгу тады нават фраза з'явілася: «Пайшлі на Грыцавец».

У 2012 годзе начальнік Мінскага аэраклуба імя Грыцаўца Мікалай Мачанскі прапанаваў перанесці прах славутага лётчыка з-пад Оршы ў мінскі храм Усіх Святых. Ідэю падтрымала дачка Ларыса. Пытанне вырашаецца. Заўважым, што сябар Грыцаўца — лётчык Рыгор Краўчанка, які разам з Грыцаўцом стаў першым двойчы Героем Савецкага Саюза, загінуў у вайну і быў пахаваны ў найбольш прэстыжным на той час месцы — Крамлёўскай сцяне.

**Хаім Суцін. Ева. З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка.** Суціна вылучаюць непаўторны сіні і непаўторны чырвоны колеры.

# Хаім Суцін
## у чым яго геній

# «Шчаслівы, як яўрэй у Парыжы»

**Разам з Шагалам ён можа стаць адным з брэндаў Беларусі. Аднак яго пакуль ведаюць менш. Любімчык жанчын, багаты пры жыцці — і ў той жа час выразна нешчаслівы. Непаўторны суцінскі сіні, непаўторны чырвоны і дэфармаваныя целы — чаму гэта ўсё і што значыць? Тлумачыць мастацтвазнаўца Надзея Вусава.**

Нядаўна адзін з беларускіх калекцыянераў перад тым, як купіць эцюд Суціна з прыватнага збору, звярнуўся ў Мюнхенскую пінакатэку з просьбай пацвердзіць яго якасць. «Дык у вас там у Смілавічах ёсць музей Суціна, звярніцеся да сваіх спецыялістаў», — адказалі нашы нямецкія калегі. Гісторыя парадавала: пра смілавіцкі музей «Прастора Хаіма Суціна» ведаюць у Нямеччыне, не падазраючы, праўда, што гэта зусім невялічкі музейчык, хоць і з прыстойным сайтам, добрай бібліятэкай і ўласным кафэ, дзе можна паслухаць экскурсію за кубачкам кавы. Гадоў з дзесяць таму ў Смілавічах і не падазравалі, што мястэчка з'яўляецца міжнародным мастацкім брэндам, як Віцебск Шагала або Таледа Эль Грэка, а Суцін — яго «геніем месца».

### Не вар'ят і не бядняк

Біяграфія Суціна рэканструяваная на аснове нешматлікіх дакументаў, фотаздымкаў і ўспамінаў, што дайшлі да нашага часу. Таму яна наскрозь міфалагізаваная. Біёграфы стварылі казачную гісторыю пра беднага геніяльнага хлопца з беднай вёскі, які здабыў у Парыжы багацце і прызнанне. 15–20 гісторый пра Суціна вандруюць з выдання ў выданне, ствараючы мудрагелісты вобраз «вар'ята са Смілавіч» (так называлася адна з яго выстаў у Парыжы).

> **Многія лічаць, што ў аснове геніяльнасці ляжыць добрая памяць**

Але ўсё, вядома, было больш празаічна. І бацька ягоны быў не цыравальшчык, а паважаны кравец жаночага адзення, які жыў у цэнтры мястэчка. І не пагарджалі бацькі сынам-студэнтам Віленскай мастацкай школы, а, наадварот, ганарыліся, упрыгожваючы ягонымі вучнёўскімі работамі дом. І студэнцкія канікулы Хаім праводзіў на Балтыцы, бо праца

**Марша́н** (ад фр. *Marchand* — гандляр, купец) — прадавец карцін і іншых твораў мастацтва.




рэтушора ў мінскім фотаатэлье давала цалкам прыстойны заробак. І сваякі ягоныя не загінулі ў гета, а мірна памерлі да вайны, і магілы іх вядомыя. І не быў Хаім выродкам з пашкоджаным вокам, а проста пакутаваў ад нервовага ціку. І, вядома, не быў ён вар'ятам, які шукаў свае творы, каб іх знішчыць, — а проста быў надзвычай патрабавальны да сябе і пазбаўляўся недасканалых прац.

А калі ў канцы жыцця адмаўляў у грашовай дапамозе былым сябрам, то не праз пыху: Суцін быў хворым замкнёным чалавекам з частымі прыступамі вострага язвавага болю. Ён добра ведаў цану мастакоўскаму сяброўству, замешанаму на амбіцыях і зайздрасці. Яго сябрам, якія пачыналі разам, прыйшлося задавольвацца славай «мастакоў кола Суціна», стаць «Суцінымі для бедных», а гэта, пагадзіцеся, не надта прыемна.

### Па пратэкцыі Мадыльяні

Хаім Суцін прыехаў у Парыж, у мастацкае братэрства «Вулей», з Вільні, з мастацкай школы ▸

▸ акадэміка Івана Трутнева. Да гэтага некалькі месяцаў вучыўся ў прыватнай школе Якава Кругера ў Мінску, якая размяшчалася на Захар'еўскай. Яўрэям у Расійскай імперыі забаранялася жыць у сталіцах, існаваў цэнз на паступленне ў ВНУ. Гэта выклікала эміграцыю.

## «Я сыходжу, але пакідаю вам Суціна, ён геній», — сказаў Мадыльяні Збароўскаму перад смерцю (але гэта не пэўна)



Амедэа Мадыльяні. Партрэт Суціна.

У тыя часы бытавала прымаўка: «Шчаслівы, як яўрэй у Парыжы». Пасля рысы аселасці, зняваг і пастаяннай пагрозы пагромаў Парыж з яго талерантнасцю да іншаземцаў здаваўся раем. Што не адмяняла бытавых цяжкасцяў адаптацыі. Суцін не валодаў французскай мовай, не меў стыпендыі мецэната Максіма Вінавера, як Марк Шагал, і не атрымліваў дапамогі ад бацькоў, як Міхаіл Кікоін. Яго шлях на мастацкі алімп быў цярністым: даводзілася працаваць і грузчыкам на вакзалах, і рабочым на заводзе «Рэно», і натуршчыкам, і рэтушорам, і маляром, і рознарабочым. Суцін не грэбаваў ніякай працай, каб пракарміцца ў Парыжы, дзе на той час працавала 40 тысяч мастакоў-іншаземцаў.

Ён быў надзвычай сарамлівы, але шмат чытаў і вучыўся ў старых майстроў у Луўры. Першым талент каларыста Суціна заўважыў Амедэа Мадыльяні, які звёў яго з парыжскім маршанам — польскім яўрэем Леапольдам Збароўскім. Знаёмства стала карысным для абодвух.

Цікава, ці стаў бы Суцін легендай, калі б не беспрэцэдэнтная пасмяротная слава Мадыльяні, у промнях якой ён незнарок апынуўся? Мадыльяні напісаў тры партрэты Суціна. Аднаго гэтага было ўжо дастаткова, каб прыцягнуць да яго ўвагу. Біяграфія заззяла новымі фарбамі: сабутэльніка Мадыльяні, яго даверанага інтымнага сябра. «Я сыходжу, але пакідаю вам Суціна, ён геній», — нібыта сказаў

52 яго карціны купіў доктар Альфрэд Барнс, амерыканскі мільянер. Цэны на карціны Суціна тут жа ўзляцелі. Мастак адразу набыў камфартабельнае жыллё ў цэнтры Парыжа, наняў машыну з асабістым кіроўцам, ездзіў на курорты ў Ніцу і ператварыўся ў парыжскага дэндзі.

Мадыльяні Збароўскаму перад смерцю. Збароўскі паверыў і не пакінуў Суціна ў цяжкія гады, не даўшы літаральна памерці з голаду. Ён аказаў яму велізарную паслугу, вывез на поўдзень Францыі, да сонца, дзе рэалістычная палітра Суціна набыла ззянне святла. Менавіта гэтыя работы Суцін потым шукаў, скупляў і бязлітасна знішчаў, лічачы іх «пройдзеным этапам».

Мастак біўся з галечай на працягу дзесяці гадоў, пасля якіх адбыўся рашучы і казачны перапалом — 52 яго карціны купіў доктар Альфрэд Барнс, амерыканскі мільянер. Цэны на карціны Суціна тут жа ўзляцелі, мастак нарэшце пакінуў жабрацкі «Вулей» і зняў майстэрню, а пасля набыў і камфартабельнае жыллё ў цэнтры Парыжа, наймаў машыну з асабістым кіроўцам, ездзіў на курорты ў Ніцу і ператварыўся ў парыжскага дэндзі, на якога палявалі калекцыянеры і прыгажуні ў надзеі атрымаць у падарунак карціну.

У гады Другой сусветнай вайны Суцін, нягледзячы на запрашэнне сястры эміграваць услед за ёй у ЗША, не змог пакінуць Францыю: дакументы са Смілавіч даслалі занадта позна. Мастак жыў у свабоднай зоне на поўдні краіны, пастаянна баючыся арышту і канцлагеру. Даўняя хвароба з-за перажыванняў абвастрылася, і ён памёр ад перытаніту ў Парыжы, пасля аперацыі. У Парыж Хаіма таемна прывезла апошняя каханка Мары Бланш пасля асабліва пякельнага прыступу.

Суцін памёр нежанаты, бяздзетны, і ўсе ягоныя карціны апынуліся ў руках маршанаў, якія выгадна прадалі іх ужо ў пасляваенны час, не пакінуўшы законным спадчыннікам — шматлікім братам і сёстрам у СССР і ЗША — ніводнай. Драматычны лёс Суціна, дзівацтвы і цудоўны ўзлёт, сяброўства з Мадыльяні, багемнае жыццё ў «Вуллі», а галоўнае — фантастычныя цэны на нешматлікую спадчыну зрабілі Хаіма легендай Манпарнаса.

### Смілавіцкая настальгія

Суціна заўсёды проціпастаўляюць Шагалу, і не на карысць Суціна: маўляў, забыўся пра радзіму, ніколі не пісаў родных мясцін, саромеўся свайго мястэчка і імкнуўся хутчэй афранцузіцца. А Шагал вось усё жыццё дэклараваў прыхільнасць да Віцебска.

У Суціна сапраўды няма карцін, прысвечаных радзіме. І ўсё ж смілавіцкая настальгія разлітая ў яго французскіх работах, праўда, у адрозненне ад карцін Шагала, яна завуаляваная.

Многія філосафы лічаць, што ў аснове геніяльнасці ляжыць добрая памяць. Успаміны дзяцінства, трансфармаваныя і перакладзеныя на мову мастацтва, складаюць тое каштоўнае ў мастацтве, што кранае пачуцці.

Суцін заставаўся прадуктам роднага мястэчка, нягледзячы на доўгія гады ў Парыжы. Яшчэ ў картцы эмігранта 18-гадовы Хаім пазначыў сваю радзіму так: ён напісаў не Расію, не Мінск, не Вільню, а прастадушна — Смілавічы. Без геаграфічнай прывязкі. Ён не стаў і мадэрнізаваць свайго імя, як Кікоін або Шагал, якія сталі Мішэлем ды Маркам, а застаўся з імем, дадзеным пры нараджэнні, — Хаім, што азначае «жыццё». Гэта сведчыць аб яго характары, жаданні з маладосці заставацца тым, кім ёсць.

## Бацька прасіў у Хаіма грошай на папраўку дома і лодкі ды на новыя боты

Першыя галодныя гады ў Парыжы Суцін, мяркуючы па ўсім, нічога не паведамляў пра сябе сям'і. Але ў канцы 1920-х, калі Хаім дамогся поспеху, перапіска са сваякамі аднавілася і працягвалася ў 1930-я гады. Яго зямляк, мастак Шрага Царфін са Смілавіч, перадаў Суціну ліст ад бацькі з просьбай аб грашовай дапамозе на папраўку дома і лодкі ды на новыя боты. Залман Суцін заклікаў сына збіраць грошы, ▶



«Вулей» — прытулак маладых мастакоў у Парыжы пачатку ХХ стагоддзя.

▶ а не марнаваць іх, і радаваўся, што сын нарэшце «стаў гаспадаром». Бацька прызнаваў, што часам біў Хаіма ў дзяцінстве, але гэта, маўляў, толькі пайшло яму на карысць. І запрашаў сына прыехаць на радзіму. Суцін пабаяўся, што лішні раз сведчыць пра яго палітычную празорлівасць. Але пра сям'ю клапаціўся. Мадам Кастэн, сяброўка і новы маршан мастака (пасля смерці Збароўскага), пісала, што Суцін даручаў ёй пераводзіць некаторыя сумы на адрас бацькоў у БССР, а адна з каханак мастака, Герда, заўсёды нагадвала яму: пара адказаць на лісты бацькоў. Так што легенда аб яго адарванасці ад сям'і таксама моцна перабольшаная.

У гады вайны Суцін прагнуў быць побач са знаёмымі родам з Беларусі, распытваў іх аб радзіме, вёў з імі шчырую перапіску. Дзе і падзелася яго праславутая замкнёнасць!

### Селядзец як успамін

Многія матывы жывапісу Суціна паходзяць з дзяцінства і ранняга юнацтва. Напрыклад, дзяўчаты з лялькай, якія сядзяць на крэслах у нязручных позах. Або двое дзяцей, што бягуць па дарозе. Гэтыя матывы звязаныя з сям'ёй мастака. Суцін быў 10-м з 11-ці дзяцей краўца. Трое старэйшых братоў і сястра эміґравалі ў ЗША яшчэ ў дзіцячыя гады Суціна, ён іх амаль не памятаў. Цесныя адносіны звязвалі яго з малодшай на 6 гадоў Этэль, якой ён быў за няньку, яны разам гулялі і блукалі па наваколлі. Ёй было дзесяць, калі Хаім з'ехаў у Парыж. У 1936-м Этэль памерла ад дыябету, пакінуўшы дзвюх дачок, адна з якіх была цяжка хворай.

## Ён усур'ёз думаў, як пераправіць з Парыжа ў Смілавічы карову

Менавіта Этэль паведаміла ў Парыж пра смерць брата Янкеля і бацькі ў 1932 годзе. А за год да смерці пісала Хаіму на ідыш:


**Селядзец і цыбуля.** Каля 1917 года.

«Цяпер, дарагі брат, ты для нас прамень святла, ты робіш наша змрочнае жыццё святлейшым, ты асвятляеш усё. Твае навіны даюць нам сілы жыць. Мы вечна будзем памятаць падарунак, які ты нам зрабіў... Дарагі браце, уся надзея толькі на цябе; я звяртаюся да цябе, бо ў мяне няма іншага выйсця. Ты самы блізкі чалавек, якому я магу распавесці пра свае беды». Суцін не мог не адгукнуцца: ён сур'ёзна абмяркоўваў са сваёй суседкай скульптаркай Ханнай Арловай, як купіць для сястры і пераправіць у Смілавічы карову. Але ўрэшце абмежаваўся грашыма.


**Двое дзяцей на дарозе-II.** 1942 год.

Іншы навязлівы ўспамін з дзяцінства — **двое дзяцей, што бягуць па дарозе.**


**Вяртанне са школы пасля навальніцы.** Каля 1939 года.





**Рыба і памідоры.** 1924 год.

**Сюжэт, навеяны ўспамінамі з дзяцінства, — селядцы.** Селядзец, фаршмак — любімая страва яўрэйскай кухні з-за таннасці і пажыўнасці. Селядзец самай нізкай якасці, так званы «ржавы», купляўся ў першыя парыжскія гады і як мадэль для нацюрмортаў, і як танная, звыклая з дзяцінства ежа, якую Хаім пісаў, ледзь стрымліваючы галодныя спазмы. У гэтых нецярплівых, драпежных відэльцах, накіраваных на талерку, чытаецца ледзь стрыманы малады апетыт жабрака-мастака.

А іншы сюжэт з дзяцінства — селядцы. Селядзец, фаршмак — любімая страва яўрэйскай кухні з-за таннасці і пажыўнасці. Селядзец самай нізкай якасці, так званы «ржавы», купляўся ў першыя парыжскія гады і як мадэль для нацюрмортаў, і як танная, звыклая з дзяцінства ежа, якую Хаім пісаў, ледзь стрымліваючы галодныя спазмы. У гэтых нецярплівых, драпежных відэльцах, накіраваных на талерку, чытаецца ледзь стрыманы малады апетыт жабрака-мастака.

## Чаму Суцін — мара музеяў

«Ці можна было сабе ўявіць, што пра працы гэтага недалужнага падлетка, ураджэнца беларускага мястэчка Смілавічы, будуць марыць музеі ўсяго свету?» — напісаў некалі Ілья Эрэнбург.

Яшчэ пры жыцці карціны Суціна сталі купляць буйныя калекцыянеры і музеі. Толькі ў Філадэльфійскім музеі, былой калекцыі доктара Барнса, 21 яго карціна. Французскія музеі маюць дзясяткі палотнаў. У Расіі толькі Эрмітаж мае аўтапартрэт. Мець карціну Суціна ў калекцыі — прэстыжна, яны, як магніт, вабяць наведнікаў. Што ж прыцягвае гледачоў? «Суцін — гэта навальніца, стыхія, ураган. Гэта новы тып мастака, які зрывае скуру з прадметаў, выварочвае вонкі не заўсёды прыстойнае чалавечае нутро», — піша Эрэнбург.

Суціна ўмоўна адносяць да экспрэсіянізму — кірунку, які не атрымаў у Францыі шырокага распаўсюджання. Апантаны жывапіс мастака, шалёны тэмп яго мазкоў, запал да дэфармацыі натуры, рэдкае ўменне суперажываць сваім мадэлям, павышаная эмацыйнасць, пачуццёвае стаўленне да колеру — якасці, блізкія эстэтыцы нямецкіх экспрэсіяністаў. Але Суцін усё ж занадта самабытны, інтуітыўны, незалежны ў прыёмах самавыяўлення. Ён не жадаў удзельнічаць у калектыўных маніфестах, не меў жадання аб’ядноўвацца. Ён адзін, сам па сабе. Гэта робіць яго ўнікальным.

Суцін уваходзіць у лік найвыбітнейшых каларыстаў. Расійскі імпрэсіяніст Канстанцін Каровін сказаў пра яго: «Калі я — адна конская сіла, то Суцін — гэта 100 конскіх сілаў». Такое напружанне колеру, чыстае гучанне, буянства завірушных фарбаў мала ў каго знойдзеш. Як і Ван Гог, ён выкарыстоўваў колер адвольна, каб выказаць сябе, свой тэмперамент. Кажуць, што пры ўваходзе ў залу, дзе знаходзіцца мноства карцін, усе гледачы ►




«Маленькая дзяўчынка з лялькай». 1919 год. Суцін часта маляваў **дзяўчатак з лялькай у нязручнай позе**.

інстынктыўна ідуць менавіта да Суціна. Іх зачароўвае колер.

Сіні і чырвоны — яго фірмовыя колеры.

### Сіні Суціна. Жанчыны на сінім фоне

Суцін, бывала, пісаў і знаёмых людзей — мастакоў ды калекцыянераў, але часцей рабіў партрэты звычайных, невядомых персанажаў: дзяцей, маленькіх кухарчыкаў, харыстаў, маладых і старых жанчын. Захапіўшыся пэўным чалавекам, мастак угаворваў і прымушаў яго пазіраваць доўга і нерухома. Перадаюць гісторыю, што ён нават ударыў натуршчыцу — дзяўчыну, якой надакучыла стаяць па калена ў вадзе, і яна пайшла.

Сярод партрэтаў 1928–1929 гадоў вылучаецца цэлая серыя з 15-ці жаночых партрэтаў на сінім фоне з пэўнай кампазіцыйнай схемай. У Беларусі можна ўбачыць «Еву» 1928 года — адзін з партрэтаў гэтай серыі.

Невядома, хто гераіня карціны. Проста знаёмая натуршчыца з біблейскім імем (у Суціна ёсць яшчэ адна «Ева» — аголеная, вельмі рэдкі для Суціна сюжэт) або чалавек з найбліжэйшага атачэння — прыяцелька, пакаёўка, афіцыянтка ў кафэ... Партрэт зачароўвае, хоць па кампазіцыі здаецца вельмі простым, нават прымітыўным. Маладая жанчына намаляваная па пояс у чорнай сукенцы з глыбокім трохкутным выразам. У яе ладная фігурка, кароткія кучаравыя валасы, чорныя вочы і бровы, маленькія пульхныя вусны. Ганарлівая прыгажуня. Рукі, чатырохпалыя, напісаныя абы-як, амаль лапы-клюшні, намаляваныя ў жэсце спакою і ўпэўненасці, з аднаго боку, і закрытасці, абароны — з другога.


**Дзяўчынка ў сіняй сукенцы з чырвоным каўнерам.** 1928 год.

**Партрэт мадам Кастэн.**

Калі глядзіш на «Еву», узнікае адчуванне спантаннасці і імгненнай працы ў адзін сеанс. Але партрэты пісаліся некалькі сеансаў, часам пакутліва, з выскрабаннем фарбы, падшываннем кавалачкаў палатна і знішчэннем зробленага. Адразу некалькімі пэндзлямі. Суцін прымудраўся трымаць іх у адной руцэ, робячы адным пэндзлем толькі адзіны мазок. Гучнасць яго палітры дасягалася гэтым прыёмам — чысцінёй фарбы з цюбіка.

Незвычайны сіні з'яўляецца і ў пейзажах з матывам дрэваў, якія хістае вецер. Суцін шмат пісаў дрэвы ў час навальніцы, таполі ў Шартры, дзе жылі яго сябры. «Якія прыгожыя дрэвы! Мне прыемна было назіраць днямі за вярбой, выгнутай ураганным ветрам. Якой прыгожай яна была, выгнутая, пад дажджом!» — пісаў ён свайму земляку-афіцэру родам з-пад Мінска ў 1939 годзе.



**Дзяўчына на блакітным фоне.** 1920-я гады.



**Дрэвы на вятры.** 1939 год.

Хлапчуком, уцякаючы з дому, ён нават начаваў на дрэвах. Прыедзьце ў Смілавічы — і вы зразумееце, што гэта цалкам рэальна: магутныя вербы са спадзістымі галінамі па-ранейшаму схіляюцца над Волмай, як у дзяцінстве Суціна. Суцін умеў пісаць толькі з натуры, але натхняўся даўнімі ўспамінамі.

Багаты адценнямі суцінскі сіні ўразіў мадам Кастэн. Яна была вядомым дызайнерам модных парыжскіх інтэр'ераў і купляла ў Суціна менавіта такія карціны. Урэшце яна стала выкарыстоўваць «сіні Суціна» ў каларыстыцы сцэнаў, парцьераў, шпалераў арыстакратычных гасцiных. «Стыль Кастэн» у парыжскай інтэр'ернай модзе 1930-х вызначыўся гэтым вытанчаным адценнем.

### Чырвоны Суціна. Гладыёлусы

Другі непаўторны колер палітры Суціна — чырвоны. Скрываўленыя тушы, чырвоныя гладыёлусы, партрэты на чырвоным фоне і жанчыны ў чырвоных сукенках. Вогненны, з рознымі адценнямі, неверагодны чырвоны асабліва ўражвае ў серыі «Гладыёлусы».

**Суцін памёр нежанаты, бяздзетны, і ўсе ягоныя карціны апынуліся ў руках маршанаў. Законным спадчыннікам — шматлікім братам і сёстрам у СССР і ЗША — не дасталося нічога**

Гладыёлусы зручна пісаць: яны доўга не вянуць у вазе. Мастак назіраў, як старыя кветкі, паміраючы, даюць жыццё ўсё ▸



**Аўтапартрэт.** Каля 1918 года.



**Гэта «Ялавічная туша» Рэмбранта.** Мастак вельмі яе любіў і захоўваў у майстэрні, пакуль тую майстэрню не прадаў. Хоць гэта і нацюрморт, у ім ёсць матыў *memento mori*.

## Выгляд Суціна

У 1927 годзе пасля серыі бліскучых нацюрмортаў мастак звярнуўся амаль выключна да краявідаў і партрэтаў. Запоем, за пяць гадоў, ён напісаў іх больш за 60. Партрэты гэтыя вельмі розныя: гратэскавыя, амаль карыкатурныя, з дэфармаванымі пэндзлем мастака агромністымі, непрапарцыйна вялікімі вушамі, дзікімі вачыма, чырвонымі вуснамі... Нейкія вырадкі! Разгубленасць і здзіўленне не пакідаюць і сучаснага гледача: рэальныя людзі выглядаюць у Суціна як монстры!

Але і сябе Суцін не шкадаваў і маляваў праставатым, забітым, з адвіслай губой і вялізнымі вушамі... З-за гэтых аўтапартрэтаў і распаўсюдзіўся міф пра яго пачварнасць, хоць фатаграфіі дэманструюць брутальную мужчынскую прывабнасць. У яго былі прыгожыя, нават зграбныя рукі з доўгімі пальцамі. І — неверагодна! — у 1930-я Хаім стаў пастаянным кліентам манікюркі. Нездарма, па прызнанні Ханны Арловай, да яго цягнула жанчын, і каханак у Суціна было нямала, хоць ён і не прывязваўся да іх, лёгка пераносячы разрывы.

У юнацтве Суцін-рэтушор па абавязку рабіў людзей прыгожымі, быў «жывым фоташопам». Прафесія карміла і абавязвала эстэтызаваць рэальнасць, падпраўляючы насы, прыбіраючы падвойныя падбародкі, робячы вейкі густымі, вусны пунсовымі, а шчокі ружовымі. Дзясяткі фатаграфій у дзень. «Ён часта змалёўваў партрэты з фатаграфій. Ён рабіў з іх павялічаныя копіі, якія прыводзілі ў захапленне жыхароў мястэчка. Пазней, калі ён вучыўся ў Вільні, Хаім спрабаваў зарабляць гэтым на жыццё, паколькі яго бацька не мог дапамагаць яму грашыма», — успамінаў яго зямляк Царфін.

А ў сваіх партрэтах — у адказ на заказную прыгажосць — Суцін нявечыць прызнаных прыгажунь, нібы ставячы перад імі крывое люстэрка. Партрэты шакавалі гледачоў і здаваліся жахлівымі пладамі шызафрэнічных сноў хворага мастака-мізантропа. Але цікава: міналі гады, і мадэлі Суціна пачыналі пазнаваць на партрэтах саміх сябе...



**А гэта «Ялавічная туша» Суціна.** Мастак выбраў для яе рэзкі, пранізлівы сіні фон. Суцін быў зацыклены на вобразах мяса і крыві. Ёсць нешта пакутлівае і ў гэтай выяве. Цела нібы засталося выгнутае ў апошніх канвульсіях агоніі.



**У труну яму паклалі чырвоныя гладыёлусы**

новым суквецтям. Магчыма, ён бачыў у гэтым абнаўленне жыцця.

Гладыёлусы яшчэ ў пачатку XX стагоддзя лічыліся экзотыкай. Суцін мог бачыць іх у дзяцінстве ў парку Ваньковічаў у Смілавічах, дзе яшчэ пры ранейшых гаспадарах, Манюшках, былі закладзеныя аранжарэі. Чырвоных прыгажуноў з моцным сцяблом называлі шабельнікам, кветкай гладыятараў, мужчынскай кветкай.

Гладыёлусамі захапляліся многія французскія мастакі. Іх спецыяльна разводзіў у Жыверні Клод Манэ, цэлую серыю іх напісаў Ван Гог. Суцін нібы ўступіў у творчае спаборніцтва са славутымі мастакамі. У яго творах няма святочнай весялосці, як у Ван Гога. Яны трагічныя, скрываўленыя: кветкі сцякаюць як плямы крыві і надаюць карцінам журботны сэнс. Ведаючы сантымент Суціна да гэтых кветак, у труну яму, як сведчыць фотаздымак 1943 года, Макс Жакоб або Пабла Пікаса паклалі ягоныя любімыя чырвоныя гладыёлусы...

### Беларускі Суцін

Цяжка было ўявіць, што калісьці карціны Суціна, якія каштуюць сотні тысяч даляраў, трапяць у Смілавічы і ў Мінск, яго родныя мясціны. Але сапраўды — ніколі не кажы ніколі. Зараз тры ягоныя карціны знаходзяцца ў карпаратыўнай калекцыі «Арт-Беларусь», сабранай Белгазпрамбанкам: «Ева», «Заснула з кнігай, Мадлен Кастэн», «Вялікія лугі ў Шартры, каля віядука». Цяпер кожны можа ўбачыць арыгіналы Суціна ў Мінску.

А ў 2015 годзе адна з гэтых карцін была прывезена ў Смілавічы. Праўда, усяго на палову дня. Гэтая сімвалічная акцыя выклікала ажыятаж у жыхароў мястэчка. Думаю, Суцін быў бы задаволены: жыхары на ягонай радзіме нарэшце ўбачылі яго жывапіс, хоць і праз 100 гадоў пасля яго ад’езду. У 2018 годзе імя Хаіма Суціна надалі смілавіцкаму Цэнтру творчасці дзяцей і моладзі. Гэта пакуль адзіны акт мемарыялізацыі вялікага мастака ў Беларусі. ◆

SHUTTERSTOCK.COM. BY CHAIWAT HEMAKOM

# «Я лічыў свае дзеянні талентам»

**50 год таму, у 1969 годзе, у Мінску прайшоў маштабны судовы працэс над «валютчыкамі і фарцоўшчыкамі». Піша Сяргей Ваганаў.**

Я працаваў тады ў «Знамёнцы», як прастамоўна называлася рускамоўная газета «Знамя юности», і атрымаў ад рэдакцыі заданне асвятляць гэты працэс. Пра валютчыкаў і фарцоўшчыкаў тады ўсе ведалі, але ні я, ні маё сяброўскае кола іх паслугамі не карысталіся. Апраналіся не тое каб толькі ў айчыннае, але з прылаўкаў ГУМа, ЦУМа, а таксама з паліц шматлікіх крамаў сельскай кааперацыі, у якіх, часам нават у далёкай вёсцы, магчыма было набыць, да прыкладу, шыкоўны імпартны плашч, абменены на так званыя «дары прыроды». Не грэбавалі і сувязямі, знаёмствамі ў гандлёвых колах, «блатам». Гэта не лічылася крыміналам. А вось фарцаванне, «спекуляцыя» разглядаліся як злачынства. Манаполію на перапродаж мела дзяржава.

Перад працэсам мяне запрасілі наведаць КГБ, каб азнаёміцца са справай. Я тады лічыў усё гэта нормай, бо і сам шчыра ўспрымаў валютчыкаў як безумоўную пагрозу, раз яны церліся з замежнікамі і псавалі «чалавечы твар сацыялізму», пра які, нягледзячы ні на што, мы, маладыя журналісты таго часу, працягвалі марыць.

На галоўным уваходзе ў вядомы будынак з калонамі, які знешне нагадвае музей, мяне сустрэў усмешкай хударлявы, сярэдняга ўзросту, з вялікімі залысінамі чалавек у цывільным. Ён моцна паціснуў руку, назваўся маёрам, следчым па справе, павёў па змрочным калідоры ў невялікі пакой, паклаў на стол некалькі тамоў справы і зачыніў звонку дзверы...

Дзень за днём, старонку за старонкай я гартаў тамы справы. У ёй з процьмы эпізодаў дробнага гандлю замежным шмаццём і не менш дробных прыватных валютных здзелак вымалёўвалася карціна маштабнага злачынства накшталт шпіянажу і здрады радзіме. Было відавочна, што КГБ зацікаўлены менавіта ў такім павароце справы, хоць сапраўдных доказаў не было. Сёння я не памятаю, ці выстаўляла следства абвінавачванне менавіта па адпаведных артыкулах, але «шпіянаж» і «здрада» цягнуліся праз усю справу ці то ў пратаколах допытаў, ці то ў папярэдніх высновах. Па прынцыпе з ужо абсмяянага на той час

прадказання Сяргея Міхалкова: «Сегодня он играет джаз, а завтра родину продаст».

### «Быць у форме»

Што за людзі трапілі тады ў турму? Чаму абралі такі крымінальны па тым часе шлях?

Ніхто з іх не жыў у беднасці, не жабраваў. Рызыкоўным спосабам яны хутчэй самасцвярджаліся. На пачатку працэсу адзін з падсудных, Леанід К., заявіў: «Я лічыў свае дзеянні талентам, дадзеным не кожнаму чалавеку».

Побач з Леанідам на лаве пасудных сядзела яго матуля. Менавіта яна распачала свой бізнэс з распродажу рэчаў, вывезеных з Германіі пасля заканчэння вайны. Якім чынам яна апынулася ў Германіі, ні следства, ні суд прылюдна не высвятлялі. Сцвярджалася толькі, што яна здрадзіла «ідэалам маладосці», з чаго можна было зрабіць выснову, што, хутчэй за ўсё, ваявала. А гандляваць «трафеямі» яе вымусіла пасляваеннае жабрацтва, становішча маці-адзіночкі, для якой сын быў адзіным апраўданнем жыцця. Аднойчы яна папрасіла яго, ужо падрослага, дапамагчы ў здзелцы. Дапамог. І атрымаў першыя ўласныя грошы... Не прайшоў бы ён гэтага пачатковага курса «навук», наўрад ці адбылася б яго першая самастойная здзелка ў Адэскім порце, калі ён, курсант мараходнага вучылішча, прыдбаў у замежных маракоў цыгарэты, жуйку і яшчэ нейкую драбязу. На продаж. Яго затрымалі...

Вучылішча Леанід усё ж скончыў, атрымаў спецыяльнасць матарыста і быў прызначаны ў каманду землясоснага снарада ў Поці — порт у Грузіі.

Невядома, як бы склаўся ягоны лёс, калі б маці не ўмяшалася зноўку. Літаральна сілай яна вымусіла Леаніда збегчы з карабля. «Цяжкая праца, — тлумачыла яна суду, — цяжкія ўмовы побыту, я вельмі хвалявалася за здароўе сына...»

І ў Мінску яна ўсяляк ахоўвала яго ад працы, пакуль ён сам перастаў адчуваць у працы патрэбу...

Фізічна Леанід быў здаровы, меў вольны час і таму заняўся культурызмам. «Быць у форме» ён лічыў не толькі неабходным для здароўя, але і нечым неад'емным ад аблічча «сучаснага чалавека». У спартовай зале і адбылася «гістарычная сустрэча» з Ігарам А., майстрам спорту па фехтаванні і вядомым у адпаведных колах фарцоўшчыкам. Гэтая сустрэча і паклала пачатак новаму прыбытковаму бізнэсу, за які, уласна кажучы, яны і апынуліся на лаве падсудных.

Да таго моманту Леанід К. ужо змяніў на сабе і «толкнул» знаёмым ды й знаёмым знаёмых не адну модную апранаху з замежнай біркай. Між тым маці з лёгкай пагардай ставілася да анучных спраў сына. Яе гняло, што ён цягае ў хату ношанае барахло, па-сённяшняму сэканд-хэнд. Яна лічыла яго здольным на больш значныя справы.

Прыкладна тое ж адчуваў Ігар А. Спекуляцыя замежнай вопраткай ужо не здавалася яму выгадным заняткам. Пагоня за замежнікамі «ўсляпую» пагражала сур'ёзнымі няўдачамі, якія ўжо не аднойчы ►




**Турэмнае фота аднаго з найбольш вядомых фарцоўшчыкаў Савецкага Саюза Яна Рокатава (1927–1961).** Сумесна з сябрамі Уладзіславам Файбішэнкам і Дзмітрыем Якаўлевым ён у другой палове 1950-х арганізаваў цэлую складаную сістэму пасярэднікаў для скупкі валюты і імпартных рэчаў у замежных турыстаў. Агульны абарот гэтай падпольнай фірмы склаў больш за 20 мільёнаў новых (то-бок дэнамінаваных у 1961 годзе) савецкіх рублёў. Арыштаваныя ў 1961 годзе, спачатку фарцоўшчыкі атрымалі праз суд 8 гадоў зняволення, але ў справу ўмяшаўся сам тагачасны лідар СССР Мікіта Хрушчоў, паводле прамога загаду якога справа была перагледжана, прытым двойчы. Спачатку тэрмін зняволення быў павялічаны да 15-ці гадоў, а пасля ўсім траім вынесены смяротны прысуд, які быў неадкладна выкананы. Гэтая справа стала адным з сімвалаў савецкага беззаконня і поўнай залежнасці судовай сістэмы ад волі палітычнага кіраўніцтва.

здараліся. Што праўда, спартовы свет адкрываў больш шырокія магчымасці для кантактаў з замежнікамі. Але што маглі прапанаваць спартоўцы? Тыя ж майкі, швэдры, максімум — джынсы.

Невядома, хто з іх першы прапанаваў заняцца купляй і перапродажам валюты. Ужо ад першай валютнай аперацыі яны адчулі смак сапраўднага бізнэсу: лёгкі халадок рызыкі, адносіны з «паважанымі» людзьмі... Ім здавалася, што такі занятак больш сур'ёзны, чым выкленчванне барахла ў замежнікаў. Ён сапраўды ўзнімаў іх ва ўласных вачах: «...прыбег Лёня, — распавядала на працэсе яго маці, — вельмі радасны, сказаў, што будзе вялікая валюта!» Гэта ўжо была якая-ніякая, хоць і злачынная, але дзейнасць. Якая патрабавала ад іх праяўлення адпаведных якасцяў: энергічнасці, нядрэннага ўмення разбірацца ў людзях, дзелавітасці, ведання элементарных законаў рынку і гутарковай замежнай мовы. Менавіта тады ў іхнім лексіконе з'явілася слова «талент». Гэтыя валютчыкі мелі патрэбу ў псіхалагічным самаапраўданні.

### Суддзя Стук

Усяго было асуджана 5 чалавек. Спартовец і маці Леаніда да васьмі гадоў зняволення, Леанід і яшчэ двое падзельнікаў — да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Я не ведаю, як склаліся іх далейшыя лёсы, якім чынам яны так ці інакш спалучыліся з далейшым лёсам дзяржавы. Сістэме заставалася пражыць амаль чвэрць стагоддзя. З пазіцыі сённяшняга дня суд над людзьмі за перапродаж адзення выглядае абсурдным, але тады гэта было ў парадку рэчаў.

Лініі «шпіянажу» і «здрады радзіме» да суда не дайшлі, хоць следчыя ў гэты бок і капалі, разбіраючы адносіны падсудных з замежнікамі і размовы пра тое, як прасцей збегчы за мяжу.

Суддзя Вярхоўнага суда Канстанцін Іванавіч Стук вёў працэс падкрэслена аб'ектыўна: падрабязна высвятляў абставіны жыцця і выхавання кожнага падсуднага, даваў магчымасць выказвацца па кожным эпізодзе, тлумачыць матывы тых ці іншых паводзінаў. Відавочным было ягонае жаданне дакапацца да прычын, якія вымусілі падсудных займацца незаконнымі справамі.

### Заўтра цябе чакаюць

Праз два дні пасля суда я паклаў нарыс галоўнаму рэдактару «Знамёнкі» Віталю

## Фарца

Усплёск спекуляцыі ў Беларусі адбыўся ў 1939 годзе. З паездак у «вызваленыя» раёны людзі везлі адзенне, абутак, прадукты. Праўда, мяжы між Усходняй і Заходняй ніхто не здымаў, у Заходнюю ездзілі толькі правераныя людзі, у камандзіроўкі.

Пасля вайны на чорны рынак хлынуў трафейны тавар.

Слова ж «фарца», «фарцоўка» нарадзілася ў 50-я гады XX стагоддзя, часы так званай адлігі, калі троху была прыўзнята жалезная заслона, асабліва падчас VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, які ўпершыню адбыўся ў СССР, у Маскве летам 1957 года. Савецкая моладзь убачыла джынсы, кеды ды іншыя вырабы «загнивающего капитализма».

Паходжанне слова «фарца» да канца няяснае. Некаторыя яго выводзяць з адэскага крымінальнага слэнгу.

Джынсы, цыгарэты, дыскі з замежнай музыкай, эратычныя часопісы, відэакасеты, відэамагнітафоны, жаночая бялізна, калготкі былі прадметам нелегальнага гандлю.

Фарцавалі людзі, якія мелі сувязі з заграніцай, замежнікамі або савецкімі грамадзянамі, якія па працы выязджалі за мяжу. Таварныя ланцужкі цягнуліся ў парты і Маскву.

У Беларусі фарцоўшчыкаў было шмат сярод спартоўцаў. Фарцавалі таксама беларусы-маракі гандлёвага і рыбалавецкага флатоў, замежныя будаўнікі і работнікі прадпрыемстваў у Наваполацку, Светлагорску, Жлобіне, шафёры «Совтрансавто».

Месцамі, дзе звычайна здзяйсняўся «тавараабмен», былі гатэлі «Інтурыст», магазіны сістэмы «Бярозка», якія гандлявалі за валюту і чэкі, вакзалы, цягнікі, парты Адэсы, Клайпеды, Калінінграда.

Нягледзячы на суровыя пакаранні, спекуляцыю выкараніць не ўдавалася. Дэфіцыт у СССР меў татальны характар і рынак не цярпеў пустаты, хоць у асобныя перыяды савецкай гісторыі за спекуляцыю і валютныя аперацыі пагражаў нават расстрэл.




**Савецкі плакат з крытыкай спекулянтаў.**

«ПОСЛУЖНОЙ» СПИСОК ПОДОНКА



1. Летун и обманщик — с этого началась его «трудовая» деятельность.
2. В 1961 году был впервые задержан за преступную сделку с иностранцами. Никаких выводов из этого не сделал.
Число всех задержаний в течение двух лет не поддается учету.
3. 3 мая 1963 года при очередном задержании этот торговец честью и совестью пытался выдать себя за иностранца.
4. Жалкий лгун, заверявший дружинников в том, что немедленно бросит свое грязное ремесло, а через несколько дней после 3 мая был снова задержан. И снова — за преступную сделку.
5. За спекуляцию и мелкое жульничество во время поездки в Москву осужден народным судом Свердловского района столицы к одному году лишения свободы условно с испытательным сроком два года.

**Публікацыя ў савецкай газеце.**

Чаніну на стол. Увечары ён паклікаў мяне, ухваліў напісанае і, ледзь стрымліваючы раздражненне, сказаў:

— КГБ забадаў... Заўтра цябе чакаюць...

Я не ведаў, што нарыс трэба візіраваць у КГБ.

І зноў на ўваходзе ў «дом з калонамі» мяне сустракаў маёр, на гэты раз чамусьці ў мундзіры. Вочы маленькія, калючы, з адценнем неразумення погляд: «Праходзьце...»

Далей змрочны пакой пад нізкімі цяжкімі скляпеннямі, дубовы стол, чорная металічная лямпа, за святлом якой хаваецца твар асобы... Так, твару я не бачу, толькі рукі з-пад закаўрашаў мундзіра, у таўстых пальцах — раздрукоўка майго нарыса, ушпіленая заўвагамі, скрозь падкрэсленая-перакрэсленая чырвоным алоўкам...

— Трэба перарабіць, — прамовіў нябачны твар тонам, які не церпіць пярэчанняў, — няма чаго ў іх калупацца...

Во як! У спробе зразумець, чаму падсудныя абралі злачынны лад жыцця, «асоба без твару» ўгледзела небяспечны падтэкст.





**Мінская гасцініца «Юбілейная».** Тут было адно з асноўных месцаў беларускай сталіцы, дзе працавалі фарцоўшчыкі, паколькі менавіта тут звычайна спыняліся іншаземцы.

— Я журналіст, а не пракурор... Нічога перарабляць не буду.

Адліга канца 50-х — пачатку 60-х рабіла сваю справу. Страху ў мяне не было.

Праз тры ці чатыры дні ізноў паклікаў Чанін: «Званілі з КГБ. Цябе чакаюць...»

На знаёмым ганку ля знаёмых ужо да апошняй плямкі высачэзных дзвярэй чакаў знаёмы маёр. Яшчэ здалёк, пакуль я ўзнімаўся па прыступках, ён цягнуў руку:

— Віншую! — пачаў трэсці маю. — Цудоўны нарыс! Можаце друкаваць, — і працягнуў папку. — Вось, глядзіце, аніводнай заўвагі!

Нарыс з’явіўся ў газеце праз дзесяць дзён ад заканчэння працэсу, з працягам на два нумары.

## Дзве загадкі

Сёння я разумею, што іх незаконная па тых часах дзейнасць у пэўным сэнсе была бунтам супраць усталяваных дзяржавай занадта зарэгуляваных правілаў быцця. І ў гэтым сэнсе фігурантаў працэсу можна лічыць і ахвярамі тагачаснай сістэмы, і папярэднікамі будучых рынкавых адносін, якія, дарэчы, спачатку будаваліся на маральна сумнеўных паводзінах, напрацаваных падчас фарцавання і першапачатковага накаплення капіталу.

Існаваў у тыя часы і свядомы, асэнсаваны пратэст, вядомы ў гісторыі як антысавецкае дысідэнцтва. Што праўда, гэта ўжо іншая тэма.

Дзве загадкі засталіся ў мяне ад той гісторыі: куды падзеліся заўвагі чырвоным колерам і хто з больш высокага рангу спецслужбістаў дазволіў друкаваць нарыс. Мушу думаць, што і ў КГБ ішла барацьба паміж сталіністамі і людзьмі больш гнуткімі. ◆



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

# Хлопчык з галоднай Пярэспы, які дапамагаў круціць жорны рэпрэсій

## «Я вінаваты. Але я адпакутаваў»

**Унук Андрэя Александровіча, уплывовага літфункцыянера трыццатых гадоў, перадаў мне электронную версію запісной кніжкі дзеда з вершамі. Гэтыя вершы напісаныя ў ГУЛАГу, куды Александровіч трапіў у 1938-м. А перад тым ён, як лічылі сучаснікі, сам адправіў туды шмат каго. Піша Ганна Севярынец.**

Была пры Сталіне такая практыка: перш чым адправіць чалавека на расстрэл, яго пясочылі ў прэсе і на сходах. Сярод беларускіх пісьменнікаў тады рэпрэсавалі 90 працэнтаў. Сярод пазасталых 10 працэнтаў злавесную ролю адыгралі Лукаш Бэндэ і Айзік Кучар. А таксама Андрэй Александровіч. Першыя два перажылі сталінскі перыяд у дабры і сытасці. А вось апошні сам трапіў у тыя жорны, якія дапамагаў круціць.

## Злачынствы без пакаяння

Ці ведае гісторыя літаратуры факты публічнага пакаяння літгенералаў, што спрыялі рэпрэсіям супраць сваіх калег? Я такога не прыгадаю. Не сустракала я мастацкіх тэкстаў ці мемуараў, у якіх чалавек пераасэнсоўвае гэты досвед: калі ты вымушаны падпісваць расстрэльныя паперы на сяброў.

Усё, што мы ведаем пра пакуты сумлення высокіх чыноўнікаў ад літаратуры, вядома на ўзроўні чутак.

Напрыклад, што літаратуразнаўца Іраклій Андронікаў, вінаваты ў арышце Данііла Хармса і Мікалая Забалоцкага, потым адчайна падтрымліваў жонку Хармса: насіў ёй прадукты, перадаваў грошы, дапамог перахаваць, а потым і выдаць тэксты з архіва Хармса.




**Кніга для дзяцей**, выдадзеная Александровічам у 1935 годзе.

Па ўспамінах савецкага класіка Леаніда Лявонава, Аляксандр Фадзееў (а ім былі падпісаны сотні арыштных папер на савецкіх пісьменнікаў) аднойчы сказаў: «Цяжка, Лёня, жыць са скрываўленымі рукамі».

Карней Чукоўскі тлумачыў самазабойства Фадзеева пакутамі сумлення, што, аднак, ніякім чынам не адлюстравана ў пасмяротным лісце шматгадовага генсака Саюза пісьменнікаў СССР.

Беларуская літаратура трыццатых таксама ведае спробу «высокапастаўленага суіцыду»: у 1937 годзе перарэзаў сабе горла Міхась Клімковіч, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР. Праўда, невядома, колькі ў гэтым учынку было сумлення (і ці было) — а колькі жаху перад рэпрэсіямі.

Шкада, што літаратары, якія дажылі да вольных часоў, не рэфлексавалі публічна над уласнымі даносамі і здрадамі.

Пладавіты мемуарыст Максім Лужанін (памёр у 2000 годзе) ані слоўцам не ўзгадаў сваю непрыглядную ролю сексота пры Якубе Коласе, не паспрабаваў апраўдацца ані перад сабой, ані перад чытачом.

Удумлівы крытык Антон Адамовіч так і не апрылюдніў сваіх думак пра супрацу з НКВД. Па-людску гэта цалкам зразумела, але з пункту гледжання спасціжэння феномену масавых рэпрэсій — надзвычай шкада. Той даносчык, хто паспрабаваў бы зразумець самога сябе, зрабіў бы для выкрыцця агульнага злачынства больш, чым ахвяра.

## Брат старэйшай сястры

Няшмат хто з беларускіх літаратараў нарадзіўся ў хрэстаматыйнай нішчымніцы, але Андрэй Александровіч выбіваўся ў людзі менавіта з яе. Ягоны бацька, фабрычны рабочы, памёр рана, і двух дзяцей, Алесю і Андрэя, гадаваў айчым, шавец з Пярэспы — гэта раён цяперашняга скрыжавання праспекта Машэрава і Старавіленскага тракта.

Алеся, надзвычай прыгожая і разумная дзяўчына, спявала ў легендарным хоры Уладзіміра Тэраўскага, была «сваёй» у «Беларускай хатцы». У яе быў моцна закаханы Міхась Чарот, а спевы ейныя да слёз любіў Янка Купала. Такім чынам, мастацкі свет адкрыўся Андрэю Александровічу лёгка і па-свойску, праз старэйшую сястру.

Лёс Алесі Александровіч складзецца драматычна. У 1926 годзе яна выйдзе замуж за тагачаснага Пастпрэда БССР пры ўрадзе РСФСР Міхася Мароза, народзіць двух сыноў. У 1937-м Мароз будзе арыштаваны, атрымае 10 год лагераў і з Сібіры ўжо не вернецца. Алеся ▶




**У багему Александровіч трапіў праз сястру Алесю** — надзвычай прыгожую і разумную дзяўчыну, якая спявала ў легендарным беларускім хоры Тэраўскага і выйшла замуж за прадстаўніка ўраду БССР пры ўрадзе РСФСР.

▶ будзе працаваць настаўніцай, бібліятэкаркай, потым — у музеі Купалы, складзе не адну чытанку-хрэстаматыю па беларускай літаратуры. Памрэ ад анкалогіі зусім маладой, у 1947 годзе, так і не дачакаўшыся мужа.

Тут, у «Беларускай хатцы», у аматарскім тэатры Уладзіслава Галубка, Александровіч пазнаёміўся з 16-гадовым Алесем Дайлідовічам, што граў у спектаклях і пакрысе папісваў вершы. Паспрабаваў гэта рабіць і Андрэй — атрымалася. Праз некалькі гадоў аднакласнікі па Белпедтэхнікуме будуць успамінаць, што сярод маладых паэтаў хуткасцю вершавання і бадзёрасцю рыфмаў вылучаліся двое: Дайлідовіч-Дудар і Александровіч. Паміж імі заўсёды трымцела жартаўлівае, але заўважнае суперніцтва.

Было, праўда, і такое: трапіў Андрэй пад уплыў рускіх шавіністаў і заявіў на ўроку, што беларуская мова — рэч нікому не патрэбная. За гэта настаўнік, якога звалі Язэп Лёсік, выгнаў Александровіча з класа і хацеў дабіцца ягонага выключэння. Але з гаваркім маладзёнам правялі выхаваўчую работу і ва ўстанове пакінулі.

З 1923 года Александровіч — у камсамоле. Актыўнічае, заводзіць знаёмствы. Разам з Дударом і Анатолем Вольным яны выконваюць тэрміновую замову камсамольскага ЦК — даць краіне савецкі прыгодніцкі падлеткавы раман. Калектыўны твор пад назвай «Ваўчаняты» б'е ўсе рэкорды продажу: да таго, як ягоных аўтараў пачнуць цягаць па допытах, раман будзе перавыдадзены пяць разоў.

Увогуле, некаторы час гэтая тройца сябруе не на жарты: «У тагачаснай "Савецкай Беларусі" склалася група супрацоўнікаў газеты, якая задавала тон усёй працы, асабліва ў справе асвятлення пытанняў культуры і літаратуры. Гэта былі Александровіч, Вольны і я», — напіша пазней Дудар. Але пакрысе сябры пачынаюць адзначаць: Андрэю цікава не тое, што можа ён даць камсамолу, а тое, што камсамол можа даць яму. Для рамантыкаў дваццатых такая пазіцыя была не надта прымальнай, і пра кар'ерызм Александровіча пачынаюць пагаворваць паміж сабой. «Яго ідэалам з'яўляецца забяспечанае "капейкаю на чорны дзень" спакойнае сямейнае жыццё, і дзеля гэтага ён робіць усё магчымае, каб забяспечыць сабе добрую службовую кар'еру. Ён ніколі не браўся за працу, якая невысока аплачваецца. Да таго ж, каб забяспечыць сабе кар'еру, ён імкнуўся заўсёды быць на віду», — жорстка сфармулюе ў трыццатыя былы сябра Алесь Дудар.

Цяжка вінаваціць у імкненні да лепшага жыцця хлопчыка з галоднай Пярэспы.

### Чыноўнік з Савецкай

Андрэй Александровіч, выбіўшыся ў людзі, жыў на самай прэстыжнай менскай вуліцы — Савецкай, якая з часам стане праспектам: Сталінскім, Ленінскім, Скарыны і, нарэшце, Незалежнасці. Гэта ў яго на кватэры па вечарах збіраўся тагачасны палітычны бамонд: наркам земляробства Зміцер Прышчэпаў, намеснік наркама Алесь Адамовіч, намеснік старшыні Белдзяржвыдавецтва Пятро Ільючонак і, вядома ж, прыяцелі-пісьменнікі. Адсюль, з гэтых вечарын, Александровіч вынесе потым скандальную паэму «Цені на сонцы», дзе апрылюдніць чуткі і плёткі пра цьмянае буржуазнае мінулае, контррэвалюцыйныя настроі і небяспечныя сваяцтвы калег па літаратурным і палітычным полі. Рэпрэсіі пачатку трыццатых, пасля якіх з Беларусі будуць высланыя болей за сто культурнікаў, аўтара палымянай паэмы абмінуць.

З 1934 года Андрэй Александровіч — намеснік старшыні праўлення беларускага Саюза пісьменнікаў. Партыйная дысцыпліна сярод падначаленых — ягоны клопат. Яшчэ галава баліць за беларускую мову: занадта шмат дыялектызмаў

**«Саюз вызвалення Беларусі»** — няісная арганізацыя, фэйк, створаны ў нетрах НКВД дзеля разгортвання рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі. На ролю «кіраўнікоў» СВБ планаваліся Усевалад Ігнатоўскі (скончыў жыццё самагубствам пасля першых допытаў) і Янка Купала (на пачатку следства здзейсніў спробу суіцыду).

і наватвораў нацягнулі ў яе праклятыя нацдэмы, імкнучыся адарваць Беларусь ад старэйшай сястры, Расіі. За ўдзел у складанні зрусіфікаванага руска-беларускага слоўніка і актыўную працу па рэфармаванні беларускай арфаграфіі ён прызначаны дырэктарам Інстытута мовы Акадэміі навук.

Чыноўнік з Александровіча энергічны і круты. І ніводзін разгромны даклад не абыходзіцца без таго, каб ён не спляжыў былых сябрукоў Вольнага з Дударом.

### Вязень ГУЛАГа

Але ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя» за 1937 год у раздзеле «Хроніка» рэдакцыя паведамляе: «Агульнае абурэнне выклікала паведамленне аб дзейнасці намесніка старшыні праўлення ССПБ Александровіча. таварышам за малейшую спробу крытыкі яго творчасці і работы ў праўленні ССПБ».

Цяпер пад тыя самыя колы трапіў і ён сам: Андрэя Александровіча шальмавалі ў прэсе, выцягнуўшы на свет тую самую паэму «Цені на сонцы», напісаную, як цяпер казалі, па замове ворагаў. Яго выключылі адусюль, пазбавілі ўсіх магчымых пасад, ён перабіваўся перакладамі і артыкуламі ў другарадных газетах, а праз год, у ліпені 1938-га, быў арыштаваны і пасля нядоўгага разбіральніцтва асуджаны на 15 гадоў лагера. У 1938–1947 гадах ён працуе на будоўлі Нарыльскага металургічнага камбіната, адкуль, як «выпраўляецца» — яму нават скарачаюць тэрмін зняволення да 8 гадоў. У 1947 годзе Александровіч вяртаецца ў Менск. З ім вяртаецца і сям'я: жонка паехала за ім на выгнанне разам з сынам Радаславам.

Барыс Сачанка згадваў: «Калі ён вярнуўся па адбыцці кары ў 1947 годзе і паставіў пытанне аб аднаўленні ў правах члена ▶




**Паэты-маладнякоўцы Язэп Пушча, Алесь Дудар і Андрэй Александровіч.** 1925 год.

## Янка Маўр: «Мы ж толькі і жыць пачалі, калі цябе забралі. А цяпер ты зноў з'явіўся»

У сваіх выступленнях пісьменнікі Куляшоў, Кучар, Галавач, Крапіва, Лынькоў, Чорны, Глебка і іншыя расказалі сходу аб тым, якімі бруднымі шляхамі ў сваім мінулым ішоў да гэтых двурушніцкіх спраў Александровіч. Пісьменнікі расказалі аб склочніцтве і кар'ерызме Александровіча, які акружыў сябе "сваімі" людзьмі, многія з якіх выкрыты як ворагі народу. Ён адпомшчваў

**З таго самага даклада, які калегі не маглі дараваць Александровічу:**

«Ахвосце разгромленага, але недабітага нацдэмакратызму, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці некаторых выдавецкіх работнікаў, змагло пралезці ў наш друк з рэваншысцкімі контррэвалюцыйнымі вылазкамі. Вазьміце М.Лужаніна, які вытрымлівае контррэвалюцыйны стыль "самабытнасці", ужываючы такія словы, пасля якіх абавязкова трэба даваць самае шырокае тлумачэнне, але ад якіх, па Лужаніну, вее "першабытнай прастатой і свежасцю". Мова ў аповесцях Калюгі — гэта выразная, кулацкая, хутаранская мова, і яна арганічна выцякала з кулацкай нацыяналістычнай сутнасці яго творчасці. Мова ў вершах Таўбіна — вычурная, штучна-кніжная, жарганізіраваная — таксама арганічна выцякала з буржуазнае сутнасці твораў Таўбіна, гэтага паўпрэда ў літаратуры буржуазнай кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі».

Саюза пісьменнікаў, Янка Маўр сказаў: “Мы ж толькі і жыць пачалі, калі цябе забралі. А цяпер ты зноў з’явіўся, зноў захочаш барацьбу з усімі весці”». Андрэй Александровіч такія словы Маўра ўспрыняў як чорную несправядлівасць.

У 1949-м Александровіча арыштоўваюць зноў: тады ішла хваля масавых арыштаў былых вязняў, якіх былі вызвалілі пасля вайны. Цяпер ён асуджаны да вечнага пасялення ў Краснаярскім краі.

### Дзед

Алег, унук Андрэя Александровіча, там, у Канску, і нарадзіўся. Але дзядулю ён памятае ўжо ў Менску, у 1955-м сям’і дазволілі вярнуцца ў Беларусь. У свае 50 гадоў ён выглядаў як дзед дзедам: быў стомленым, спакутаваным туберкулёзнікам. Унукам асабліва не дазвалялася гасцяваць у дзеда-сухотніка, толькі летам, калі кашаль дзеда троху адпускаў, ён прыязджаў да ўнукаў на дачу ў Тарасава. Тут разам з дзедам унукі лавілі рыбу і ракаў, слухалі расповеды пра Пярэспу, Старажоўку, плотак і акунёў у Свіслачы. Памятае ўнук таксама кіслародныя падушкі і роспач бабулі.

### «Ніяк не могуць дараваць мне нечага»

Сын Андрэя Іванавіча, Радаслаў, сабраў усю бацькаву друкаваную і недрукаваную спадчыну і склаў самаробны зборнік успамінаў пра бацьку — светлых, сяброўскіх.

Сярод гэтых успамінаў ёсць і запісы паэта-камуніста з Заходняй Беларусі Міхася Машары. Ён згадвае сваю апошнюю гутарку з моцна хворым Александровічам.

«А мне не хочуць верыць мае старыя таварышы, — гаварыў ён, — што мае радкі выходзяць у мяне ад шчырага сэрца. Ніяк не могуць дараваць мне нечага. Партыяй прызнаны невінаватым, а яны ўсё бочуцца і цураюцца мяне.

— Відаць, ты іх сапраўды моцна нечым пакрыўдзіў у дні твайго ўзлёту, калі ты быў старшынёй пісьменніцкага саюза.

— Не ведаю, чым я мог іх пакрыўдзіць тады. Я дбаў аб нашай літаратуры, як шчыры камуніст.

— Бачыш, Андрэй, павінен табе прызнацца. Я па радыё, зусім выпадкова, праслухаў увесь твой даклад аб беларускай паэзіі на III-м Пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР, які адбываўся ў Мінску.

— Думаеш, што гэты даклад яны не могуць мне дараваць?

— Па-мойму, ты быў у гэтым дакладзе не зусім аб’ектыўны. Шчодра вешаў ярлыкі нацдэмаўшчыны на такіх пісьменнікаў, якія ў часе жорсткага выпрабавання, у часе Вялікай Айчыннай вайны, паказалі сябе вялікімі патрыётамі сваёй Савецкай Радзімы і шчырымі камуністамі. Я гэта рашуча сцвярджаю, бо ўсё адбывалася на маіх вачах.

— Значыць, ты слухаў гэты мой злашчасны даклад. Калі жадаеш, можаш яшчэ раз прачытаць яго. Мне вярнулі стэнаграму гэтага даклада.

— Не трэба. Я яго добра памятаю.

— Праўда, зараз я вельмі шкадую, што зрабіў такі даклад. Быў малады, лічыў сябе правільным рэвалюцыянерам-камуністам. Адказваў за пісьменніцкі саюз і баяўся, каб наша маладая беларуская савецкая літаратура не скацілася ў нацдэмаўскае балота.

— Ну, бачыш, што гэтага не сталася, хоць наша літаратура



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Андрэй Александровіч**

(1906–1963) — беларускі паэт, дзіцячы пісьменнік, крытык. Нарадзіўся ў Менску. У 1925 годзе скончыў Менскі педагагічны тэхнікум, у 1930-м — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Адзін з арганізатараў літаратурнага аб’яднання «Маладняк».

Пасля пачатку сталінскіх рэпрэсій актыўна ўдзельнічаў у антынацдэмаўскай кампаніі. Выкрываў у тым ліку Янку Купалу, Якуба Коласа. У 1930-я гады займаў высокія пасады: намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў БССР, дырэктара Інстытута мовы Беларускай акадэміі навук. Быў адзіным беларускім літаратарам, які трапіў у Палітычную камісію для перагляду расейска-беларускага слоўніка і новых правілаў правапісу беларускай мовы ў 1933 годзе, кіраваў распрацоўкай руска-беларускага нарматыўнага слоўніка. Таксама ўваходзіў у Рэдакцыйны камітэт Канстытуцыі СССР 1936 года. Быў сааўтарам «Ліста Вялікаму Сталіну ад беларускага народа». Член-карэспандэнт Беларускай акадэміі навук, член ЦВК БССР.

У 1938 годзе рэпрэсаваны, 15 гадоў правёў у лагерах і ссылках.

Аўтар каля двух дзясяткаў паэтычных і празаічных зборнікаў, кніг для дзяцей, некалькіх паэм. У асноўным пісаў і друкаваўся ў даваенны час.

Памёр у падмаскоўным санаторыі, пахаваны на Усходніх могілках.

развівалася далей без цябе, без твайго дбайнага кіраўніцтва.

— Твая праўда, я там, мабыць, занадта перасаліў. Але чаму ж мяне не паправілі ў ЦК? Там жа правяралі ўвесь мой гэты даклад?

— На ЦК ты не звальвай. Там цябе лічылі спецыялістам ад літаратуры і верылі табе як члену ЦК.

— Твая праўда. Гэта мая залішняя пільнасць і рэвалюцыйны запал прынеслі шмат каму бяды, а найбольш мне асабіста. Я ўжо даўно каюся ў гэтым.

— Усё гэта мінула, перажылося. І табе толькі здаецца, што твае былыя сябры адносяцца да цябе насцярожана, нядобразычліва. Ты ж бываеш на пісьменніцкіх сходах. Сустракаешся са старымі таварышамі, і ўсе яны адносяцца і прымаюць цябе як старога таварыша. З павагай і спагадліва адносяцца да тваіх пакутаў, да перажытых цярпенняў.

— Што датычыцца майго праклятага даклада, тут я лічу сябе вінаватым. Але я адпакутаваў у некалькі столак. Вось ты гаворыш аб сваім нялёгкім жыццёвым шляху, аб польскай дэфензіве, аб карных лагерах і астрогах. Разумею, што гэта было цяжка. Але недзе там, у глыбіні душы, заўсёды жыло такое пачуццё, што ты цярпіш і пакутуеш за сваю ідэю, за свой працоўны народ, і гэта давала табе сілы і веру ў перамогу. А вось я не меў гэтага. Цяжка было пераносіць пакуты без віны ад сваіх. Аднак гэта не парушыла маіх перакананняў. Я заставаўся на ўсім працягу маіх чорных дзён шчырым камуністам, хоць ніхто мне не верыў, не прызнаваў маёй нявіннасці. Я павінен быў нават глыбока хаваць, што радуюся перамогам маёй краіны і яе поспехам. У гэтым была мая найвялікшая пакута».

Невядома, ці была гутарка дакладна такою. Магчыма, яна была зусім не такой тактоўнай — заходнебеларускія камуністы ў пачатку 60-х ужо не так асцярожнічалі. ◆

Аўтарка і рэдакцыя дзякуюць супрацоўніку Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва **Віктару Жыбулю** за дапамогу пры падборы ілюстрацый да артыкула.

## Вершы Андрэя Александровіча з гулагаўскага сшытка

* * *

Нікому не зайздрошчу я на свеце,
Нікога і ні ў чым я не віню.
Іду насустрач сонечнаму дню
І веру: сонца мне яшчэ засвеціць.

* * *

Няволя мяне надламала,
Зваліўшыся крыжам на грудзі.
Мінулага шчасця не стала,
І будучага — не будзе.

* * *

Не разбойнік я, не Каін
І не валацуга,
А гібею ў дзікім краі
За Палярным кругам.
Лёг на грудзі мне пакутай
Тундры край пустынны.
Ты даруй мне цяжкі смутак,
Родная краіна...

1940

*Ты даруй мне...*

*Не разбойнік я, не Каін*
*І не валацуга,*
*А гібею ў дзікім краі*
*За палярным кругам.*

*Лёг на грудзі мне пакутай*
*Тундра край пустынны.*
*Ты, даруй мне цяжкі смутак,*
*Родная краіна...*




**Хмяльніцкая Людміла. Лёс інсургента: дакументальная аповесць аб Аляксандру Рыпінскім і ягоным часе. —** Мінск: Лімарыус, 2019. — 288 с.

Дакументальная аповесць Людмілы Хмяльніцкай «Лёс інсургента», напісаная на падставе шматгадовых архіўных росшукаў, выйшла ў выдавецкай серыі «Наша XIX стагоддзе».

Яе герой Аляксандр Рыпінскі (1811–1886) — постаць вельмі важная для асэнсавання нашай гісторыі. Ён нарадзіўся на Віцебшчыне, вучыўся ў Дынабургскай школе падхаружых. Браў актыўны ўдзел у паўстанні 1830–1831 гадоў, пасля яго эміграваў у Еўропу, дзе заняўся пісьменніцкай і выдавецкай дзейнасцю. Аўтар шэрагу паэтычных твораў, у тым ліку напісанай у 1853 годзе беларускамоўнай рамантычнай балады «Нячысцік». Але галоўнай ягонай кнігай стала выдадзеная ў 1840-м кніга «Беларусь. Колькі слоў пра паэзію простага люду гэтае нашае польскае правінцыі, пра ягоную музыку, спевы, танцы, etc.», адмыслова прысвечаная радзіме аўтара, звычаям яе народа, народнай культуры. Па-беларуску ў перакладзе Міколы Хаўстовіча яна друкавалася ў часопісе «Arche» (5/2009).

Рыпінскаму пашанцавала. Улады імперыі ў 1859 годзе дазволілі яму вярнуцца, і ён стаў адным з першых фатографаў Віцебшчыны.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў прыватных распаўсюднікаў і інтэрнэт-кнігарнях.

# Даспехі вялікіх князёў і дыктафон Алексіевіч: 10 мясцінаў Швецыі, якія варта наведаць беларусам

**Швецыя можа падавацца далёкай, але насамрэч нас з ёю шмат што знітоўвае. Скандынаўская дынастыя (Рагвалод і Рагнеда) кіравала Полацкам, з місіяй распаўсюду хрысціянства сюды прыходзіў Торвальд, у Рэчы Паспалітай са Швецыяй былі як супольныя каралі, так і працяглыя войны. Была і спроба стварэння саюзнай дзяржавы, ініцыятарам якой быў гетман Януш Радзівіл. Досвед шведскіх вучоных і музейшчыкаў пераймаў заснавальнік беларускай археалогіі Яўстах Тышкевіч, які пакінуў аповед пра сваё падарожжа — «Лісты пра Швецыю»... Гэты артыкул падкажа, куды варта скіравацца найперш, абяцае Аляксей Ластоўскі.**

Гістарычныя цікавосткі сканцэнтраваныя ў Стакгольме і ваколіцах. Дабрацца прасцей за ўсё прамым рэйсам «Белавія», а пры жаданні зэканоміць можна скарыстаць віленскі або варшаўскі аэрапорты, адкуль лётаюць лаўкосты. Таксама папулярны маршрут — паромам з Рыгі.

**Многія музеі там працуюць бясплатна**



**Гэта скала — найвышэйшы пункт Біркі, месца старадаўняга гарадзішча.** У 1824 годзе на ёй усталявалі Крыж святога Ансгара — у гонар манаха-бенедыктынца, аднаго з першых хрысціянізатараў Біркі.

SHUTTERSTOCK.COM, BY HELENA KRENKOVA

Усе чулі пра высокія шведскія цэны, і ў цэлым гэты праўда. Але многія дзяржаўныя музеі там працуюць бясплатна, у тым ліку Музей шведскай гісторыі, Нацыянальны музей, Музей арміі, Музей мадэрну.

Таму пачнём!

### 1. Бірка (*Birka*)

Гісторыкі пагаджаюцца: стварэнне Русі — шведская заслуга. Скандынаўская зброя і ўпрыгожанні, рунічныя надпісы і амулеты, якія археолагі знаходзяць на тэрыторыі Беларусі, маюць аналагі найперш у шведскіх землях. Пакуль нарвежцы і даны (продкі сённяшніх датчан) арыентаваліся на экспансію на захад, шведы засноўвалі на Дняпры паселішчы на шляху з варагу грэкі.

Нефармальнай сталіцай шведскай гандлёвай імперыі быў горад Бірка, што знаходзіцца на востраве каля Стакгольма. У сярэдзіне VIII стагоддзя тут паўстала вялікае паселішча, куды збіраліся купцы з многіх куткоў. Тут знаходзяць многа славянскіх прадметаў, асабліва керамікі. Археалагічныя сенсацыі ліпеня 2019 года: спярша багатую вайсковую магілу ідэнтыфікавалі як жаночую, а потым да таго ж пачалі прыпісваць таямнічай «ваярцы з сякерай» славянскае паходжанне.




Пра тое, як вікінгі стварылі Русь і колькі шведскага ў нашых каранях, чытайце ў тэматычным выпуску «Нашай гісторыі» №8/2019.

Цяпер у Бірцы не так шмат чаго можна ўбачыць, але ўлетку гэтая мясціна ажывае, бо тут праводзяцца гістарычныя фестывалі. Вяртаюцца жыхары ў вёску вікінгаў, дзе адроджаныя адпаведны лад жыцця і рамёствы. Адзінае, што замежнікаў больш не рабуюць і ў кайданы не закоўваюць.

### 2. Упсала (*Uppsala*)

Яшчэ адной сталіцай вікінгаў была Упсала, дзе знаходзіўся цэнтр паганскага культу з «залатым храмам». Ля свяцілішча месціўся і каралеўскі палац. Нават калі цэнтры ўлады ў чарговы раз змясціліся, Старая Упсала захоўвала ранейшае значэнне: тут адбываліся каранацыі і ладзіліся вечавыя зборы ўсіх свеваў (*тынгі*). Тут жа адбылося і хрышчэнне Швецыі.

Ад старых курганоў з каралеўскімі пахаваннямі (на іх забаранілі залазіць, але адчайныя галовы гэта не спыняе) да цэнтра сучаснага горада з сярэднявечным кафедральным саборам вядзе шлях святога Эрыка, названы ў гонар шведскага караля, забітага тут датчанамі па дарозе ў царкву ў 1160 годзе. На месцы забойства цудам пачала біць крыніца, з якой і да гэтага часу можна напіцца.

У кафедральным саборы XIII стагоддзя пахаваны згаданы Эрык, які стаў святым-апекуном Швецыі, а таксама святая Брыгіта, заснавальніца ордэна брыгітак з філіяламі ў Берасці і Горадні. Тут жа пахаваны і Густаў Ваза, нацыянальны герой Швецыі, які вызваліў краіну ад датчан і заснаваў дынастыю Вазаў.

Але найбольшую ўвагу варта звярнуць на магілу Кацярыны Ягелонкі, сястры Жыгімонта Аўгуста, дачкі Жыгімонта Старога і Боны Сфорцы. Яна выйшла замуж за фінскага герцага Юхана, які потым стаў шведскім каралём (ён пахаваны тут жа). Кацярына Ягелонка прынесла ў Швецыю рэнесансную культуру: дзякуючы ёй тут даведаліся, што такое відэлец.

Упсала захоўвае статус рэлігійнай сталіцы, але цяпер гэта ў першую чаргу ўніверсітэцкі горад. Зборы ўніверсітэта ўтрымліваюць шмат артэфактаў з нашых земляў. Бібліятэчныя калекцыі апісаў беларускі гісторык Андрэй Катлярчук. На жаль, шырокая публіка не мае цяпер магчымасці ўбачыць знакамітую карту Вялікага Княства Літоўскага, створаную Томашам Макоўскім на замову Мікалая Радзівіла Сіроткі ў 1595 годзе. Затое ўсе ахвотныя могуць убачыць арыгінал іншай легендарнай карты — *Carta Marina*, створанай шведскім дыпламатам Олафам Магнусам і надрукаванай у 1539 годзе ў Венецыі. Вынікі пошуку Беларусі на гэтай карце, аднак, бянтэжаць — як *Russia Alba* пазначана тэрыторыя Наўгародскай дзяржавы.



**Тысячу гадоў таму Упсала была сакральным цэнтрам, а цяпер — утульны ўніверсітэцкі горад.** Над ім высіцца гатычны кафедральны сабор, дзе пахавана сястра нашага Жыгімонта Аўгуста.

SHUTTERSTOCK.COM, BY NADEZHDA KHARITONOVA

### 3. Грыпсгольм (*Gripsholm*)

Падчас візіту ў Швецыю Яўстах Тышкевіч адмыслова накіраваўся ў замак Грыпсгольм, названы ў гонар Бо Ёнсана Грыпа, аднаго з самых багатых людзей сярэднявечнай Швецыі. Прага ўзбагачэння настолькі кіравала гэтым чалавекам, што ён не цураўся нават выразаць ненароджанае дзіця з цела памерлай жонкі, абы толькі атрымаць яе спадчыну. Замак пераходзіў з рук у рукі, быў некаторы час манастыром, пакуль Густаў Ваза не пераўтварыў яго ў каралеўскую рэзідэнцыю.

Але найбольшую славу Грыпсгольм набыў як турма. Менавіта сюды быў накіраваны фінскі герцаг Юхан, якога старэйшы брат, кароль Швецыі Эрык XIV, западозрыў у сепаратысцкіх памкненнях. Кацярына Ягелонка верна пайшла ў зняволенне за мужам, і ў замку Грыпсгольм у іх нарадзілася двое дзяцей — у тым ліку Жыгімонт, які пазней стане каралём Рэчы Паспалітай (а на некаторы час — і шведскім каралём). У выніку змовы Эрыка скінуць (можа, хто памятае спектакль «Эрык XIV» ▶




Грыпсгольм — замак-турма, **дзе нарадзіўся вялікі князь літоўскі Жыгімонт III.**

ў 1866 годзе, на піку захаплення нацыянальнай гісторыяй, хоць вытокі калекцыі ўзыходзяць яшчэ да мастацкай галерэі Густава Вазы ў замку Грыпсгольм.

Наведванне варта пачаць з «залатога пакоя», браніраванай скарбніцы ў падвале. Гэтыя ювелірныя вырабы стагоддзямі збіраліся шведскай дзяржавай (закон пра абавязковы выкуп дзяржавай знойдзеных скарбаў існуе з 1700 года). Асаблівую цікавасць уяўляюць фігуркі багоў

▶ па п'есе Аўгуста Стрындберга ў Купалаўскім тэатры?), Юхан і Кацярына ўзыдуць на шведскі трон, а Эрык апынецца на іх месцы ў замку Грыпсгольм. Яго атруцяць на загад брата.

Цяпер замак працуе як партрэтная галерэя. Наведвальнік пабачыць конны партрэт ураджэнца Грыпсгольма Жыгімонта Вазы, створаны ў майстэрні Пітэра Паўля Рубенса, а таксама партрэт апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў каранацыйнай мантыі аўтарства яго любімага прыдворнага мастака Марчэла Бачарэлі. На жаль, толькі ў запасніках захоўваецца партрэт Яна Казіміра Сапегі, віленскага ваяводы і гетмана ВКЛ. Падчас Паўночнай вайны ён быў блізкім паплечнікам шведскага караля Карла XII, і, па сведчаннях сучаснікаў, шведскі кароль не прымаў рашэнняў без ягонай згоды. Копію партрэта можна ўбачыць у Ружанскім палацы, але арыгінал знаходзіцца ў Грыпсгольме.




**Юзаф Зімлер. Кацярына Ягелонка ў замку Грыпсгольм.**
З калекцыі Нацыянальнага музея ў Варшаве.
На каленях у Кацярыны маленькі Жыгімонт — будучы кароль Рэчы Паспалітай. Справа мастак адлюстраваў вартаўнікоў, якія сцерагуць зняволеных. Герцаг Юхан стаіць у задуменнай позе, якая сімвалізуе яго прыгнечаны стан.
Карціна мае выразны ідэалагічны пасыл. Кацярына была адданай каталічкай і свайго сына ў зняволенні вырасціла такім жа верным католікам (паглядзіце, на стале ў яе — крыж і разгорнутая Біблія, у правай руцэ — ружанец). Прытым што Швецыя на той момант была лютэранскай краінай, лютэранінам быў і Юхан (хоць і спачуваў каталіцызму — а што зробіш, з гэткай то жонкай).
Гэтая карціна — таксама і апалогія захавання каталіцкай веры (што мела асаблівы сэнс у Варшаве сярэдзіны XIX стагоддзя). Своеасаблівы парадокс у тым, што сам мастак, Юзаф Зімлер, паходзіў з польскіх немцаў-лютэран. Дарэчы, самы вядомы твор Зімлера — «Смерць Барбары Радзівіл».

### 4. **Музей шведскай гісторыі (*Historiska Museet*)**

Пачалі мы нашу вандроўку з ваколіц сталіцы, а цяпер вернемся ў Стакгольм. Музей шведскай гісторыі быў заснаваны

ФОТА ЮРЫЯ ПАЛАБЕЛА



**Рунічны камень** з Готланда.

і ўнікальны срэбны хрысціянскі крыжык з Біркі.

Музей валодае самай вялікай калекцыяй эпохі вікінгаў, але да мая 2020 года гэтая частка экспазіцыі знаходзіцца на абнаўленні, і можна толькі прадчуваць, якую бомбу для нас рыхтуюць супрацоўнікі музея. Затое можна паглядзець шыкоўную калекцыю рунічных камянёў з распрацаванымі міфалагічнымі і хрысціянскімі матывамі (у тым ліку ўбачыць, як бог Одзін выкрадае піва!), апынуцца ў цэнтры падаўлення паўстання на Готландзе дацкім каралём у 1361 годзе, параўнаць гатычныя і барочныя алтары з нашай культурнай традыцыяй.

### 5. Музей Вазы (*Vasamuseet*)

Некаторы час Рэч Паспалітая і Швецыя знаходзіліся ў дынастычнай уніі, аб’яднаныя кіраваннем Жыгімонта Вазы, але яго апантаная адданасць каталіцкай веры выклікала шмат пярэчанняў у лютэранскай Швецыі. Жыгімонта ўрэшце скінулі са шведскага трона, што стала прычынай зацяжных войнаў, якія прынеслі шмат стратаў Польшчы і асабліва Вялікаму Княству. Але ў гэтых войнах кавалася вайсковая слава Швецыі, якая пасля серыі цяжкіх паразаў здолела стварыць эфектыўную прафесійную армію і паступова стала гегемонам у рэгіёне Балтыйскага мора. Асаблівая заслуга належыць каралю Густаву II Адольфу, палкаводцу і рэфарматару, адзінаму каралю, якога тут празвалі «Вялікім».

Але з іменем гэтага караля звязана і адна з найбольшых трагедый у шведскай гісторыі. Для падмацавання вайсковай моцы Густаў II Адольф вырашыў стварыць флагманскі карабель, які мусіў мець два ярусы з артылерыяй, у той час як іншыя караблі мелі толькі адзін. У знамянальны дзень 10 жніўня 1628 года «Густаў Ваза», гонар шведскага флоту і асабістае «дзіця» караля, адпраўляецца ў першае плаванне на вачах усяго Стакгольма. Але першы ж моцны парыў ветру пачынае хістаць высокі карабель, наступны ж перакуліў — і карабель тоне. Частка экіпажа загінула. Больш страшнай ганьбы для Швецыі цяжка прыдумаць: флагман флоту, у які ўкладзена столькі рэсурсаў і спадзяванняў, праплыў толькі некалькі соцень метраў.

Але праз стагоддзі гэта трагедыя стала нечаканым падарункам для нашчадкаў. Новыя тэхналогіі дазволілі не толькі ўзняць карабель са дна, але і цалкам яго закансерваваць ды зрабіць даступным для публічнага агляду. Гэта адзіны ў свеце карабель XVII стагоддзя, які захаваўся ў такім стане.

### 6. Збраёўня Каралеўскага палаца (*Livrustkammaren*)

На маю думку, гэта самая цікавая частка палаца, да таго ж наведванне яе бясплатнае. Паводле пастаяннай экспазіцыі ▶

SHUTTERSTOCK.COM, BY ALEXANDER TOLSTYKH



**Музей Вазы карыстаецца велізарнай папулярнасцю,** штогод яго наведваюць каля паўтара мільёна чалавек.




Даспехі **Жыгімонта Аўгуста**.

можна прасачыць шведскую гісторыю праз прызму каралеўскай дынастыі: каранацыйны шлем Густава Вазы суседнічае з палявой уніформай Густава II Адольфа, у якой ён быў забіты ў бітве пад Лютцэнам у 1632 годзе. Тут жа маскарадная форма Густава III, у якой ён загінуў ад рук змоўцаў падчас балю ў оперы ў 1792 годзе...

А сустракае нас конны даспех Жыгімонта Аўгуста, караля Рэчы Паспалітай. Кароль не меў дзяцей, на ім скончылася дынастычная лінія Ягелонаў. Ягоная ж спадчына была падзеленая паміж трыма сёстрамі: Кацярынай, Сафіяй і Ганнай. У 1574 годзе, праз два гады пасля смерці брата, Ганна Ягелонка падарыла ягоны конны даспех шведскаму каралю Юхану III, мужу сястры Кацярыны, у знак прыязні і стратэгічнага партнёрства.

«Спадзяюся, што Ваша Вялікамосць, апрануўшы гэты даспех, будзе наводзіць такі жах на ўсіх сваіх ворагаў і непрыяцеляў, што тыя не здолеюць знесці атакі Вашай Вялікамосці, бо будуць ашаломленыя выглядам гэтых бліскучых даспехаў». Ганна разлічвала, што гэты падарунак паўплывае і на маладога прынца, нагадае яму пра далёкую Бацькаўшчыну.

Конны даспех быў выраблены нюрнбергскім майстрам Кунцам Лохнерам у 1550-я гады. Гэты майстар быў адным з найлепшых збраёўнікаў тагачаснай Еўропы, сярод яго кліентаў былі імператары, каралі і... Радзівілы. Вядома, што Лохнер прыязджаў у Варшаву, хутчэй за ўсё і ў Нясвіж таксама, з банальнай мэтай — выбіць грошы за свае замовы.

На жаль, у новай экспазіцыі не дэманструюць радзівілаўскі ордэн «Імя Ісуса» — напамін пра спробу стварыць саюзную дзяржаву Швецыі і ВКЛ. Ва ўмовах цяжкай вайны ў сярэдзіне XVII стагоддзя частка нашай шляхты вырашыла разарваць унію з Польшчай і заключыць саюз са Швецыяй. Накапілася шмат супярэчнасцяў з палякамі, але істотным быў і рэлігійны фактар: многія літоўскія магнаты перайшлі ў пратэстантызм і разам з праваслаўнымі ператварыліся ў Рэчы Паспалітай у рэлігійных дысідэнтаў. У той жа час паміж літоўскімі і шведскімі пратэстантамі ўсталяваліся моцныя культурныя і палітычныя сувязі.

Галоўным ініцыятарам шведска-літоўскага збліжэння стаў вялікі гетман літоўскі Януш Радзівіл, дзякуючы якому ў 1655 годзе была абвешчана Кейданская унія. На балі пасля абвяшчэння уніі шведскі бок уганараваў Радзівіла найвышэйшым каралеўскім ордэнам — «Імя Ісуса». Але нечаканая смерць Януша Радзівіла не дазволіла рэалізаваць Кейданскую унію — а мог бы быць цікавы паварот беларускай гісторыі.

Зрэшты, дзе зберагаецца Янушаў ордэн, невядома. А ў калекцыі музея знаходзіцца такі самы ордэн іншага Радзівіла — Багуслава, які пасля смерці стрыечнага брата Януша стаў галоўным правадыром шведскай партыі ў ВКЛ. Ён атрымаў ордэн за выратаванне жыцця шведскага караля Карла X Густава ў бітве пад Варшавай. Як гэты ордэн патрапіў у Стакгольм? Да Першай сусветнай вайны ён захоўваўся ў Нясвіжы, а пазней яго прадаў шведам польскі калекцыянер Анджэй Цеханавецкі, які прыклаў шмат намаганняў для аднаўлення Нясвіжскага палаца і, відаць, дзеля гэтага і стаў уладальнікам рэліквіі.

Таксама ў збраёўні захоўваецца шмат трафеяў з Варшавы, асабліва з разрабаванага Каралеўскага замка — у тым ліку рог Жыгімонта Вазы з косткі ўпаляванага ім зубра ці дзіцячыя даспехі каралевіча Уладзіслава.

### 7. Музей арміі (*Armemuseet*)

Шведскія трафеі складаюць і вялікую частку калекцыі Музея арміі. Некаторыя з іх прывозілі на выставу ў Мірскі замак. Але туды не змаглі даставіць радзівілаўскую гармату «Мелюзіну», адлітую ў 1602 годзе ў Нясвіжы нямецкім майстрам Германам Мольцфельтам. «Мелюзіна» была перададзеная ў Біржанскі замак, адкуль яе ў 1625 годзе вывезлі шведы. З гэтага часу яна захоўваецца як трафей у Стакгольме.

Гармата зроблена ў цікавай барочнай тэхніцы *rotto*: усё на свеце не вечнае, і таму гармата выглядае так, як быццам перажыла стагоддзі, развалілася і перавязаная вяроўкамі. Зараз у музеі яе паставілі стойма ў кут, але па задуме аўтараў яна мусіла знаходзіцца ў гарызантальным

Карл Ларсан. **Зімовае ахвярапрынашэнне.**

становішчы і выклікаць алюзіі з калонай антычнага храма, якая ўпала пад цяжарам часу.

Цікавая і назва: Мелюзіна — гэта легендарная русалка з міфа пра заснаванне Люксембурга. Люксембургская дынастыя дала шмат імператараў Святой Рымскай імперыі, князямі якой былі Радзівілы. На гармаце змешчаны надпіс: «Маё імя — Мелюзіна, і кожную бітву я ўкараноўваю славай». Толькі бітваў ёй перажыць не давялося, ніводнага разу з яе па ворагах не пулялі.

### 8. Нацыянальны музей (*Nationalmuseum*)

Сарцавіна калекцыі — грунтоўны збор Рэмбранта, дзе прысутнічаюць знакавыя творы, напрыклад «Змова батаваў пад кіраўніцтвам Клаўдзія Цывіла» (манументальная карціна мусіла ўпрыгожваць будынак амстэрдамскай Ратушы) ці «Старац Сімяон і дзіцятка Ісус у храме», — смерць спыніла руку майстра пры завяршэнні гэтай працы.

Прадказальна, што ў музеі захоўваецца выдатная калекцыя мастацтва рубяжу XIX—XX стагоддзяў, калі расквітнелі такія майстры, як Карл Ларсан (звярніце ўвагу на яго мурал над лесвіцай «Густаў Ваза ўваходзіць у Стакгольм» і скандальнае «Зімняе ахвярапрынашэнне») і Андэрс



Рэмбрант, апошняя карціна. **Сімяон і дзіцятка Ісус у храме.**

Зорн. Тут сабраная і выдатная калекцыя расійскіх праваслаўных абразоў, на адным з іх на сцэне Страшнага Суда *«литва хоробрая»* адпраўляецца разам з габрэямі і іншымі нявернымі ў пекла.

### 9. Музей танца (*Dansmueet*)

Можа быць, трохі нечаканы выбар. Але першы ў свеце музей, прысвечаны танцу, хавае некалькі сюрпрызаў. Заснаваў яго Ральф дэ Марэ, лідар «Шведскіх балетаў», якія канкуравалі з «Рускімі сезонамі» ў Парыжы 1920-х. Калекцыі «Шведскіх балетаў» і сталі асновай для музея, а да іх дадаліся касцюмы, маскі, лялькі, дэкарацыі, якія дэ Марэ збіраў па ўсім свеце. Ён настолькі адказна ставіўся да місіі зафіксаваць танцавальную культуру народаў свету, што мог завесці танцора пасля выступу ў кусты і зняць там з яго вопратку, бо хацеў сабраць аўтэнтычныя творы, а не вырабы турыстычнай індустрыі. ▸

▶ Вялікая частка калекцыі прысвечана «Рускім сезонам» і гарадзенцу Льву Баксту, які ствараў ім дэкарацыі. У Стакгольме апынулася большая частка сцэнаграфіі і касцюмаў балета «Спячая прыгажуня», якую Сяргей Дзягілеў ставіў у Лондане ў 1921 годзе. Тады «Рускія сезоны» перажывалі цяжкі час, і брытанская сталіца, напоўненая багатымі аматарамі мастацтва, выглядала як шанец на выратаванне. Леў Бакст стварыў дэкарацыі ў барочным ключы — раскошныя касцюмы з экзатычнымі матывамі, — але яго амбітная сцэнаграфія загнала спектакль у фінансавую прорву. Публіка не ацаніла зацягнуты класічны спектакль, і Дзягілеў вымушаны быў таемна ўцякаць з Лондана, а тэатр арыштаваў усе касцюмы як фінансавую заставу. У выніку яны добра захаваліся, а калі ў 1990-я касцюмы пачалі прадавацца на аўкцыёнах, Музей танца апантана іх скупляў. Апроч таго, у калекцыю ўвайшло і шыкоўнае, багата ілюстраванае выданне, якое Бакст падрыхтаваў да прэм'еры.

## 10. Нобелеўскі музей (*Nobelmuseet*)

Апошні наш прыпынак — у самым цэнтры Старога горада, у будынку былой біржы, дзе зараз месціцца Шведская акадэмія і Нобелеўскі музей. Тут можна даведацца пра жыццё і дзейнасць Альфрэда Нобеля, які праславіўся як стваральнік дынаміту і магутнай прамысловай імперыі. Ён завяшчаў большую частку спадчыны для заснавання Нобелеўскіх прэмій — па фізіцы (якую атрымліваў і ўраджэнец Віцебска Жарэс Алфёраў), хіміі, фізіялогіі альбо медыцыне, літаратуры, а таксама за садзейнічанне ўсталяванню міру на Зямлі.

Экспазіцыя музея мусіць паказваць творчасць лаўрэатаў, але іх за час існавання прэміі назбіралася столькі, што прадстаўленыя асабістыя рэчы толькі выбраных. На дзіва, сярод чатырох шчасліўчыкаў, якія рэпрэзентуюць літаратуру, на адной паліцы з Габрыэлем Гарсіа Маркесам — гісторыя Святланы Алексіевіч. Яна аддала ў музей свой касетны дыктафон *Panasonic*, на які запісвала аповеды людзей, што перажылі трагічныя і траўматычныя падзеі. Алексіевіч любяць у Швецыі аддана, пераклады і да гэтага часу можна знайсці на цэнтральных месцах у кнігарнях, раней яна шмат часу праводзіла ў гэтай краіне.

На гэтым наша вандроўка вымушаная спыніцца, хоць хацелася б завітаць і ў іншыя славутыя мясціны. Напрыклад, у Каралеўскі палац Дротнінгхольм, «шведскі Версаль», са знакамітым барочным тэатрам. Ці першы ў свеце скансен. Альбо ў Музей мадэрну, дзе ў зборах ёсць невялікая калекцыя твораў выкладчыкаў і навучэнцаў Віцебскай мастацкай вучэльні. Я ж спадзяюся, што гэтыя радкі падштурхнуць вас бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і культурай краіны, якая мае столькі гістарычных сувязяў з Беларуссю. ◆

**Чытайце таксама:**
Андрэй Катлярчук. Шведы ў гісторыі і культуры Беларусі







**Нобелеўскі музей знаходзіцца ў будынку старой біржы ў самым цэнтры Стакгольма.** Адна з цікавостак — асабістыя рэчы нобелеўскіх лаўрэатаў.



TravelHouse.info



POLSKI INSTYTUT WSPÓŁPRACY OBYWATELSKIEJ

# Добры старт у Польшчы

- **Мы прапануем экспертную і прававую падтрымку для індывідуальных і карпаратыўных кліентаў.**
- **Вы атрымаеце неабходныя практычныя веды для працы ў Польшчы па выгадных цэнах.**

## Што мы прапануем?

• бясплатную падтрымку ў афармленні віз і афіцыйных дакументаў для замежнікаў • рэгістрацыю і вядзенне бізнэсу • аперацыі з нерухомасцю • бізнэс-кансультацыі • паслугі перакладу • экскурсіі па Уроцлаве і Ніжняй Сілезіі • арэнду пакояў і офіснай прасторы ў нашым міні-гатэлі Travel House ва Уроцлаве.

Polski Instytut Współpracy Obywatelskiej,
г.Уроцлаў, Польшча

**Ёсць пытанні? Напішыце нам:** kaontakt@fpiwo.pl .
**Мы гаворым па-расейску.**

«На крупнік да пані Янавай з’язджаюцца за 85 кіламетраў, штомілю аблізваючыся па пяць разоў»



SHUTTERSTOCK.COM, BY BARBARA DUDZINSKA

# БЕЛАРУСКІ КРУПНІК:

## самы стары з еўрапейскіх мядовых лікёраў

**З 2018 года прынамсі два беларускія вытворцы выпускаюць мядовы лікёр «Крупнік». Між тым, крупнік, магчыма, самы стары з еўрапейскіх мядовых лікёраў. Расказвае доктар гісторыі Алесь Белы, чыя кніга «Сакатала бочачка» паспрыяла адраджэнню брэнда айчыннага крупніку.**

### Прысмак гераічнай рамантыкі

Адкуль паходзіць назва «крупнік»? А вось няма адзінай думкі. З аднаго боку, мядовы лікёр супадае па назве з традыцыйным супам і спосаб іх прыгатавання падобны: крупнік-лікёр варылі ў чыгунку ў печы гэтак жа, як і крупнік-суп. Ёсць і іншая думка: назва можа паходзіць ад слова «крупец» — зацукраваны, крышталізаваны мёд, з якога перадусім і гатавалі крупнік.

**Існавалі два прыёмы вырабу гэтага напою: паленне на ўзор пуншу або запарванне ў закрытым гаршку**

Акрамя мёду, у склад гэтага лікёру ўваходзяць апельсінавая і лімонная цэдра і розныя прыправы: цынамон, кардамон, шафран, мускатны арэх, гваздзікі, імбір, ваніль, рута, перац, сушаныя пялёсткі ружы, шыпшына, ядловец. Агулам вядома да 50 інгрэдыентаў, якія пасуюць да крупніку.

Сайт літоўскага вытворцы крупніку «*Stumbras*» паведамляе, нібыта ўпершыню напой быў

звараны паводле рэцэпту манахаў-бенедыкцінцаў да ўрачыстасцяў, прысвечаных завяршэнню пабудовы Нясвіжскага замка ў 1593 годзе. Але бенедыкцінцы з'явіліся ў Нясвіжы на 100 гадоў пазней, а нясвіжскі мураваны замак у 1593-м яшчэ не быў скончаны. Найхутчэй, гэта прыгожая легенда. А ў крыніцах звесткі пра «літоўскі крупнік» з'яўляюцца ў 1830-я гады. Пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гадоў у асяроддзі «літвінаў», што пасяліліся на эміграцыі, узнікла адмысловая цікавасць да ўласнай гастранамічнай традыцыі. Гістарычная Літва рамантызавалася як край пад самым цяжкім каланіяльным уціскам, які робіць гераічныя высілкі, каб вызваліцца. Таму і ўсе знакавыя прадукты і напоі «літвінаў» набывалі прысмак гераічнай рамантыкі: халаднік, зразы, старка, крупнік.

### Паленне і запарванне

Некалі ўменне добра варыць крупнік належала да галоўных здольнасцяў гаспадынь шляхецкіх дамоў. Падрабязнае апісанне тэхналогіі пакінуў вядомы мемуарыст XIX стагоддзя Станіслаў Мараўскі. Існавалі два прыёмы вырабу гэтага напою: паленне (фламбіраванне) на ўзор нямецкага317 пуншу або запарванне ў закрытым гаршку.

Першы спосаб больш відовішчны. У вялікую місу з абпаленай гліны або ў вазу, такую ж, як для пуншу, клалі некалькі шчэпацяў цынамону, гваздзікоў, імбіру і «ангельскага зелля» — духмянага перцу. Затым туды ўлівалі вядомую толькі гаспадыні колькасць моцнай, пад 60 градусаў, гарэлкі і пэўнага ўнікальнага гатунку мёду. Місу ставілі на стол, вакол яе збіраліся госці, а тады вадкасць падпальвалі галавешкай з печы. Блакітнае полымя ў місе разаграва́ла сумесь, насычаючы яе экстрактам спецый, і часткова карамелізавала мёд.



**Прыгатаванне крупніку метадам палення** (фламбіравання).

МАЛЮНАК АЛЕСІ ГАПОТА

## Гаспадыня давала каманду — і госці супольным выдыхам тушылі полымя ў місе

Духмяны водар разносіўся па пакоі, прыемна казычучы ноздры гасцей, а напой паступова набываў цёмна-бурштынавы колер. Нарэшце, у дакладна разлічаны момант гаспадыня давала каманду — і госці супольным адначасовым выдыхам тушылі полымя ў місе, а шаноўны гаспадар разліваў гатовы крупнік па келіхах і шкляніцах. Але шмат алкаголю і выгарала ў працэсе прыгатавання, таму ўрэшце ад такога марнатраўства адмовіліся. ▶

Спосаб прыгатавання крупніку метадам фламбіравання, акрамя ўсяго, яшчэ і не зусім бяспечны. У ліпені 2013 годзе падчас масавага святкавання Купалля ў сядзібе вядомага мастака Алеся Пушкіна ў мястэчку Бобр на Міншчыне адбыўся непрыемны выпадак, які ледзь не скончыўся трагедыяй. Падчас гатавання гаспадаром крупніку гарэлка, якая залівалася ў кацёл, успыхнула, у выніку чаго пяць чалавек атрымалі апёкі. Адна з пацярпелых дзяўчат была вымушана правесці ў бальніцы ажно два месяцы. Пасля таго мастак цалкам адмовіўся ад прыгатавання крупніку як элемента купальскіх урачыстасцяў.

▶ Другі традыцыйны спосаб прыгатавання крупніку — значна больш ашчадны: гарэлку, мёд і спецыі злучалі ў адмысловым гаршку, які шчыльна закрывалі. Стык паміж гаршком і вечкам заляплялі разжаваным хлебным мякішам або цестам. Тады гаршчок ставілі ў разагрэтую печ, і неўзабаве духмяная вадкасць булькатала пад вечкам. Праз пэўны час гаршчок вымалі пад воплескі вясёлай кампаніі, вечка збівалі, падсохлае цеста кідалі на падлогу. Але з бяспекай бывалі пытанні і тут: часам, калі вечка адбівала не спрактыкаваная гаспадыня, а нецярплівы маладзён, гарачай парай ад крупніку апякала твар...

Паводле Мараўскага, сапраўдных майстроў, а дакладней майстрыц, вырабу крупніку ніколі не было шмат. «У кожнай мясцовасці ледзь знойдзеш па адной такой шляхцянцы, якая была б вядомая сапраўдным талентам у гэтым рамястве. На крупнік да пані Янавай з'язджаюцца за 10 міляў (85 км), штомілю аблізваючыся па пяць разоў».




### Сімвал крупніку — ваза з полымем

У пачатку 1840-х у Старым Месце Варшавы, на рагу вуліц Піўнай і Пякарскай, у доме пад №105, месцілася «кнайпа» пад назвай «*Krupnik Litewski*», якую можна была здалёк пазнаць па шыльдзе з выявай вазы з полымем. Прычым, як можна зразумець з газет, рэклама свяцілася накшталт пазнейшых неонавых. Чаму б не зрабіць такі лагатып сталай эмблемай нашага крупніку?

### Найсмачнейшы — для цярплівых

Крупнік, як правіла, выпівалі адразу пасля прыгатавання, не вытрымліваючы яго, цэнячы тварыскасць, гарачыню і спантаннасць больш, чым дасканалы смак. Традыцыйна напой падавалі гарачым у малых парцалянавых філіжанках, але ў менш фармальных умовах пілі і са шклянак ці нават з драўляных або алавяных лыжак, чэрпаючы з агульнага сяброўскага кацялка.

## Крупнік выпівалі адразу пасля прыгатавання, цэнячы тварыскасць, гарачыню і спантаннасць

У нашы часы ступень патрабавальнасці спажыўцоў значна ўзрасла, таму сёння ў Польшчы і Літве цэняцца крупнікі добра вытрыманыя. У сучасных польскіх блогах можна прачытаць некалькі гісторый з апошніх дзесяцігоддзяў: крупнік куплялі ў краме або варылі дома, пакаштаваўшы, расчароўваліся і засоўвалі прадукт далёка ў шафу — а гадоў праз 5 або нават 15 выпадкова знаходзілі забыты напой. І тады ён смакаваў як амброзія! Не верыце — можаце праверыць, толькі набярыцеся цярплівасці. А калі цярпення не хапае, то памятайце: прытарна-салодкі смак толькі што зваранага крупніку можна кампенсаваць (часткова) лімоннай кіслатой.

І яшчэ трохі парад ад сучасных міксолагаў, як лепей піць нашыя крупнікі. Халодны можна піць са скрылькам лімона і некалькімі кавалкамі лёду ў келіху. Гарачы (што больш традыцыйна) — з кавалкам цвёрдага горкага шакаладу і парай кропель... масла


**Гаршкі з крупнікам** даспяваюць у гарачай печы.

NASTROY.NET

**Парцаляна** — іншая беларуская назва фарфору. Параўнай: фр. «порсэлен», іт. «порчэляна».




Літоўскі крупнік на мяжы XIX і XX стагоддзяў пачаў вырабляць у прамысловых маштабах найбуйнейшы тагачасны **расійскі гарэлачны фабрыкант Мікалай Шустаў.**

(а ў XIX стагоддзі ўжывалі нават гусіны тлушч!). Як сцвярджае літоўская гарэльня «*Stumbras*», крупнік — адзіны ў свеце лікёр, які п'юць падагрэтым да 50 градусаў, з маленькіх крышталёвых кілішкаў. Ён выдатна спалучаецца з кавай (можна з дадаткам узбітых вяршкоў) або гарбатай, асабліва ў халоднае ды сырое надвор'е. Даўней крупнік і пілі найперш зімой, прыкладна як немцы пунш або глінтвейн.

## Як лепш піць крупнік

Халодны крупнік смакуе са скрылькам лімона і некалькімі кавалкамі лёду ў келіху. Гарачы (што больш традыцыйна) — з кавалкам цвёрдага горкага шакаладу і парай кропель… масла (а ў XIX стагоддзі ўжывалі нават гусіны тлушч!). Для крупніка пасуюць маленькія кілішкі. Ідэальная тэмпература падачы — 50 градусаў. Ён выдатна спалучаецца з кавай або чаем, асабліва ў халоднае ды сырое надвор'е.

## Напой брацкай згоды

Яшчэ ў XIX стагоддзі крупнік стаў успрымацца як напой брацкай згоды, прымірэння. У класічнай камедыі «Пінская шляхта» сумесным распіццём крупніку завяршаецца канфлікт дзвюх пасвараных сем'яў. Вобраз крупніку — напой, які саграве і мірыць. У тую ж эпоху быў сфармуляваны і вобраз «ідэальнага крупніку»: «Чорны, як наваградскі анёл [з герба], салодкі, як ковенскі мёд, моцны, як турэцкая пяхота».

У пасляваеннай БССР цьмяная памяць пра крупнік жыла толькі сярод часткі нацыянальна арыентаванай моладзі, якая пачынаючы з 1970-х варыла аматарскія варыянты крупніку з рознымі зёлкамі як нібыта старажытны рытуальны напой на Купалле. На самай справе такая функцыя ніколі не была ўласцівая нашаму крупніку, які ўзнік ужо ў Новы час, без якіх-небудзь язычніцкіх сэнсавых адценняў, у рэчышчы шляхецкай культуры.

Верагодна, «хатні», трохі прасцяцкі вобраз крупніку, а таксама адсутнасць прадпрымальных фабрыкантаў,



WIKIMEDIA COMMONS

**Герб Навагрудка** з арханёлам Міхаілам у чорным даспеху.

## Чаму з'явіліся мядовыя лікёры?

Самым старым алкагольным напоем антраполагі лічаць пітны мёд, які атрымліваецца шляхам дражджавой ферментацыі пчалінага мёду, разведзенага вадой (больш падрабязна пра яго — у № 1/2019 «Нашай гісторыі»). Але гэты напой мае даволі дарагую сыравіну. Ад зыходнага смаку мёду ў ім застаецца не так шмат, бо ў асноўным мёд выдаткоўваецца на атрыманне алкаголю.
Але што, калі ўласна «градусы» атрымліваць з больш таннай сыравіны, а мёд дадаваць ужо ў гатовы дыстылят (або рэктыфікат)? Верагодна, менавіта такімі меркаваннямі кіраваўся невядомы беларускі геній, які вынайшаў крупнік. Да таго ж, у той час прагрэсіўная думка ўсёй Еўропы вырашала надзённую праблему: як «ашляхетніць» смак масавага моцнага алкаголю? Вырабляць танны спірт з бульбы толькі-толькі навучыліся, але на смак ён быў непрыемным. Адно з рашэнняў бачылася ў настойванні напою ў дубовых бочках і, па магчымасці, у выбары найлепшай сыравіны. Так з'явіліся каньяк, віскі і старка. Другое ж рашэнне было проста ў «заглушэнні» непрыемных водару і смаку чымсьці агрэсіўна салодкім. Так і з'явіліся лікёры.

якія б запусцілі на рынак ягоную прамысловую версію, спрычыніліся да нашай чарговай страты гістарычнага шанцу. На нашым крупніку, хоць і пад іншай назвай, зарабілі і грошы, і рэпутацыю іншыя краіны. Але будзем спадзявацца, што, вярнуўшыся на радзіму ў 2018 годзе пасля ледзь не стагадовай адсутнасці, наш старадаўні напой будзе чым далей, тым узрастаць у славе і ў нас, гуртуючы цяпер ужо ўсіх беларусаў у нацыю. ◆




**Палац Бенедыкціна.**

# Бенедыкцін і драмбуі каранямі з Беларусі?

Ледзь не ўсе еўрапейскія вытворцы мядовых лікёраў для павышэння цікавасці да сваіх прадуктаў выкарыстоўваюць прыём «штучнага састарвання» іх гісторыі. Так, французскі лікёр бенедыкцін (*Bénédictine*), які робіцца на аснове спірту з цукровых буракоў (па легендзе — на аснове каньяку), прэтэндуе на традыцыю, якая ўзыходзіць нібыта да 1510 года. Хоць насамрэч традыцыя яго вырабу прасочваецца толькі з 1860-х гадоў, калі нармандскі вінагандляр Аляксандр Легран нібыта знайшоў старажытны фаліянт з зашыфраванымі рэцэптамі манахаў-бенедыкцінцаў і здолеў аднавіць адзін з іх. Паводле яго сцверджання, бенедыкцінцы ў абацтве Фэкан у Верхняй Нармандыі выраблялі напой амаль 300 гадоў, пакуль іх не напаткалі рэпрэсіі падчас Французскай рэвалюцыі, у выніку чаго рэцэпт быў страчаны. На продажы легендарнага напою Легран казачна разбагацеў і на заробленыя грошы нават пабудаваў у Фэкане «Палац Бенедыкціна».

Рэцэптура і час «цудоўнага ўваскрашэння» бенедыкціна дае падставу для падазрэнняў: а ці не падказаў Аляксандру Леграну ідэю або і ўвесь рэцэпт хтосьці з нашых эмігрантаў? Пасля падаўлення антырасійскіх паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў іх у Францыі жыло мноства. У склад нармандскага напою ўваходзяць 27 кампанентаў — тройчы дзевяць. Гэтаксама, як і ў славутай літоўскай настойцы «*Trejos devynerios*» (назва перакладаецца акурат як «Тройчы дзевяць»). Вядома, што сярод кампанентаў бенедыкціна — ядловец, меліса, гваздзікі, цынамон, цэдра апельсіна, ваніль, лімон, ісоп. У асноўным тыя самыя зёлкі і спецыі, што ўжываюцца і ў нашых крупніках.




**Лікёрны цэх** у палацы Бенедыкціна.

А ўладальнік гатэля ў мястэчку Бродфард на востраве Скай Джон Рос, які ў 1879 годзе пачаў вырабляць шатландскі мядовы лікёр на аснове віскі «Драмбуі» (*Drambuie*), сцвярджаў, што рэцэпт яму падарылі прадстаўнікі арыстакратычнага клана МакКінан. Клан жа гэты, у сваю чаргу, нібыта таемна валодаў рэцэптам з 1746-га, калі пасля прайгранай бітвы ля Каладэна разбіты прэтэндэнт на шатландскі трон Чарльз Эдуард Сцюарт знайшоў кароткачасовы прытулак у капітана Джона МакКінана.

Вытворцы славутага ірландскага лікёра *Irish Mist* — настойкі моцнага алкаголю (віскі *Tullamore Dew*) на мёдзе (сумесі верасовага і канюшынавага) з дадаткам экстракту зёлак і спецый — таксама сцвярджаюць, што іхні прадукт насамрэч той самы тысячагадовы верасовы мёд, праслаўлены ў баладзе Роберта Льюіса Стывенсана. Нібыта ягоны рэцэпт быў адноўлены дзякуючы таямнічаму манускрыпту, які, праўда, ніколі не публікаваўся і не дэманстраваўся.

Падаецца, што ўсё гэта легенды. Ніякіх дакументальных пацвярджэнняў старажытнасці ніхто з гэтых вытворцаў не прадставіў.




**Дух рынку ў Слоніме,** такое ўражанне, мала змяніўся за стагоддзі. Але сінагога стаіць зачыненая і сплюндраваная, а на рынку прапануюць ужо шаверму.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

# Што налівалі ў першым беларускім бары

**Піцейна-забаўляльныя ўстановы існавалі на Беларусі здаўна. А ў XVIII стагоддзі з'явіліся яшчэ і кафенгаўзы — бары-рэстараны еўрапейскага ўзору. Першы такі адкрыўся ў Слоніме, дзе тады панавалі Агінскія. Піша Ягор Сурскі.**

## Бар з аптэкай

Размяшчаўся першы кафенгаўз на рынкавым пляцы Слоніма, фасадам да рынка, тылам да палаца, дзе жыў князь Агінскі. Будынак быў крыты гонтай, а на сцяне месцілася адмысловая шыльда. Абапал увахода стаялі чырвоныя слупы, на адным з якіх вісеў ліхтар.

Шлях ад ліхтара да «бара» быў пакручасты. Праз сенцы наведнік уваходзіў у першы пакой, аздоблены пяццю карцінамі і гравюрамі, з яго ў другі, адтуль у аптэку. У аптэцы ўжо налівалі, таму многія там і спыняліся.

Тагачасны чалавек не дзівіўся, пабачыўшы аптэку ў такім месцы. Справа ў тым, што аптэкі ў той час нярэдка працавалі як піцейныя ўстановы (але пры гэтым не плацілі адпаведнага падатку). Акрамя таго, у аптэцы адміністрацыя кафенгаўза захоўвала ласункі ды спецыі для настоек і лікёраў: цукар, араматычнае карэнне, прыправы (корань фіялкі, горкі міндаль, кардамон, мускатны арэх, карыцу, апельсінавую і лімонную цэдру, духмяны перац...).

Была ў кафенгаўзе таксама гаспадарская ізба (пакой адміністрацыі) з доступам да вінна-гарэлачнага склада. Паўз ізбу трэба было прайсці, ідучы ў банкетную залу — вялікі пакой для балявання і танцаў. Тут праводзілі і маскарады — у кафенгаўзе захоўваліся 73 «арлекінскія мужчынскія касцюмы», 59 жаночых касцюмаў, 33 капелюшы. У зале віселі люстэркі і стаялі тры столікі

## Дзе яшчэ былі кафенгаўзы

Ліда, Нясвіж, Целяханы, Гродна, магчыма, Слуцк.

для наведнікаў (чацвёрты — для напояў). Асвятлялі яе чатыры акны, кожнае з якіх складалася з 36 апраўленых у волава шыбак. Сцены ўпрыгожвалі 29 гравюр. Меўся выхад на паддашак.

Інтэр'еру першай беларускай кавярні можна пазайздросціць: акрамя карцін і гравюр, на сценах віселі лук са стрэламі (сагайдак), люстэркі, дэкаратыўныя сёдлы з выявай «Пагоні», капканы на ваўкоў і ліс, вышываныя персідскія дываны, скураныя куфры. Настрой стваралі парцалянавыя фігуркі людзей, слімакоў, вытанчаныя цукарніцы і вазы. Некаторыя інтэр'ерныя прадметы прынёс асабіста князь Агінскі.

У распараджэнні гасцей была машынка для вырабу нюхальнай табакі, кульбака (трэнажор для практыкаванняў у коннай яздзе), більярдны стол і іншыя забаўкі.

Падыхаць і асвяжыцца госці выходзілі на брукаваны падворак. Роўная пляцоўка была зроблена адмыслова пад «гульню ў шары». Што хаваецца за гэтай загадкавай назвай? Боўлінг!

А дадатковай забавай быў сонечны гадзіннік.



SHUTTERSTOCK.COM, BY LCRMS

### Што пілі

У дакументах Слонімскай эканоміі, якая знаходзілася ў трыманні Міхала Казіміра Агінскага, кафенгаўз згадваецца ў 1763 годзе як піцейная ўстанова, за якой замацоўвалася выключнае права продажу дарагіх прывазных напояў: «Віно венгерскае, заморскае, гарэлку гданьскую і цукровую, піва ангельскае і бутэлькавае, пітны мёд (гатунку ліпец) ніхто не мае права прадаваць у шынках, апрача скарбавага кафенгаўза, пад пагрозай штрафу ў 100 бітых талераў». Пералічаныя напоі былі заўважна даражэйшымі за звычайную гарэлку, піва і сытны мёд мясцовага вырабу. Спажываць іх магла толькі эліта.

У слонімскім кафенгаўзе ладзілі імпрэзы і ўрачыстасці, але ў той жа час ён быў новай установай рэстараннага тыпу, дзе шляхетная публіка магла бавіць час на еўрапейскі манер. Установа працавала кожны дзень, днём і ўначы. Адміністратар адмыслова ўстанавіў званкі, каб госці маглі паведаміць пра свой прыход.

### А ці пілі ў кафенгаўзе каву?

Як ні дзіўна, адказаць на гэтае пытанне адназначна не выпадае. У пераліку посуду пазначаныя «сподачкі ад кубкаў для гарачага шакаладу». Пра філіжанкі для кавы, аднак, нічога не сказана, хоць кава неаднаразова згадвалася ў асабістых выдатках Агінскага. У 1764 годзе на патрэбы князя было закуплена 200 фунтаў (каля 80 кг) кавы найлепшай якасці.

Бясспрэчна, Міхала Казіміра Агінскага можна залічыць да кавапанаў. За месяц зімы 1789–1790-га выдаткі Агінскага на каву склалі траціну ўсяго бюджэту на харчаванне: на напой і вяршкі да яго пайшло 196 злотых з 600! ▶



**Міхал Казімір Агінскі**

(1730–1800) — дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар і паэт. Атрымаў музычную адукацыю ў Еўропе. Слонімскую эканомію займеў пасля шлюбу з Аляксандрай Чартарыйскай, заклаў тут так званую «сядзібу муз», у якой адкрыў оперны тэатр, музычную капэлу, школу «Дэпартамент балетных дзяцей», дзе акрамя танцаў вучылі чытанню і пісьму дзяцей прыгонных. Пабудаваў у Слоніме некалькі прадпрыемстваў, пракладаў дарогі, па яго ініцыятыве і за яго сродкі быў пракапаны Агінскі канал, які злучыў Шчару і Ясельду.

Пры ім Слонім сталі называць «паўночнымі Афінамі».

У 1768 годзе стаў вялікім гетманам ВКЛ, у 1771-м далучыўся да Барскай канфедэрацыі і змагаўся супраць расійскіх войскаў. Пасля паражэння мусіў эміграваць, змог вярнуцца пасля амністыі ў сярэдзіне 1770-х. Належаў да патрыятычных колаў, у 1793-м адмовіўся ад гетманскай булавы ў знак пратэсту супраць адмены Канстытуцыі 3 мая.

6 лістапада 2019 года быў урачыста адкрыты бюст Агінскаму каля драматычнага тэатра ў Слоніме. Фундатарам праекта стаў мясцовы прадпрымальнік Уладзімір Вількіцкі.

▶ І гэта без уліку вытрат на прывазны цукар! Выдаткі на мяса за гэты перыяд склалі ўсяго 53 злотых.

Са 107 прадметаў, пералічаных у рэестры гетманскага посуду, больш як 10 прызначаліся для прыгатавання кавы: падносы, млынкі, патэльні для падсмажвання зерня... Быў і адмысловы рог для піцця.

Вытраты на каву, а таксама на адмысловы посуд для яе адзначаліся ў расходных кнігах ў рубрыцы «Для гардэробу» — гэтак падкрэслівалі статуснасць прадукту.



PINTEREST.COM

На выпадак маскараду кафенгаўз меў **73 арлекінскія мужчынскія касцюмы**



WIKIMEDIA COMMONS

**Карнавал.** Карл Швенінгер-малодшы. 1886 год.

## Сімвал эпохі

У 1797 годзе, ужо пры Расійскай імперыі, у Слоніме існавалі побач два кафенгаўзы. Новы кафенгаўз быў мураваны, са стайняй на падворку — такі сабе гасцінны дом. Верагодна, на ўзор ранейшага кафенгаўза ў ім таксама зрабілі вялікую залу для танцаў. Будынак на правах арэнды трымаў пан Пуслоўскі, тагачасны пасэсар (часовы трымальнік) Слонімскай эканоміі.

А вось падрабязнага апісання старога, знаёмага нам кафенгаўза ў 1797 годзе не рабілі. Але наяўныя дэталі сумныя. Між іншым згадваецца, што падлога ў вялікай зале будынка «цалкам у руінах». Бляск і веліч колішняга слонімскага кафенгаўза засталіся ў мінулых часах. ◆




**Кур'яновіч, Юры. Пятро Франко: авіятар, хімік, літаратар. Біяграфічны нарыс.** — Мінск: Друк-С, 2019. — 90 с.

Гэтая кніга апавядае пра таленавітага навукоўца-хіміка, літаратара, а таксама аднаго з першых украінскіх авіятараў Пятра Франко (1890—1941). Ён быў сынам класіка ўкраінскай літаратуры Івана Франко. Сярод іншага ў кнізе змешчаныя і ягоныя ўспаміны пра бацьку — «Іван Франко зблізу».



# Гродна: ПЯЧАТКА, якая ставіць тлустую кропку

У канцы кастрычніка мінскі археолаг Іван Спірын, які вядзе нагляд за землянымі работамі на Новым замку ў Гродне, знайшоў віслую пячатку, якую смела можна аднесці да першых гадоў існавання Гродна. Такія свінцовыя пячаткі заціскаліся на шнурках, прымацаваных да розных дакументаў, напрыклад лістоў. Традыцыя іх вырабу сягае да часоў Старажытнага Рыма і Візантыі (III–IV стагоддзе н. э.) і адтуль прыйшла на землі Русі.

У тыя часы, калі на свеце яшчэ не было тысяч «узброеных» металашукальнікамі чорнакапальнікаў, такія пячаткі былі вялікай рэдкасцю і бадай што кожная рабілася сенсацыяй у археалагічнай навуцы. Сёння іх вядома значна больш, і таму падобныя прыклады з інтэрнэт-форумаў ды спецыяльнай літаратуры дазволілі даволі хутка ідэнтыфікаваць пячатку.

Яна належыць князю Уладзіміру Манамаху, бацьку гродзенскай княгзёўны Агаф'і. На адным яе баку выява святога Васілія Кесарыйскага (нябеснага апекуна Уладзіміра Манамаха, які пры хросце атрымаў імя Васілій), а з другога боку — надпіс на старажытнарускай мове з просьбай аб божай дапамозе: *«Господи, помози рабу своему Василию, князя русьского»*.

Ёсць знаходкі пячатак з падобным надпісам па-грэчаску. Яны адносяцца да позняга перыяду ўладарання Уладзіміра Манамаха (пасля 1113 года).

Нагадаем, што ў 1116-м вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах выдаў сваю дачку Агаф'ю за гродзенскага князя Усеваладка Давыдавіча. Князь Усевалад (Усеваладка) і згадваецца як гродзенскі князь у 1127 годзе. Тады адбыўся вялікі паход князёў, якія знаходзіліся ў сферы ўплываў Кіева, на полацкіх крывічоў, і гродзенцы бралі ў ім удзел.

Гэтая знаходка важная па дзвюх прычынах. Па-першае, яна ставіць тлустую кропку ў дыскусіі пра тое, ці сапраўды летапісны Горадзен 1127 года — гэта сучаснае Гродна. У прынцыпе, гісторыкі і археолагі не асабліва сумняваліся ў гэтым, але знаходка пячаткі Уладзіміра Манамаха, які пісаў у Горадзен да сваіх дачкі і зяця, бадай, бясспрэчна пацвярджае тоеснасць летапіснага Горадзена і сучаснага Гродна.

Другі важны момант — месца знаходкі: гэта значыць, тэрыторыя навокал сучаснага Новага замка адкрываецца як выключна важнае месца для перспектыўных археалагічных раскопак. Год таму падчас земляных работ там выкапалі часткі нейкіх немалых пабудоў з плінфы, што датуе аб'ект XII–XIII стагоддзямі. Кавалак сцяны з плінфы аўтару давялося пабачыць недалёка ад брамы Новага замка яшчэ ў сярэдзіне 2000-х. Думаецца, што на Новым замку будучых археолагаў чакаюць адкрыцці, не менш цікавыя за тыя, што былі зробленыя на Замкавай гары, дзе цяпер знаходзіцца Стары замак. Гродна часоў Старажытнай Русі яшчэ хавае шмат таямніц.

**Андрэй Вашкевіч,**
паводле матэрыялаў сайта
museum-grodno.by

**Плінфа** — тонкая абпаленая цэгла, шырыня якой была прыкладна роўная даўжыні. Выкарыстоўвалася ў асноўным да XIII стагоддзя, пасля выцесненая іншымі матэрыяламі.






# Знаходка ў Ружанах

## драўляныя дзверы са следам Божай Маці

**Піша архітэктарка Юлія Шастак.**

Гэта колішнія галоўныя ўваходныя дзверы ружанскага касцёла. Да мінулага года яны захоўваліся сярод іншай старызны на паддашшы, але па ініцыятыве ксяндза Януша Пуліта былі ўрэшце выстаўленыя ў нартэксе касцёла (злева ад увахода). Цікавыя гэтыя драўляныя дзверы не толькі часам стварэння, хоць настолькі даўніх вырабаў у нас засталося вобмаль. Галоўнай адметнасцю з'яўляецца выразаны на іх 81 радок шэдэўра рэлігійнай літаратуры, напісанага невядомым аўтарам!

Мураваны касцёл у Ружанах быў пабудаваны да 1617 года. Прыватнаўласніцкі горад Сапегаў выглядаў у XVII стагоддзі настолькі непераможным, што менавіта тут падчас трынаццацігадовай вайны Расіі з Рэччу Паспалітай цягам пяці гадоў праходзілі пасяджэнні віленскай капітулы і захоўваліся галоўныя сакральныя рэліквіі, улучна з мошчамі нябеснага апекуна Вялікага Княства Святога Казіміра. Што праўда, непераможнасць гэтая была, так бы мовіць, троху перабольшанай, і да другой паловы XVIII стагоддзя касцёл ужо надта «патрабаваў рэпарацыі» і ўрэшце быў рэканструяваны па праекце Яна Самуэля Бекера. Хутчэй за ўсё, у той час галоўныя дзверы і памянялі на новыя.

Ступня (стапа), у англійскай традыцыі фут (ад *foot* — англ. ступня) — старадаўняя адзінка вымярэння даўжыні. Стапа літоўская складала 32,5 см, стапа польская каронная — 29,3–29,8 см (9/10 ад стапы літоўскай).



ФОТА МІКОЛЫ КУЗІЧА, SANTS-REGION.INFO

Не выключана, што старыя дзверы не выкінулі ці не спалілі акурат з прымхлівай павагі да «надрукаванага» тэксту, дзе галоўнае месца ў падкрэслена пышнай аздобе аддадзена простаму абрысу ступні з прысвячэннем Панне Марыі. Божай Маці адрасаваная і значная частка напісанага. Таксама невядомы аўтар пазначыў даты пачатку і канца працы, добрасумленна і шматслоўна папрасіўшы за сваю душу, і, верагодна, пакінуў уласны подпіс, які схаваўся за ніжняй дошкай.

Самае цікавае, што ступня Божай Маці па даўжыні адпавядае гандлёваму эталону даўжыні — стапе. Гэта пакідае адчуванне ці то ўдалай барочнай метафары, ці то не менш удалага рацыянальнага вырашэння спрэчак паміж удзельнікамі славутых ружанскіх кірмашоў, што адбываліся на плошчы акурат перад касцёлам.

А тэкст на дзвярах прыадкрывае некаторыя старонкі жыцця чалавека XVII стагоддзя. Праз год пасля скančэння адной з самых знішчальных войнаў у нашай гісторыі ў спустошанай

## Ружаны

мястэчка ў Пружанскім раёне, прыкладна 3000 жыхароў. Слаўнае руінамі велічнага палаца Сапегаў, які цяпер патроху аднаўляюць. У Ружанах адна насупраць другога стаяць цікавыя барочная царква і касцёл у стылі рэнесансу — апошні, праўда, моцна сапсаваны пазнейшымі спрашчэннямі.

краіне, у разрабаваных Ружанах невядомы нам чалавек піша пранізлівую, узнёслую малітву, робіць яе ў цвёрдым матэрыяле і размяшчае так, каб усе маглі яе бачыць і карыстацца. І каб кожны мог спаталіць сваю душу абяцаннем працягу ў іншым, дабрэйшым свеце.

Напрыклад, вось адзін з абзацаў у перакладзе з польскай:

«Вялікай таямніцы тваёй, Пане, у трох персонах, што мае неспасцігальную прыхаванасць у любові, глыбокую салодкасць і адзіную Боскую ўсямоцнасць, і Матцы міласэрнасці, слова Бога з Бога святло і ласку вечна нараджаючай і даючай на вечную чэсць, і хвалу, і ўпрыгожанне ўсіх святых заслуг, і кладу гэтую стопку ад нас з усіх сіл маіх — нікчэмнай пакораю перад айцоўскай прадвечнай Тваёй і вечнай абаронай і аховай душы і цела, якое тут, на той нізіне, госцем, жабраком, салдатам, пілігрымам няшчасным, лазарам зусім адзінокім, чарвяком, прахам Пана Хрыстовым прабывала і пілігрымавала. А тое друкаваў року 1668 ад дня Тройцы Святой да дня 26 красавіка року 1669». ◆

Падрабязней пра ўнікальную знаходку чытайце ў артыкуле архітэктараў Юліі Шастак і Аляксея Яроменкі ў «Беларускім гістарычным часопісе» №9 за 2019 год.

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ,

## АБО НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І ПРАГРАМІСТАЎ

### ЧАСТКА 4

СЮЖЭТ **АНДРЭЯ СКУРКО**,
МАЛЮНАК **ФІЛІПА КАКОШЫ**

























ВАЙНА...ТАК, ДЗЕТКА, ВАЯВАЎ...З НЕМЦАМІ... ПАД ГРУНВАЛЬДАМ МЫ ІХ РАЗБІЛІ... І РОДНЫЯ Ў МЯНЕ ЁСЦЬ - ДАЧКА... ДАЛЁКА ЯНА, У МАСКВЕ, ЗАМУЖАМ...

Э, МАЛЫ, ДАВАЙ АДТУЛЬ! НЕ БАЧЫШ - ДРЭННА ДЗЕД САБЕ ПАЧУВАЕ! НЯМА ЧАГО НЕПАКОІЦЬ!
...

ДОБРЫ ДЗЕНЬ! ВЫ АПЯКУН? ДЗЯДУЛЕВУ ПЕНСІЮ ПРЫНЕСЛА.
ТАК-ТАК, Я!

ДАВАЙЦЕ-ДАВАЙЦЕ... ДЗЕ РАСПІСАЦЦА?..
ДА ПАБАЧЭННЯ...
ПРАБАЧЦЕ, МЫ ПОЙДЗЕМ...

І ВОСЬ УСЕ СЫШЛІ...
НУ, ВОСЬ І ЧАС ПРЫЙШОЎ...

ПАЧНЁМ!..

НУ ШТО, ВАШАМОСЦЬ, ПАРА СПАЦЬ! А ТО ЗАБАЛБАТАЎСЯ Я, ЛЕДЗЬ НЕ ПРАПУСЦІЎ ЧАС...

ЯК ТЫ МНЕ АБРЫД!..
АДЗІНАЯ РАДАСЦЬ - МУЧЫЦЬ ЦЯБЕ!
ТЫ... НІЧОГА НЕ ДАБ'ЕШСЯ!..

ДЫК ВОСЬ ЯНО ШТО!..


ДОМА...
ГЭТЫ УРКА АЗЕДА ЎКОЛАМІ Ў РАСЛІНУ ПЕРАТВАРАЕ!
ХМ... ШМАТ СУПАДЗЕННЯЎ! ВЕРАГОДНА, ГЭТА САПРАЎДЫ ЁН! ЯШЧЭ ЁСЦЬ ШТО?
А Ў ХВІЛІНЫ ПРАСВЯТЛЕННЯ СТАРЫ КАЗАЎ НЕШТА ПРА ГРУНВАЛЬД ДЫ ПРА ДАЧКУ Ў МАСКВЕ


Я ЎПОТАЙ ЗРАБІЎ ЗДЫМАК ЯГОНЫ, ВОСЬ, ГЛЯДЗІ...
НАЎРАД ЦІ МЫ ЯГО ПАЗНАЕМ, ШМАТ ГАДОЎ МІНУЛА...


БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО ГЭТА ВІТАЎТ.
ТРЭБА ЯГО АДТУЛЬ ВЫЦЯГВАЦЬ. З ТАБОЙ ПОЙДЗЕ КАСТУСЬ!


КАСТУСЬ? А ГЭТА...?
ВАЎ!


ВАЎ!
ДЫК ГЭТА... ГЭТА... ВЫ?
А ТЫ ДУМАЎ, ДЗЯЦЮК, МЯНЕ ПАХАВАЛІ? ЧАС У ДАРОГУ! ПАЕДЗЕМ ТВАЁЙ МАШЫНАЙ


МАКСІМ І КАСТУСЬ ВЫПРАВІЛІСЯ Ў ДАРОГУ...
А... ЛЯТАЦЬ ВЫ НЕ МОЖАЦЕ?
А ЧАМУ, ТЫ ДУМАЕШ, Я АДЗІН?


ЯСЕНЬ КАЛЯ ХАТЫ, ЯКІ ПАДСІЛКОЎВАЕ НАШ ПАРТАЛ, ПАКУЛЬ НЕ МОЖА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЭНЕРГІЯЙ ЦЭЛУЮ КАМАНДУ.
А КАЛІ ПАРТАЛ АДКРЫЦЬ ТАМ, ДЗЕ НАМ ТРЭБА?
ГЭТАК ТОЛЬКІ ВІТАЎТ МОГ. ЯГОНАЯ СУПЕРСІЛА.
ДЫК ЧАМУ ЁН НЕ ВЯРНУЎСЯ ТАДЫ Ў СУПЕРБЕЛАРУСЬ, КАЛІ МОГ АДКРЫВАЦЬ ПАРТАЛЫ, ДЗЕ ХАЦЕЎ?
ДЛЯ ГЭТАГА ЎСЁ АДНО ТРЭБА ЯСЕНЬ. А ЯГО СПАЛІЛІ Ў 1919-М. ПАКУЛЬ НОВЫ НЕ ВЫРАС, МЫ СЯДЗЕЛІ БЕЗ СУВЯЗІ З ВАМІ...


І ВОСЬ...
ТРЭБА ПАДГАДАЦЬ ЧАС, ПАКУЛЬ ХАЛУЁЎ НЕ ПАСПЕЎ ЗРАБІЦЬ ВІТАЎТУ ЎКОЛ. ВІТАЎТ РЭГЕНЕРУЕЦЦА І ДАПАМОЖА НАМ, КАЛІ БУДЗЕ ПАТРЭБА.
ЁН РОБІЦЬ УКОЛ КОЖНЫ ДЗЕНЬ РОЎНА А 14-Й. ЗАРАЗ - 13.58.


ЧАС! ПАЙШЛІ!


ЁН НЕ ЧУЕ, МУЗЫКА ГРАЕ.


НІЧОГА, ЗАРАЗ ПАЧУЕ!

Над ракой згушчаліся хмары.




Зараз з неба лясне Пярун!

Не Пярун, а Тор — уладар маланкі!

Бум!

Ба-да-бум!

Злітуйся, Тор!

Не злуйся, Пярун!


Пачалася залева.
Карабель мог патануць.


Гэта ўсё вы, праклятыя варагі! Не верыце ў Перуна, дык зараз ён вам маланкай жахне!
Няма ніякага Перуна! Бог Тор злуецца на цябе. Атрымаеш ад яго маланкай па дурной галаве!


А можа, ва ўсім вінаваты гэты бадзяга Торвальд? Давайце скінем яго з лодкі. Улагодзім Тора і Перуна!


Не дазволім!
Як вам не сорамна?


І тут маланка ўдарыла ў сякеру Танакі!


Хмары разышліся. Бура сцішылася.







Нарэшце, на даляглядзе паказаўся горад Кіеў.





















Шкада толькі, што ў нас грошай няма.

Клас!

Працяг будзе...

**У наш час з’явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**



# Міжваенная кантрабанда ў Ракаве: рамантыка ці брыдота?

Краязнавец з Глыбоччыны **Кастусь Шыталь** негатыўна выказаўся ў сябе ў аэйсбуку пра папулярнасць сярод сучасных беларусаў твораў польскага пісьменніка беларускага паходжання Сяргея Пясецкага, героямі якіх часта з’яўляюцца прадстаўнікі крымінальнага свету: «Мне не падабаецца, што частка дзеячаў культуры рамантызуе ракаўскую кантрабанду 20-х — з тамтэйшымі бардэлямі, барамі і рэстарацыямі ды стралянінай. У гэтым няма нічога добрага. Ад злачыннасці — зло, забойствы і паламаныя лёсы. Няма там нічога такога, што можна прадставіць як рамантычны прыклад нашчадкам».

Каментатары збольшага не падзяляюць ягоную катэгарычнасць. **Андрэй Строцаў** адзначае: «Пясецкі пісаў не для нашчадкаў, а для сучаснікаў. І не думаю, што ён збіраўся даваць некаму прыклад. Мастацтва, тым больш, як ты кажаш, рамантычнае, не так дзейнічае, што чалавек убачыў у кіно каўбоя і адразу сеў на каня з пісталетам і ласо і з’ехаў за гарызонт. Часта людзі глядзяць або чытаюць дэтэктывы, шпіёнскія раманы, ваенныя апавяданні і гэтак далей менавіта дзеля таго, каб дакрануцца да свету, з якім яны ў сваім жыцці не перасякаюцца і не хочуць перасякацца. Толькі сацрэалізм успрымае мастацтва як прамое ўздзеянне тыпу “прыклад – вынік”. Але гэта не працуе, як паказала нам гісторыя савецкага мастацтва».






Падобна кажа і **Аляксандр Велічкевіч**: «Рамантызацыя т. зв. “зла” — рэч пастаянная: Чыкага 30-х,
рабаўнік Робін Гуд і гэтак далей. Проста “адмоўны персанаж” і ёсць рухавік любога твора (кіно, казка, раман, паэма і г. д.), без яго (злога дракона) чароўны прынц не змог бы сябе праявіць. І ніякай казкі-гісторыі не атрымалася б».

Ва ўнісон выказваецца і **Ларыса Кузняцова**: «Рамантыкі можа і няма, але былі і розныя абставіны, дзякуючы якім людзі станавіліся кантрабандыстамі і разбойнікамі. А ў Вас, прабачце, нейкі стэрыльны падыход. Не ўсім пашчасціла ў жыцці стаць “правільнымі”, а Пясецкі чытаецца з цікаўнасцю, бо ведае, пра што піша».

Зрэшты, ёсць у Шыталя

і аднадумцы. Гісторык і паэт **Антон Рудак** дэкларуе: «Мне яшчэ і глярыфікацыя Пясецкага не надта падабаецца». Ды і ўвогуле, творчасць гэтага пісьменніка ён ацэньвае невысока: «Я таксама чытаў “Каханка Вялікай Мядзведзіцы”, “Жыццё раззброенага чалавека”, зладзейскую трылогію, “Запіскі афіцэра Чырвонай арміі”. “Жыццё...” яшчэ больш-менш, а астатняе збольшага абы-што». Але густы ў людзей розныя, ды і аб’ектыўныя фактары сведчаць, што творчасць Сяргея Пясецкага ўсё ж з’ява не зусім ардынарная.

**Сяргей Кузняцоў** з Рудаком не згодзен: «Каб тое было сапраўды абы-што, не адкрыў бы Пясецкі нагой дзверы ў літаратурную тусоўку. Згодны, што “Жыццё...” стаіць вышэй за іншыя творы. Зрэшты, і сам Пясецкі так лічыў. Мне яшчэ добра зайшлі “Прыгоды д’ябла Марка”, але там ужо польская тэматыка».

Многія, аднак, трымаюцца пазіцыі пасярэдзіне: самі не ў захапленні, але да існавання самога жанру ставяцца з разуменнем. Грамадскі дзеяч **Юры Меляшкевіч** звяртае ўвагу: «На ідэалізацыі гэтага вось усяго пабудаваны, напрыклад, жанр вестэрна. А так у прынцыпе ты маеш рацыю». **Павел Ляхновіч** піша: «Герой “Каханка Вялікай Мядзведзіцы”, ён жа аўтар — асоба амаральная. Але ж таленавітая і цікавая. І, падаецца, шчырая. І час той выглядае з яго кнігі зусім іначай, чым выкладалася ў “Гісторыі СССР”».

Гісторык **Алесь Белы** заўважае: «Мне да пэўнай ступені таксама не падабаецца, але гэта гледзячы з чым параўноўваць. Калі з ГУЛАГам, дык кантрабанда і ўся яе аўра — значны крок наперад, да свабоды».

**Сняжана Інанец** канстатуе: «Без рамантызацыі такога нікуды, што ж зробіш. У мяне таксама дзіўнае пачуцце, але творы Пясецкага таленавітыя ўсё роўна».

Была з той дыскусіі і практычная карысць. **Алега Мяховіча**, аднаго з адміністратараў фэйсбук-суполкі «Фотаархіў “Позірк”», куды людзі актыўна пасцяць фатаграфіі з сямейных збораў,назіранне за палемікай падштурхнула да пошуку ў гэтым архіве здымкаў, на якіх выяўленыя ракаўскія кантрабандысты. І гэткія здымкі там такі знайшліся!

## Касцёл быў гуманным эксплуататарам?

«На ўтрыманне заможнага касцёла ў Ляхавіцкім графстве працавалі літаральна ўсе. Сяляне графства плацілі царкоўную дзесяціну манетай і збожжам, мяшчане выплачвалі падатак, плаціў і кагал 400 злотых на год. Што казаць пра падуладных касцёлу ляхавіцкіх мяшчан і сялян з Патапавіч і Канюхоў, якія мелі спіс павіннасцяў. Вось толькі ў традыцыях савецкай гістарыяграфіі назваць касцёл эксплуататарам язык не павернецца. Трэба адзначыць, касцёл быў гуманным землеўладальнікам і ў чымсьці перадавым. Дзякла замянялася на чынш, а мяшчане з юрыдыкі наогул абвяшчаліся свабоднымі... Ды і сялянскія павіннасці былі не такія ўжо і суровыя ўзамен на права карыстацца 1/2 валокай зямлі (хто зараз пахваліцца 10 га?)», — такая нечаканая выснова кандыдата гістарычных навук Паўла Булатага, які ў сваёй дысертацыі якраз і даследаваў Ляхавіцкае графства.

Спасылка на яго артыкул «Павіннасці сялян і мяшчан Ляхавіцкага графства на карысць каталіцкай парафіі ў XVII–XVIII стагоддзях». ◆






Фота, якое выклікала здзіўленне карыстальнікаў сацыяльных сетак. **Цацкі Першай сусветнай вайны.** Ваенна-палявы шпіталь з палаткай Чырвонага Крыжа.












# Падпісны індэкс 00469















## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.